**Змест**





**Мікалай Анісавец**

# На скрыжаваннях шляхоў, межаў і эпох

**(Нарысы гісторыі Лоеўшчыны)**

## Частка I

**г. Лоеў 2017г.**

## Прадмова

Ля вытокаў краязнаўства на Лоеўшчыне ў сярэдзіне ХХ стагоддзя стаялі два выдатныя гісторыкі: Павел Міхайлавіч Шарэпа і Іван Рыгоравіч Ермакоў. Першы з іх распачаў сістэмныя даследаванні гісторыі роднага краю, заснаваў краязнаўчы музей у Лоеўскай сярэдняй школе ў 50-ыя гады, другі – пасляхова працягваў гэтую працу ў 60-80 гады мінулага стагоддзя. Менавіта яны заклалі фундамент гістарычнага краязнаўства Лоеўшчыны, асновай якога зараз з'яўляецца раённы музей "Бітвы за Днепр". Вядома, што кожны з іх планаваў напісаць гісторыю Лоеўшчыны і вёў для гэтага падрыхтоўчую працу. На вялікі жаль, здзейсніць гэтую задуму яны не паспелі.

Кніжка, якую ты, паважаны чытач, трымаеш у руках напісана аўтарам на аснове даследавання вялікага кола гістарычных крыніц і некаторых напрацовак, запісаў, зробленых у свой час П.М.Шарэпам і І.Р.Ермаковым. Шчырая падзяка іх родным за матэрыялы з сямейных архіваў, якія яны перадалі для карыстання краязнаўчай грамадскасці.

"Нарысы гісторыі Лоеўшчыны" задуманы як дадатак да гісторыка-дакументальнай хронікі "Памяць", выдадзенай выдавецтвам "Беларуская Энцыклапедыя" у 2000 годзе, бо гісторыя Лоеўшчыны ў ёй ад старажытных часоў да падзей кастрычніка 1917 года выкладзена толькі фрагментарна і ўтрымлівае некаторыя недакладнасці. "Нарысы ..." складаюцца з 15 артыкулаў, кожны з якіх раскрывае пэўны аспект гісторыі нашай малой Радзімы. Мы шчыра працавалі для цябе, паважаны чытач, каб адлюстраваць гісторыю нашай роднай Лоеўшчыны па магчымасці такой, якой яна была. Зразумела, не ўсе гістарычныя крыніцы ўдалося знайсці і даследаваць. Спадзяёмся, што пройдзе час і новыя гісторыкі-краязнаўцы працягнуць пачэсную справу даследавання роднага краю, напішуць новыя артыкулы, выдадуць новыя больш дасканалыя і цікавыя кніжкі аб гісторыі Лоеўскай зямлі – блаславеннай зямлі нашых продкаў.

Мікалай Анісавец.





вачоў», які суправаджалі параходы «Аляксандраўск» і «Кіеў». На працягу іх руху адбываліся ўрачыстыя сустрэчы і малебны жыхароў прыдняпроўскіх украінскіх і беларускіх гарадоў і вёсак: Любеча, Лапатнёў, Радуля, Дзяражыч, Шчытцаў, Рэчыцы і іншых. Надзвычай узнёслай і кранальнай была сустрэча мошчаў прэпадобнай Ефрасінні у Лоеве, куды цеплаходы прыбылі 24 красавіка а 10 гадзіне вечара. Вось якія ўспаміны аб гэтай падзеі пакінуў адзін з яе удзельнікаў:" Уже вечер… Бездонное небо, как неизмеримо широкий необъятный океан, повисло своим темно-голубым куполом над миром… Тысячи небесных свечей мерцают в таинственной вышине... Высокий берег Днепра, как вековая стена, стоит над игриво переливающимися струйками реки… Мы у Лоева… Плавно проходит близ берега "Головачев"… Тихая речная гладь… Мрак ночи все сгущается… Все вокруг начинает терять свои очертания… Берег сливается с ровной, точно застывшей, рекой… Повсюду, по обоим берегам, как чистые звездочки, теплятся свечи в руках людей… Не видно лиц, не слышно голосов… Только ровные огоньки свечей говорят: они здесь… Они многие часы на страже… Ждут великого мгновения, когда пароход со святыней пройдет мимо них… Для этого мгновения они пришли за десятки верст, простояли в ожидании долгие часы…»
[148]

«Галавачоў» зусім сцішыў ход і павольна рухаўся па цёмнай паверхні Дняпра. «Хрыстос уваскрэсе!» – з парахода сярод глыбокай цішыні асабліва ўрачыста загучаў голас архімандрыта Панцелеймона. «Ваісціну васкрэсе!» – шматгалосна адказалі людзі…»[149]
(*Іл-я 25. Іканапісная выява Ефрасінні Полацкай*)

Сацыяльны і палітычны рух на Лоеўшчыне зноў пачаў пашырацца падчас першай сусветнай вайны і Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г., нягледзячы на тое, што тут было абвешчана ваеннае становішча і дзейнічалі законы ваеннага часу. У сакавіку 1917 г. ў Лоеве быў створаны валасны Савет рабочых і сялянскіх дэпутатаў, у якім пераважалі эсэры, меншавікі і бундаўцы, а ўжо ў жніўні 1917 г. у мястэчку ствараецца суполка бальшавікоў.[150] Да Кастрычніцкага перавароту ў Расіі заставалася ўсяго 2 месяцы.

---

148 Довгялло Д. И. Перенесение св. мощей преп. Евфросинии из Киева в Полотск. Вильна, 1910. С. 14–15.
149 Торжественное перенесение святых мощей преподобной Евфросинии, княжны Полоцкой, из Киева в Полоцк (19 апреля – 22 мая 1910 года). Киев, 1913. С. 31–32.
150 Памяць. Лоеўскі раён… С. 62.

Дняпра, які належаў гомельскаму памешчыку князю Фёдару Паскевічу. Для падаўлення гэтага выступлення, у якім удзельнічала да тысячы сялян, была накіравана рота салдат.[146]

Уздым антыўрадавых выступлення паказаў няздольнасць урадавай адміністрацыі супрацьдзейнічаць рэвалюцыі, нават выкарыстоўваючы жорсткіе ваенна-паліцэйскія рэпрэсіі. У сувязі з гэтым яна для барацьбы з рэвалюцыйнымі настроямі актыўна пачала выкарыстоўваць легальныя правыя арганізацыі радыкальнага накірунку. У Лоеве быў створаны аддзел Саюза рускага народа, які ўзначаліў Андрэй Смоліч. Яна сталася адзінай праваманархічнай арганізацый, якая па сваіх памерах і ўплыву на насельніцтва пэўны час магла канкурыраваць з мясцовымі апазіцыйнымі суполкамі. Яе члены пераважна належалі да чынавецкага, заможнага сялянскага і мяшчанскага станаў і былі зацікаўлены ў захаванні манархічнай улады і паслабленні канкурэнцыі з боку яўрэйскай буржузіі.

У Лоеве існавала таксама нешматлікая чарнасоценная арганізацыя Саюза Міхаіла Архангела. Каб раскалоць рабочы рух, які на Лоеўшчыне ў пераважнай ступені абапіраўся на яўрэйскіх рабочых, правыя суполкі імкнуліся супрацьпаставіць рэвалюцыянераў – "яўрэяў", абаронцам хрысціянскай веры і самадзяржаў'я – "праваслаўных". Правыя суполкі не цураліся і метадаў тэрарыстычнага ўздзеяння на яўрэйскае насельніцтва, у тым ліку і ў форме пагромаў. Але асабліва нічым лоеўскія чарнасоценцы не вызначыліся. Вядома толькі, што Якаў Крупейчанка, Іван Каждуб, Пётр Кукса, Пётр Цыпко, Карп Шашко, разам са старшынём Лоеўскага аддзела Саюза рускага народа Андрэем Смолічам прымалі ўдзел у так званай "народнай ахове" Мікалая ІІ падчас урачыстага святкавання 200-годдзя Палтаўскай перамогі ў 1909 г. Вясной жа 1910 г. Лоеўскі аддзел Саюза рускага народа наладзіў сустрэчу ў Лоеве мошчаў святой Ефрасінні Полацкай, якія перавозіліся з Кіева ў Полацк.[147] Мошчы беларускай першаасветніцы перавозіліся з 19 красавіка па 22 мая 1910 г. на параходзе «Гала-

146 Памяць. Лоеўскі раён… С.56.
147 Міхедзька В. Этнаканфесійныя дачыненні на Лоеўшчыне на пачатку ХХ ст.// Гісторыя Лоеўскай зямлі. Факты. Каментарыі. Гомель. 2006. С.85-86.





## Ад даўніны да нашых дзён

Адкуль мы ? Хто хадзіў некалі па Зямлі, на якой мы сёння жывём ? Якая гісторыя мясцін, па якіх у маленстве мы бегалі басанож ?

Ці часта пра гэта задумваемся мы з вамі ? Шчыра кажучы, і я – чалавек, які нарадзіўся на Лоеўшчыне і напісаў сямнаццаць кніжак, дзве з якіх выйшлі ў Маскве ў выдавецтве "Советский писатель", - рэдка пра гэта думаў. Ведаць свой радавод, гісторыю мясцін, дзе правёў дзяцінства, павінен кожны не толькі адукаваны чалавек, але і звычайны грамадзянін, жыхар нашай рэспублікі.

На шматлікія падобныя пытанні адказвае кніжка Мікалая Анісаўца "Нарысы гісторыі Лоеўшчыны". Грунтоўныя матэрыялы, якія прапануе чытачам аўтар, прысвечаны 510-годдзю першага летапіснага ўпамінання Лоева і 440-гадавіне наданню яму Магдэбургскага права.

Вядома ж, сабраць па крупінках малавядомыя факты, цікава расказаць пра іх, зрабіць так, каб кожны, хто возьме у рукі "Нарысы", мог прачытаць усе матэрыялы, мог толькі даследчык, якому дараг родны кут, які сам цікавіцца мінулым і сённяшнім днём родных мясцін. Мікалай Анісавец – па прафесіі гісторык. Ён прыклаў шмат старання, нямала папрацаваў, каб з "гістарычных аналаў" "вывудзіць" цікавыя для чытача факты і імёны з мінулага нашых мясцін.

Я, напрыклад, з цікавасцю даведаўся, што на тэрыторыі раёна зараз выяўлена 3 старажытныя стаянкі, 24 гарадзішчы, 12 селішчаў і 15 могільнікаў – гістарычных помнікаў сівой даўніны Лоеўшчыны. А хіба не цікава ведаць, што Лоеўская зямля-воласць утварылася яшчэ ў часы Кіеўскай Русі, што Лоеў меў Магдэбургскае права?

Упэўнены, дарагі чытач, што ты з задавальненнем прачытаеш нарысы "Адкуль імя тваё, Лоеў", "Лоеўская бітва", "Юдзіцкія – валадары Лоеўскага ключа", "Лоеўскія кірмашы" і іншыя. Нарысы

напісаны ў даходлівай форме, добрай мовай. Упэўнены: кніжка знойдзе свайго чытача. А ён, у сваю чаргу, у думках падзякуе аўтару за яго скрупулёзную працу на ніве гістарычнага краязнаўства. Мы не павінны быць “Іванамі”, якія не памятаюць адкуль яны родам, якія забываюцца на сцежкі дзяцінства, па якіх некалі гойсала іхняе басаногае маленства.

Думаецца “Нарысы гісторыі Лоеўшчыны” запоўняць прабелы з гісторыі нашай “маленькай Радзімы” – пра мясціны, што дарагія кожнаму з тых, хто не толькі нарадзіўся на гэтай блаславеннай зямлі, але і тым, каму наогул дарагое ўсё пра яго Бацькаўшчыну.

Міхась Даніленка, пісьменнік.




*Іл-я 1. Карта Лоеўскага раёна.*





род пагромшчыкаў праяўлялі мясцовыя жандары Андрэй Смоліч і Мікалай Палазнік, а таксама Сцяпан Казлоўскі. Пагром ахапіў Базарную плошчу, дзе былі разбіты 3 і разрабаваны 9 крам дробных яўрэйскіх гандляроў і нанесены страты да 20 тыс. рублёў. Пагром удалося спыніць сіламі мясцовай самаабароны, які налічваў да 40 чалавек, сярод якіх былі Уладзімір Козел, Меер-Юда Валынскі, Фёдар Козел, Дзмітрый Козел, Сяргей Старажок, Хаім Чарняк, Эля Барухман, Беня Долін, Мікалай Церамок, Хаім Марголін і іншыя.[144]

9 снежня 1905 г. паліцыяй былі арыштаваны два жыхары вёскі Казіміраўка Архіп Чысцік (слухач Маскоўскага універсітэта) і яго стрыечны брат Цярэнцій Чысцік, якія стварылі суполку сялянскага саюза ў вёсцы, распаўсюджвалі рэвалюцыйную літаратуру і вялі агітацыю сярод сялян за ўступленне іх ва Ўсерасійскі сялянскі саюз і ўдзел у забастоўцы супраць памешчыкаў. Архіп Чысцік быў асуджаны да 4 гадоў турмы.[145] Арышты і пагромы на кароткі час прыпынілі сацыяльны і палітычны рух на Лоеўшчыне. Але ўжо ў верасні 1906 г. сяляне вёскі Казіміраўка Іван Чысцік, 31 год, Трафім Горленка, 47 гадоў, Ціт Кулага, 24 гады, Пётр Лагута, 20 гадоў, Філіп Фамічэнкаў, 33 гады, Фёдар Чысцік, 27 гадоў, Іларыён Крупеня, 30 гадоў, Ілля Цімошчанка, 20 гадоў з’явіліся з рыдлёўкамі і палкамі ў руках на палявыя работы ў маёнтку Суткоў памешчыцы Кацярыны Бараноўскай і пачалі заклікаць працуючых на ўборцы бульбы спыніць працу да павышэння заработнай платы. Сяляне былі арыштаваны і па прыгавору Мінскага акруговага суда заключаны ў турму на 1-2 месяцы.

Гэты ж суд абвінаваціў 25 сялян вёсак Холмеча, Завужаля, Бушаціна, Чапліна, Страдубкі і Церабееўкі Холмецкай воласці ў масавых парубках лесу памешчыка маёнтка Бушацін стацкага саветніка Франца Вісьнеўскага. Было высечана 4 тысячы дрэў на суму 10 000 рублёў.

Летам 1907 г. сяляне вёскі Казіміраўка, а таксама суседніх вёсак Страдубка і Чаплін самавольна скасілі луг на левым беразе

144 Міхедзька В. Этнаканфесійныя дачыненні на Лоеўшчыне на пачатку ХХ ст.// Гісторыя Лоеўскай зямлі. Факты. Каментары. Гомель. 2006. С.84-85. Грыцкевіч А. Лоеў. // Памяць. Лоеўскі раён. С.579.

145 Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці. Ф.295, воп. 1, спр. 9045, арк.3-4.

цырыны Бараноўскай. Батракоў падтрымалі сяляне суседніх вёсак, якія таксама адмовіліся працаваць у маёнтку, нягледзячы на патрабаванні і пагрозы прыстава. Памешчыца была вымушана пайсці на саступкі, павысіць заработную плату батракоў і скараціць рабочы дзень.

2 жніўня 1905 г. у Лоеве мясцовая моладзь агульнай колькасцю да 100 чалавек у 10 гадзін вечара рушыла з Безымянага завулка па вуліцах Лоева з рэвалюцыйнымі песнямі і крыкамі "Далоў самадзяржаў'е і чыноўнікаў! Далоў духавенства !" Падчас дэманстрацыі было зроблена да 500 стрэлаў з рэвальвераў у бок паліцэйскага ўрадніка Патапава і гарадавых. Сярод арганізатараў гэтай антыўрадавай дэманстрацыі паліцыя назвала Уладзіміра Козела, Дзмітрыя Вінічка, Гірша Гурвіча, Піню Гарохава, Васіля Крупейчанку, але затрымаць іх не здолела. У адказ на гэтыя падзеі мінскі губернатар Курлаў П.Р. 8 жніўня накіраваў у Лоеў з Мазыра узвод казакаў 2-га Таманскага палка, які вызначыўся асаблівай жорсткасцю абыходжання з мясцовым местэчковым насельніцтвам.[143] Распачаліся арышты найбольш актыўных удзельнікаў рэвалюцыйных падзей на Лоеўшчыне, падчас якіх былі забіты мясцовыя кіраўнікі сацыял-дэмакратычнага руху Васіль Крупейчанка і Фёдар Рэгіль. Іх пахароны ў Лоеве вылiліся ў шматлюдную антыўрадавую дэманстрацыю.

Каб збіць напал рэвалюцыйнай барацьбы і распаліць нацыянальную варожасць у воласці, мясцовая адміністрацыя 24 кастрычніка 1905 г. справакавала ў Лоеве яўрэйскі пагром. У гэты дзень пасля ўрачыстага малебна мясцовыя манархісты арганізавалі ўрачыстае шэсце на Базарную плошчу да помніка Аляксандра II. У шэсці прынялі ўдзел і пасажыры цеплахода, які прыбыў з Кіева, дзе 18-20 кастрычніка адбыліся яўрэйскія пагромы. Згодна з паліцэйскімі паведамленнямі, да пагрому ўдзельнікаў шэсця ў Лоеве падштурхнулі чуткі, быццам бы ў Кіеве яўрэямі быў знішчаны партрэт Мікалая II і забіты на кірмашы селянін. Пагром стаўся быццам бы "помстай" за знявагу імператара. Але дакументальныя матэрыялы сведчаць, што найбольшую актыўнасць ся-

143 НГАБ. В. ДП, ОО,1905, воп. 40, спр.1350, арк. 107.; Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф.446, воп.3, спр. 4, арк. 1.




Да 510-годдзя першага згадвання Лоева ў летапісах і
440-ой гадавіны надання яму Магдэбургскага права

Он стоит, утопая в садах,
Там, где Днепр обнимается с Сожем.
Не ровня он большим городам,
Но великий по-своему тоже.
Здесь когда-то в былые века
Плыли в Русь корабли из "варягов",
Хлебом-солью встречала река
"Гостей" разных и стран и флагов
А на кручах над вольным Днепром
Велся торг лисьей шкуркой да лоем
На добро отвечал ты добром
На сердечность сердечностью, Лоев.

Александр Семененя, " Мой Лоев".

**Адкуль імя тваё, Лоеў ?**

На зямлі Беларусі, бадай, не знойдзеш аніводнай назвы населенага пункта, якая б узнікла выпадкова, без дай прычыны. І Лоеў у гэтым шэрагу не выключэнне. Зараз запісаны і выдадзены ў мастацкай літаратуры цікавыя легенды аб паходжанні яго назвы. Большасць з іх так ці інакш звязаны з першапасяленцам Лоем і Дняпром-Славуцічам – галоўным звяном старажытнага гандлёвага шляху "з варааг у грэкі" – на ўзвышаным правабярэжжы ў сярэднім цячэнні якога і прымасціўся гэты невялікі беларускі горад-мястэчка.[1] Але мы пакінем даследаванне паданняў і міфаў этнографам і фальклярыстам і скіруем сваю ўвагу на даследаванні гістарычных версій паходжання назвы старажытнага паселішча Лоеў.

1 Гомельшчына ў легендах і паданнях. Мн., 2001. С.233.

Аб тым, што гэтае паселішча адно з самых старажытных на Беларусі сведчаць археолагі. Знакаміты беларускі археолаг М.А.Ткачоў у другой палове ХХ ст. знайшоў і даследаваў у цэнтральнай частцы Лоева гарадзішча. жалезнага веку зарубінецкай пары, якое датуецца II ст. да нашай эры – V ст. нашай эры. Падчас даследавання гэтага гарадзішча выяўлена ляпная і ганчарная кераміка, у тым ліку і белагліняная кіеўскага тыпу, абмазка з гліны, косці свойскай жывелы, рэшткі абвугленых драўляных канструкцый.[2]

У часы Кіеўскай Русі тут ужо існавала ўмацаванае паселішча дрыгавічоў – Лоева гара.[3] Менавіта так – Лоева гара – называецца ў гістарычных крыніцах гэтае паселішча да XVII ст. , у больш познія часы гэта назва паступова трансфармуецца ў Лоевагород і Лоеў.

Большасць гістарычных версій паходжання назвы Лоеў у свой час вылучыў і абгунтаваў вядомы даследчык Гомельшчыны, філолаг і этнограф, прафесар А.Ф.Рогалеў.[4]

Найбольш верагодна, што ўзнікненне назвы Лоеў звязана з асаблівасцямі навакольнай мясцовасці. Нагадаем, што адразу за Лоевам на поўдзень Дняпро утварае шырокую даліну, якая распасціраецца ад Лоевай да Краснай гары на працягу 5 кіламетраў. Такая ж шырокая даліна распасціраецца і на поўнач ад Лоева, аж да Сутковай гары. Калі ж узгадаць старыя геаграфічныя тэрміны "залой" – рачны заліў, затопленае месца паміж двумя ўзвышшамі; "разлой" – затопленае месца; "палой" – бераг, луг, заліўное пойменнае месца[5], тады становіцца зразумелай і назва – гара, размешчаная за палоем – Палоева або Лоева гара.

Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што каля паўднёвага падножжа Лоевай гары ў Дняпро ўпадала высахшая зараз рачулка-ручай Лоеўка. Калі ж улічыць тое, што назвы многіх старажытных беларускіх гарадоў паходзяць ад назваў рэк , на якіх яны ўзніклі, то лёгка ўтвараецца традыцыйны ланцужок тапонімаў: Лоеўка – рака, якая цячэ праз палой, – Лоева гара – Лоеў.

Нельга не звярнуць увагу і на тое, што суседняе ад Лоева па

2 Ткачёв М. Изучение средневековых памятников Белоруссии.// АО. М., 1985. С.408.
3 Ткачоў М. Замкі і людзі. Мн., 1991. С.113.
4 Рогалеў А. Сцежкі ў даўніну. Мн., 1992. С.66-67.
5 Зікава Р. Геалагічныя помнікі Лоеўшчыны. // Родная прырода. № 1. 1987. С.16.





даў кіраўнік Грамады Антон Луцкевіч. Ён сустракаўся з лоеўскімі "грамадоўцамі" і перадаў ім беларускія брашуры, выдадзеныя ў Лондане ў 1903 годзе: "Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць", "Хто праўдзівы прыяцель беларускага народа" і "Як зрабіць, каб людзям было добра жыць на свеце".[140]

На пачатку 1905 г. рэха "крывавай нядзелі" з Санкт-Пецярбурга хутка дакацілася і да Лоеўшчыны, што значна накаліла і радыкалізавала адносіны ў рэгіёне. Вясной гэтага года сяляне вёсак Казіміраўка і Пярэдзелка склалі і накіравалі царскім уладам за подпісам 263 чалавек "Сялянскі прыгавор", які ўтрымліваў як эканамічныя, так і палітычныя патрабаванні да ўладаў. У ліку іншых патрабаванняў сяляне дамагаліся, каб цар ураўнаваў іх у правах з іншымі саслоўямі, зменшыў і ўпарадкаваў падаткі, дазволіў набываць зямлю памешчыкаў па "правильной расценке,… суда, равного для всех жителей, …и местных властей, выбранных равно от всего народа как от бедного, так и богатого ".[141] Сялянскі зварот застаўся без адказа ўлад, але патрапіў у друк і быў надрукаваны ў расійскай газеце "Право", што мела пэўны розгалас у грамадстве. Значна актывізавалі сваю дзейнасць у Лоеве і навакольных вёсках рэвалюцыйныя арганізацыі, яны распаўсюджвалі лістоўкі, праводзілі сходкі і мітынгі. Так у данясенні памочніка начальніка губернскага жандармскага ўпраўлення ў Дэпартамент паліцыі паведамлялася аб распаўсюджванні ў Лоеве ноччу 1 мая 1905 г. 57 антыўрадавых пракламацый. 23 чэрвеня ў Лоеве на платах і слупах былі расклеены і раскіданы па прасёлкавых дарогах пракламацыі на рускай мове "К крестьянам", выдадзеныя Палескім камітэтам РСДРП, якія прызывалі сялян да паўстання супраць цара і агітавалі за стварэнне Устаноўчага схода ў Расіі.[142] Значныя антыўрадавыя выступленні ў мястэчку адбыліся 28 мая і 9 чэрвеня. Акрамя рабочых яўрэйскай нацыянальнасці, якія ўваходзілі ў мясцовую арганізацыю Бунд, у іх прымалі ўдзел беларусы і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей.

У ліпені 1905 г. забаставалі батракі маёнтка Суткоў графіні Ка-

140 Луцкевіч А. За дваццаць пяць гадоў (1903-1928). Мн., 1991. С.12.
141 Предложения крестьян Речицкого уезда Минской губернии об улучшении порядка в государстве.// Право. №27. 1905. 21 августа.
142 Революционное движение в Белоруссии.1905-1907 гг. Мн., 1955. С. 115-116.

спынілі выплату выкупных плацяжоў, а калі ў справу ўмяшалася паліцыя, аказалі ёй супраціўленне. Гэтая справа была перададзена ў суд і зацягнулася на некалькі гадоў.

Каб уціхамірыць сялян, у пачатку мая 1871 г. у Лоеўскую і Дзяражычскую воласці былі ўведзены два стралковыя батальёны і казацкая сотня. Аб гэтым інцыдэнце 14 мая міністр унутраных спраў Цімашоў А.Е. паведаміў імператару Аляксандру II. Толькі тады на месца хвалявання прыехаў губернатар Мінскай губерні Токараў В.Н. і дамовіўся з мясцовымі памешчыкамі аб змяншэнні выкупных плацяжоў за зямлю да 40 тыс. рублеў з растэрміноўкай уплаты нядоімак на 6 гадоў. Сяляне падпісалі выкуныя акты і пачалі выплачваць нядоімкі.[139]

На працягу XIX ст. Лоеў быў значным цэнтрам транзітнага гандлю. Ім у Лоеве ў асноўным займаліся яўрэі. Уніз па цячэнню Дняпра гоняліся плыты будаўнічага лесу, сплаўляеўся булыжны камень, вапна, смала і гарэлка, уверх па Дняпры хадзілі на берлінах і суднах меншых памераў з соллю, збожжам, а калі-нікалі ганялі і невялікія плыты карабельнага леса праз Дняпроўска-Бярэзінскую водную сістэму ў Рыгу.

Вядома аб тым, што ў самым канцы XIX ст., калі равінам Лоеўскай яўрэйскай абшчыны быў Іцхок-Юсеф Даргінскі, яўрэі сабралі грашовыя сродкі, замовілі і ўстанавілі на Базарнай плошчы ў цэнтры Лоева на высокім камені-валуне конную статую расійскага імператара Аляксандра II, які дазволіў яўрэям займацца гандлем лесам і спрыяў пашырэнню іх гандлёвых магчымасцей. (Помнік быў разбураны пасля кастрычніцкіх падзей 1917 г., а камень-пастамент закананы ў зямлю.) (*Іл-я 24. Помнік імператару Аляксандру II Вызваліцелю. Скульптар Паола Трубяцкі*)

Сацыяльны рух на Лоеўшчыне падняўся на новую ступень на пачатку XX ст. і быў звязаны з эканамічным крызісам 1900-1903 гг. і першай расійскай рэвалюцыяй. Хутка ён пачаў набываць і выразныя палітычныя формы. Ужо ў 1904 г. ў Лоеве была ўтворана партыйная суполка РСДРП у якую ўваходзілі 55 рабочых і 20 сялян. У гэты ж час у Лоеве дзейнічала і партыйная суполка Беларускай сацыялістычнай грамады. Улетку 1904 г. Лоеў наве-

139 Белорусь в эпоху капитализма. Т.1. Мн., 1983. С.201-202




Дняпру ўзвышша ўтворана глінамі і пясчанікамі пераважна чырвонага колеру, адсюль і назва яго – Красная гара. Лоеўскае ж узвышша адкрываецца ў бок Дняпра пераважна пясчанікамі зеленавата-шэрага колеру[6], колеру падобнага на лой. Ці не ў гэтым крыецца магчымая разгадка назвы гары ?

Тапонім Лоева гара мог утварыцца і ад старажытнарускага слава "лойва", – так называўся вялікі шматмесны човен-лодка. Такая вялікая лойва-лодка і магла ў часы Кіеўскай Русі служыць прыпарамкам, каля якога спыняліся шматлікія гандлёвыя судны, каб наведаць "таржок", што існаваў на беразе ракі каля паселішча, размешчанага на суседнім узвышшы. Але гэтая версія ўяўляецца ўсё ж малаверагоднай, бо лойва каля берага ўсё ж аб'ект часовы.

Другая група версій паходжання тапоніма Лоеў звязана з заняткам мясцовых жыхароў. Як ужо адзначалася, гандлёвыя людзі часта спыняліся каля паселішча, каб прадаць тавары і папоўніць запасы харчавання на далейшы шлях. Мясцовыя жыхары рыхтавалі харчовыя прыпасы для гасцей, а мясныя прадукты залівалі лоем – авечым ці гавяжым тлушчам. Гэта рабілася для таго, каб мяса не так хутка псавалася ў доўгай дарозе. Жыхары Лоевай гары і навакольных паселішчаў тапілі і назапашвалі лой таксама і для гандлю. Вядома, што яшчэ і ў новы час на Лоеўскай прыстані існавалі склады з рознымі таварамі, дзе ў тым ліку ўтрымліваліся і бочкі з гарэлкай, алеем, маслам і тлушчам..[7] Ад слова "лой"-тлушч і магло ўзнікнуць найменне паселішча Лоева гара.[8]

Але магчыма ў назве Лоеў спалучыліся два фактары адначасова, і асаблівасці мясцовасці, і заняткі насельніцтва, што, як ні дзіўна, знайшлі адлюстраванне ў словах блізкіх па гучанню "палой-лой".

А.Ф.Рогалеў вылучыў яшчэ адну версію ўзнікнення тапоніма Лоеў. Ён не выключае, што Лоеў заснавалі ў XVI-XVIII стст., або нават раней першапасяленцы з Малдавіі або Валыні. Падставай для такога сцвярджэння з'яўляецца існаванне гарадка Лоюў у Малдавіі і вёскі Лоеўцы на рацэ Паўднёвы Буг каля Камянец-Па-

6 Семёнов В. Россия: Полное геаграфическое описание нашего отечества. Т.9. СПб., 1905. С.571

7 Даль В. Толковый словарь живого великорусского языка. Т.3. М., 2002. С.263.

8 Жучкевіч В. Чаму так названа? Мн., 1969. С.66

дольска.[9]

Але гэтая версія з'яўляецца малаверагоднай, таму што ў гісторыі не зафіксаваны значныя міграцыйныя рухі з поўдня на беларускія землі ў часы Кіеўскай Русі, а тым больш у XVI-XVIII стст., калі, дарэчы, мястэчка Лоеў ужо існавала. Хутчэй наадварот, узмацненне феадальна-прыгонніцкага ўціску і звязаныя з ім працэсы паказачвання гараджан і сялянства на беларускіх землях у адзначаны перыяд нярэдка прыводзілі да перамяшчэння беларускага насельніцтва на поўдзень у стэпы Прычарнамор'я, Валахію і, магчыма, у Чырвоную Русь на Валынь. Дарэчы, звяртае на сябе ўвагу і тое, што жыхары Лоева называюць сябе лаяўцы, што сугучна назве вёскі на Валыні.

Яшчэ адна гістарычная версія паходжання назвы Лоеў звязана з імем легендарнага першапасяленца Лоя. Па мясцоваму паданню першым пасяленцам-гандляром тут быў легендарны Лой, які абраў для сталага жыцця свайго роду прывабнае і зручнае для гандлю ўзвышша пры ўпадзенні Сожа ў Дняпро. Аб этнічнай прынадлежнасці знакамітага Лоя паданне нічога не распавядае, але сведчыць, што гэта быў чалавек з прадпрымальніцкімі здольнасцямі. Што гэта версія мае права на існаванне, сведчыць зафіксаванае ў летапісах пад 1351 г. асабовае прозвішча Ходка Лоевіч.[10] Улічваючы традыцыі ўтварэння прозвішчаў ва ўсходніх славян, можна меркаваць, што ўладар Лоевай гары – Лой – магчыма рэальна існаваўшая постаць у гісторыі. Само ж імя Лой можна патлумачыць як тлусны, поўны, грузны чалавек.

Але сёння гэтай версіі, каб стаць агульнапрынятай, бадай што не хапае дакладных гістарычных фактаў. Калі ж надарыцца знайсці больш грунтоўныя звесткі аб існаванні ў рэальным жыцці першапасяленца Лоя, тады можна будзе з усёй упэўненасцю сцвярджаць, што калі ў Тураве ўладарыў Тур, то ў Лоеве – Лой. (*Іл-я 2. Легендарны Лой –заснавальнік Лоева. Мастак С.Сінякоў.* )

9 Рогалеў А. Сцежкі ў даўніну. Мн., 1992. С.67
10 Там жа





колькасць сялян ноччу прыйшлі да следчага з патрабаваннем вызваліць арыштаваных, пры гэтым яны казалі, што "барину подчиняться не будут и на сплав леса не пойдут." Для ўціхамірвання лоеўскіх сялян з Чарнігава была выклікана вайсковая каманда колькасцю 300 чалавек.[137]

Пасля адмены прыгоннага права ў 1861 г. зноў пачаўся ўздым сялянскага руху на Лоеўшчыне. Ён быў звязаны са складаннем і ўвядзеннем у дзеянне Устаўных грамат, у якіх вызначаліся ўзаемаадносіны паміж памешчыкамі і часоваабавязанымі сялянамі. Галоўнай прычынай незадаволенасці сялян было імкненне памешчыкаў палепшыць сваё становішча за кошт сялян, а менавіта, павялічыць павіннасці сялян і адабраць у іх частку лепшых угоддзяў з сялянскіх надзелаў у якасці "адрэзкаў". Лоеўскія сяляне не мірыліся з гэтым. Нават урадавыя чыноўнікі сцвярджалі тады, што лаяўцы ў параўнанні з сялянамі іншых месц, большай часткай сціплых, "мелі характар народа бывалага, які пастаянна працуе на сплаве лесу на рацэ і шмат што бачыць і ведае."

У 1864 г. сяляне Лоеўскай воласці адмовіліся пераходзіць на выкуп на прапанаваных умовах, плаціць падаткі і выконваць працоўныя павіннасці на карысць памешчыкаў Лашча і Нарушэвіча. Іх падтрымалі сяляне суседняй Дзяражычскай воласці. У сувязі з гэтым мінскі губернатар звярнуўся да віленскага генерал-губернатара за дазволам увесці вайсковую каманду ў воласці, арыштаваць арганізараў сялянскага выступлення, якія жылі ў вёсках Крупейкі і Сінск, і аддаць у продаж іх маёмасць. З дапамогай ваеннай сілы ўлады і на гэты раз жорстка падавілі супраціўленне сялян.[138]

Але праз 3 гады сялянскія хваляванні ў Лоеўскай і Дзяражычскай валасцях успыхнулі з новай сілай. Прычынай паслужыла тое, што ў 1867 г. праверачная камісія адрэзала на карысць памешчыкаў Лашча і Нарушэвіча 1861 дзесяціну сялянскай зямлі і павялічыла з 44 да 133 тыс. рублёў выкупныя плацяжы, у сувязі з чым утварыліся сялянскія нядоімкі ў суме 33 тыс. рублёў. У адказ сяляне адмовіліся ўступаць адрэзаную зямлю і пагашаць нядоімку ,

137 Белоруссия в эпоху феодализма.Т.6, Мн., 1979. С.265-266.
138 Памяць. Лоеўскі раён: Гісторыка-дакументальная хроніка. Мн., 2000. С.50.

гэтых вёсак Вольскі прымушаў апрацоўваць зямлю яўрэя Шлёмы Давідавіча Сакольскага у вёсцы Абрамаўка, а таксама вазіць у Лоеў для яго і Гіршы Шванецкага і Хаіма Рабіновіча дровы, сено, курэй і іншае ўзамен паншчыны, спасылаючыся на заключаны з яўрэямі падрад. Па сялянскай скарзе было праведзена дазнанне, якое цалкам пацвердзіла яе абгрунтаванасць. Дазнавацель, ваенна-павятовы начальнік Мазырскага і Рэчыцкага паветаў капітан Тызенгауз “ нашёл крестьян в самом жалком положении… оттого , что в домах их в удобное время для обработки полей остаётся не более седьмой части людей, способных к работе; прочие же с началом весны высылаются на водяные сплавы и возвращаются уже в дома свои около октября и ноября месяца, не найдя у себя никаких средств к пропитанию.” У 1842 г. з мястэчка Лоева, дзе мелася 297 мужчынскіх душ, было накіравана арандатарам на сплаўныя работы 175 чалавек, у вёсках: Крупейкі – са 124 –90, Цясны – са 119 – 95, Дзяражычы – з 87 – 55 адпаведна. Да таго ж, за сплаўныя работы сяляне не атрымлівалі аніякіх грошай. [135] У выніку прынятых віцэ-губернатарам мер сяляне былі вернуты са сплаўных работ, а замест Вольскага паверaным Лоўскага апекунскага маёнтка быў прызначаны дваранін Навіцкі.[136] Але сялянскія скаргі на вотчынную адміністрацыю працягвалі паступаць уладам і ў дальнейшым, бо прынятыя меры не маглі істотна змяніць становішча сялян.

У пачатку сакавіка 1858 г. сяляне, даведаўшыся , што іх чарговая скарга на імя Старшыні рэчыцкага дваранства князя Ракіцкага аб свавольствах новага ўпраўляючага Лоеўскім маёнткам была прызнана ўладамі неабгрунтаванай, сабраліся гуртам у цэнтры Лоева і адмовіліся ад выканання павіннасцяў на карысць памешчыкаў Лашча і Нарушэвіча, а затым перасталі падпарадкоўвацца як вотчыннай, так і паліцэйскай уладзе. Для расследавання прычын хвалявання ў мястэчка прыехалі прадстаўнікі губернскіх і павятовых улад. Было вызвана на допыт і арыштавана 10 найбольш актыўных сялян, але натоўп вызваліў арыштаваных. Праз некалькі дзён былі праведзены новыя арышты. Тады значная

135 НГАБ. Ф.319, воп. 5, спр.52, арк. 11-18.
136 Там жа. Ф.176, воп. 1, спр.1594, арк. 19-20.





## Лоеўская зямля-воласць у кантэксце гісторыі суседніх рэгіёнаў XIV-XVII стст.

Вядома, што кожны больш менш значны рэгіён Беларусі мае сваю не толькі геаграфічную, але і гістарычную адметнасць і непаўторнасць. Цалкам пацвяржаюць гэтую выснову Лоеў і Лоеўшчына – рэгіён, расмешчаны на паўднёвым усходзе Беларусі, на яе мяжы з Украінай.

### Разгадку падказалі археолагі

Згодна з вынікамі апошніх археалагічных даследаванняў гандлёва-рамеснае паселішча Лоева гара (Лоеў) узнікла ў Сярэднім Падняпроўі на старажытным гандлёвым шляху “ з варагаў у грэкі” не пазней X ст.[11] Вядома таксама, што гэтае паселішча і яго ваколіцы на працягу X-XIII стст. уваходзілі ў склад Чарнігаўскага княства. Доўгі час гісторыкам і краязнаўцам было дзіўна і не зразумела, чаму гісторыя сярэдневяковага Лоева і Лоеўшчыны, якія знаходзіліся ў стратэгічна зручным становішчы, на дзяржаўным памежжы і скрыжаванні гандлёвых і вайсковых шляхоў, дзе віравала жыццё, ніяк не знайшла адлюстраванне ў старажытных летапісных зводах аж да пачатку XVI ст. Галоўную прычыну гэтай з’явы дапамаглі адшукаць археолагі. Праца археалагічнай экспедыцыі доктара гістарычных навук А.А. Макушнікава, якая пачынаючы з 2003 г. штогод даследуе Мохаўскі археалагічны комплекс, засведчыла, што ў X- XI стст. рэгіянальным цэнтрам Лоеўшчыны было ваенізаванае шматфункцыянальнае паселішча на Мохавай гары на месцы сучаснай в. Мохаў у 8 км на поўнач ад Лоева, дзе яшчэ ў канцы XIX ст. быў выяўлены буйнейшы на Бела-

11Тимофеенко, А. Г. Отчёт об археологических разведках, проведённых в Гомельском и Лоевском районах Гомельской области в 2004 г. // Архив археологической научной документации ИИ НАН Беларуси. – Д. 2196.; Тимофеенко, А. Г. Отчёт об археологических разведках, проведённых в Гомельском и Лоевском районах Гомельской области в 2005 г. // Архив археологической научной документации ИИ НАН Беларуси. – Д. 2305.; Тимофеенко, А. В поисках древнего Лоева. // Гісторыя Лоеўскай зямлі. Факты. Каментары: матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 500-годдзю ўтварэння г. п. Лоеў. Лоеў, 20 кастрычніка 2005 г. / ГДУ імя Ф. Скарыны; пад рэд. С. А. Чаропкі [і інш.]. – Гомель, 2006. – С. 19-22.

русі курганны могільнік (больш за 600 курганаў) часоў Кіеўскай Русі. Разам з Мохаўскімі курганамі зараз тут даследуецца адно з самых буйных на Беларусі паселішчаў ( плошчай не менш чым 25 га), росквіт якога прыпадае на канец X-XI стст. Паселішча мела абарончыя ўмацаванні і было гарадзішчам, да якога прымыкала селішча-пасад. Раскопкі выявілі тут прыкметы развітай рамеснай і сельскагаспадарчай дзейнасці, пахаванні разнапляменнага ўзброенага насельніцтва.[12] Разам з Лоевай Гарой яно, па меркаванню А Макушнікава, утварала ў X–XI стст. бінарны комплекс на шляху з варагаў у грэкі.[13] Зараз ёсць падставы меркаваць, што да ліку паселішчаў часоў Кіеўскай Русі на Лоеўшчыне адносіліся акрамя Лоева і Мохава вёскі, ў назве якіх ёсць словаўтваральны суфікс – іч(ыч): Абакумічы (Абакумы), Дзяражычы, Ісакавічы, Ізбінічы (Пярэдзелка), Каўпынічы (Каўпень), Калодчычы (Сінск), Паповічы (Першамайск). Аб гэтым сведчаць і выяўлены археолагамі каля большасці гэтых вёсак курганныя могільнікі, якія датуюцца X-XII стст. Зараз можна канстатаваць, што мікрарэгіён Лоеўская зямля-воласць утварыўся ў межах Кіеўскай Русі і канчаткова сфарміраваўся на пачатку XVI ст.

У канцы XI ст. паселішча на Мохавай гары пачынае занепадаць і функцыі рэгіянальнага цэнтра паступова пераходзяць да суседняга паселішча на Лоевай гары. Так склалася, што калі ў XII - XV стст. фарміраваліся старажытнарускія летапісныя зводы, паселішча на Мохавай гары ўжо страціла ролю значнага рэгіянальнага цэнтра, а паселішча на Лоевай гары такую ролю яшчэ не набыло. Толькі з пабудовай Лоеўскага замка ў другой палове XV ст. Лоева гара пачынае функцыянаваць як адміністрацыйны, ваенна-гаспадарчы і культурны цэнтр рэгіёна, што знаходзіць сваё адлюстраванне ў гістарычных дакументах наступных стагоддзяў. У сувязі з гэтым, сярэдневековую гісторыю Лоеўшчыны сёння можна даследаваць толькі ў кантэксце з гісторыяй суседніх рэгіёнаў і, найперш, з гісторыяй Любеча і Любечскай зямлі, з якой яна была цесна адміністрацыйна знітавана аж да 70-х гадоў XVII ст.

12 Макушников О. Лоев и Мохов: загадки древней истории. // Гісторыя Лоевской зямлі Факты. Каментарыі. Матэрыялы навукова практычнай канферэнцыі…С.13-17.
13 Там жа С.13-17




праваслаўнага Свята-Троіцкага сабора ў Лоеве пад юрысдыкцыю уніяцкай царквы, частка прыхаджан, не згодных з пераходам ва уніяцтва, дамагліся ад улад адкрыцця новай праваслаўнай царквы ў Лоеве. Неабходныя сродкі былі сабраны і ў 1746 г. на Лоевай гары праваслаўнымі была пабудавана Свята-Мікольская царква, але ўжо ў 1756 г. мясцовыя уніяты на чале са святаром Свята-Троіцкага сабора Стэфанам прагналі праваслаўнага святара са Свята-Мікольскай царквы, а затым звярнуліся з просьбай аб падтрымцы сваіх дзеянняў да мінскага ваяводы. Ваявода, насуперак існаваўшаму парадку, не звярнуўся да царкоўнага начальства для вырашэння спрэчкі, а сам дазволіў уніяцкаму свяшчэнніку Стэфану служыць у адабраным храме. Незадаволеных жа гэтым рашэннем лоеўскіх мяшчан тры тыдні мясцовыя ўлады трымалі ў кайданах і з дапамогай пагроз і насілля прымусілі перайсці ў уніяцтва.[134] Толькі ўдзел Расіі ва ўспыхнуўшай у Еўропе Сямігадовай вайне (1756-1763 гг.), а таксама слабая падтрымка праваслаўных веруючых Лоева з боку іншых праваслаўных прыходаў на Беларусі і Украіне, не дазволілі гэтаму канфлікту пашырыцца і набыць больш вострыя формы.

## У складзе Расійскай імперыі

Новы ўздым антыфеадальнага руху на Лоеўшчыне распачаўся ў сярэдзіне XIX стагоддзя і быў выкліканы як агульным крызісам прыгонніцкай гаспадаркі Расійскай імперыі, куды Лоеўшчына патрапіла пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 г., так і разгулам свавольства арандатараў фальваркаў Лоеўскага маёнтка графаў Юдзіцкіх пасля смерці ў 1841 г. апошняга прадстаўніка рода па мужчынскай лініі Юзафа Юзафавіча Юдзіцкага. Ужо вясной 1842 г. 13 хадакоў-сялян вёсак Дзяражычы і Цясны звярнуліся да Мінскага віцэ-губернатара са скаргай на арандатара Лоеўскага маёнтка Вольскага, паверанага ў справах пакойнага Юдзіцкага, на крайняе збядненне сялянскіх сем'яў, выкліканае празмерным выкарыстаннем сялянскай працы ў карыслівых мэтах арандатарам на сплаўных і падрадных работах ў летні час. Да таго ж сялян

134 Чистович И. Очерк истории западнорусской церкви, ч.2. СПб., 1884. С. 104.

украінскіх і беларускіх сялян, беглых расійскіх жаўнераў. Яны ствараліся на тэрыторыі Украіны, а затым пранікалі на беларускія землі, дзе знішчалі маёнткі шляхты, касцёлы, захоплівалі іх маёмасць і знікалі непрыкметна і хутка. Атрады гайдамакаў у тыя часы часта дзейнічалі і каля Лоева. 25 чэрвеня 1750 г. ротмістр Ашмянскага павета Францішак Антон Ракіцкі скардзіўся кіеўскаму генерал-губернатару Лявонцеву, што " ў Брагіне і Лоеве няма спакою ад гайдамацкіх кампаній." [131] А ўжо 26 верасня 1750 г. Ракіцкі зноў пісаў кіеўскаму генерал- губернатару, што на яго маёнткі, размешчаныя каля мястэчка Лоеў, безупынна нападаюць гайдамакі, разбураюць і паляць іх, а пагэтаму нават сярод дня ў дамах знаходзіцца небяспечна, і прасіў аказаць ваенную дапамогу ў барацьбе з паўстанцамі. Да складу гайдамацкіх атрадаў нярэдка далучаліся жыхары Лоеўшчыны.[132]

У маі 1752 г. новы атрад гайдамакаў колькасцю 25 чалавек з'явіўся ў раёне Лоева. Гэты атрад быў створаны ў Кіеве, адтуль уверх па Дняпры прыплыў да вусця ракі Брагінка, правага прытока Дняпра, а затым падняўся па Дняпры да Лоева. На сваім шляху паўстанцы разбурылі некалькі шляхецкіх двароў і гуту на Сожы каля вёскі Хамінка. У раёне Лоева атрад быў выяўлены салдатамі мясцовага гарнізона. Гайдамакі пачалі ўцякаць да рускай мяжы. Але, калі пагоня дагнала гайдамацкі атрад, тыя атабарыліся вазамі і адкрылі стральбу па лоеўскіх жаўнерах, аказваючы ўпартае супраціўленне на працягу некалькіх гадзін. Толькі страціўшы траіх забітымі і дваіх палоненымі, паўстанцы ўцяклі за расійскую мяжу.[133] Пры падтрымцы Расіі, якая баялася, што полымя гайдамаччыны можа перакінуцца і на яе тэрыторыю, у канцы 50-х гадоў XVIII ст. гайдамацкі рух на Беларусі быў практычна падаўлены войскамі Рэчы Паспалітай.

У гэтыя часы на Лоеўшчыне яшчэ нярэдка абвастраліся і рэлігійныя супярэчнасці паміж уніятамі і насельніцтвам, захаваўшым праваслаўнае веравызнанне, выкліканыя экспансіяй уніяцкай царквы на праваслаўныя прыходы. Вядома, што пасля пераходу

131 Исторические материалы из архива Киевского губернского правления. Вып.5. Киев, 1883, С.31-32.
132 Белоруссия в эпоху феодализма.Т.2, Мн.,1960. С.396.
133 Исторические материалы из архива Киевского губернского правления. Вып.5. С.17-19.




Размешчаны ў 40 км ніжэй Лоева ў левабярэжжы Дняпра, горад Любеч у Высокім сярэдневякоўі быў рэзідэнцыяй спачатку чарнігаўскіх, а затым бранскіх князёў, шырока вядомы тым, што ў 1097 г. у яго замку адбыўся з'езд рускіх князёў, якія імкнуліся з'яднаць свае сілы перад палавецкай пагрозай. Зараз г.п.Любеч уваходзіць у склад Рэпкінскага раёна Чарнігаўскай вобласці Украіны.

Тэрыторыя Лоеўшчыны верагодна яшчэ да 1362 г. была далучана вялікім князем Альгердам да Вялікага Княства Літоўскага, дзе, з'яўляючыся правабярэжнай часткай адзінага комплексу - Любечскай зямлі - увайшла ў склад Кіеўскага княства. Дакладна вядома, што ўжо ў 70-80 гг. XIV ст. у многіх гарадах Чарнігава-Северскага і Кіеўскага княстваў княжылі Гедымінавічы. Любеч згадваецца ў летапісах сярод кіеўскіх уладанняў канца XIV ст.: " А се Киевьскый гроди: …Любечь, Навоз, на ПрипетЬ Чернобыль…"[14] Першае вядомае нам падараванне Любеча вялікім князем літоўскім адбылося ў 1387 г., калі Ягайла аддаў "Любеч весь и люди и вси даходи" ў валоданняе князю Скіргайлу (каля 1354-1394 гг.). Скіргайла ( у праваслаўным хрышчэнні Іван, у каталіцтве – Казімір) вядомы як адданы староннік свайго брата вялікага князя ВКЛ і караля Кароны Польскай Ягайлы (Уладзіслава II). Ён быў князем полацкім (1387-1394 гг.), троцкім ( 1387-1392 гг.) , кіеўскім (1393-1394? гг.). Такое адначасовае спалучэнне некалькіх пасад адной асобай было цалкам у тагачасных традыцыях вялікакняжацкага двара. Па звестках польскага гісторыка С.Кучынскага Скіргайла валодаў Любечам на працягу 1387 -1396 гг.[15]

Наступным валадаром Любеча стаў Манівід (у хрышчэнні Вайцех, Альберт) Кайлікінавіч (каля 1360-1424 гг.)- знатны літоўскі баярын, удзельнік Грунвальдскай бітвы, член вялікакняжацкай Рады ( з 1387 г.), віленскі намеснік (1396 г.). На Гарадзельскім сойме 1413 г., дзе "побратались" гербамі ліцвінская і польская шляхта, Манівід набыў герб Ляліва. Ён карыстаўся падтрымкай вялікага князя Вітаўта, ад якога атрымаў шматлікія зямельныя падараванні, у тым ліку Любеч, Брагін і Горваль. Такім чынам

14 Новгородская первая летопись старшего и младшего взводов. М.-Л., 1950. С.476
15 Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. У 2(3) т./ Рэдкал. Г.П.Пашкоў (гал.рэд.) {і інш}. Т.2. Мн., 2006. С.582; Kuczynski S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rzadami Litwy. Warszawa. 1936. S. 97,101,109.

Брагін (верагодна і воласць) увайшоў у склад Любечскай воласці. Па смерці Манівіда Любеч перайшоў да яго сына Яна.

Ян ( Іван, Івашка) Манівідавіч (каля 1400- 1458 гг.) быў намеснікам падольскім і крамянецкім (з 1437 г.), ваяводам троцкім (з 1443 г.) і віленскім (1458 г.), маршалкам князя-бунтара Свідрыгайлы. Ён валодаў Любечам на працягу 1424-1458 гг. Тастамент ад 1458 г. сведчыць, што ён перадаў свае землі ( у тым ліку Любецкую, Брагінскую і Горвальскую воласці) у спадчыну сынам Войцеху і Яну . Найбольш верагодна, што Любеч дастаўся Войцеху, які памёр у 1475 г.[16]

Для развіцця сістэмы абароны Кіеўскай зямлі ў тыя часы шмат зрабілі кіеўскія князі Алелькавічы - Алелька (Аляксандр) (памёр у 1454 г.) і Сямён-Васіль (1420-1470 гг.). Для гэтага была адноўлена сістэма баярскіх загонаў на памежжы, на пераправах і шляхах (“старожа польна”). У той жа час былі ўмацаваны і памежныя замкі Кіеўшчыны: Звенігарад, Чаркасы, Канеў, Асцёр , Любеч і іншыя.[17]На нашу думку, яшчэ пры Манівідах пачалі адбудоўвацца Любечскі і Лоеўскі замкі, якія сталі цэнтрамі фарміравання адпаведных валасцей. Падчас іх пабудовы былі выкарыстаны земляныя валы і равы, якія засталіся ад існаваўшых тут старажытнарускіх замкаў і гарадзішчаў. Для нясення замкавай службы выкарыстоўвалася як мясцовае насельніцтва, так і прышлыя служылыя элементы, пагэтаму вакол замкаў-мястэчак множыліся “осады” дробнапамеснай шляхты, як падараванні за адданую службу.

Пасля смерці Сямёна Алелькавіча ў 1471 г. інстытут княжання ў Кіеве быў зліквідаваны і ўтворана Кіеўскае ваяводства. Менавіта ў гэты час у ВКЛ адбываўся канчатковы пераход ад удзельнай сістэмы кіравання да намесніцтва, што садзейнічала ўмацаванню дзяржаўнага кіравання. Тады вялікі літоўскі князь Казімір прызначыў намеснікам Кіева Мартына Гаштольда, які займаў гэту пасаду да 1480 г.( У XIV - XV стст. намеснікамі або “дзяржаўцамі” ў ВКЛ называлі ўрадоўцаў-вышэйшых прадстаўнікоў вялікага

16 Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя… Т.2. С.270.
17 Яковенко Н.М. Українська шляхта з кінця XIV до середини XVII ст. Волинь і Центральна Україна. Київ. 2008.С.331





за межы Рэчы Паспалітай і да адкрытага руска-польскага канфлікта справа не дайшла.[126]

У 1701 г. падчас міжусобнай феадальнай вайны ў ВКЛ 1697-1702 гг. у раёне Лоева ўспыхнула новае антыфеадальнае сялянскае паўстанне. Штуршком да гэтага выступлення з’явіўся значны рост сялянскіх павіннасцяў і пабораў на ўтрыманне войска, а аксама рэзкае пагаршэнне становішча насельніцтва выкліканае феадальнымі міжусобіцамі.[127] Жыхароў Лоеўшчыны зноў падтрымалі украінскія казакі, паўтары тысячы якіх прыслаў на беларускія землі казацкі палкаводзец з Правабярэжнай Украіны Сямён Палей. Паўстаўшых паспрабаваў выкарыстаць у сваіх мэтах магнацкі род Сапегаў, які ў гэты час валодаў адным з фальваркаў у Лоеве і вёў барацьбу са шляхтай ВКЛ за пашырэнне сваёй улады ў княстве.[128] Прыхільнікі Сапегаў узначалілі паўстанне. Паўстанцы на чале з Такажэўскім і прымкнуўшыя да іх украінскія казакі напалі з Лоева на Холмеч, якім валодаў М.Д.Валовіч і абрабавалі яго, але вымушаны былі адступіць да Лоева.[129] .У лістападзе паўстанцы на чале з парнаўскім падкаморым шляхціцам Мікалаем Більдзюкевічам разграмілі пад Лоевам урадавыя валашскія харугвы мазырскага старасты палкоўніка Міхала Халецкага. Толькі мабілізаваўшы новыя сілы, войска ВКЛ з дапамогай мясцовага шляхецкага апалчэння нанесла паражэнне паўстаўшым сялянам і казакам і вымусілі іх адступіць ад Лоева.[130] (*Іл-я 23. Карта “Лоеў у час паўстання 1701г.”*)

У пачатку XVIII ст. на Украіне ўзнік так называемы “гайдамацкі” рух. Для яго былі характэрны формы стыхійнага сялянскага антыфеадальнага, антыкаталіцкага паўстання, якое суправаджалася захопам памешчыцкіх маёнткаў, касцёлаў і цэркваў, знішчэннем прыгонніцкіх дакументаў, забойствам шляхты і святароў, нападамі на яўрэяў-арандатараў, карчмароў і ліхвяроў. Гайдамаччына працягвалася некалькі дзесяцігоддзяў. З вясны 1750 г. гайдамацкі рух стаў хутка пашырацца на поўдзень Беларусі. Разрозненыя гайдамацкія атрады ( ад некалькі чалавек да тысячы) звычайна складаліся з запарожскай казацкай “голытьбы”,

126 Perdenia J. Stanowisko Rzeczypospolitej szlacheckiej wobec sprawy Ukrainy na przelomie XYII-XYIII w. Wroclaw – Warszawa – Krakow. 1963. S. 30.
127 Jasienica P. Rzeczypospolita obojgo narodow. Cz.3. Warszawa. 1972. S. 61.
128 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ( далей НГАБ). Ф.1731, воп.1, спр. 2, арк. 280 адв.
129 Вялікае Княства Літоўскае. Энцыклапедыя ў2/3 тамах./Рэдкал: Т.У.Бялова (гал рэд.) і інш. Мінск.БелЭн, 2010,-696с.; іл.- Т.3. С.374.
130 Віцько Дз. Паўстанне на ўсходзе Беларусі ў 1701-1702 гг. // Беларускі гістарычны часопіс. № 4. 2007. С.19.

Лоевам час ад часу аднаўляліся зноў. Так 20 верасня чарнігаўскі палкоўнік Сцяпан Падабайла зноў зрабіў спробу штурмам узяць Лоеў, але не здолеў гэта зрабіць і узяў мястэчка ў аблогу. Пад кіраўніцтвам шляхціча Аляксандра Ябланоўсагa абарону Лоева вялі разам з мясцовымі жыхарамі 250 пехацінцаў і 260 коннікаў. Падчас штурму загінула каля 100 абаронцаў Лоева, у тым ліку некалькі шляхцічаў. На дапамогу абаронцам падыйшлі загоны пад начам шляхцічоў Качынскага з Упіцкага і Юзэфовіча з Браслаўскага паветаў, але прабіцца ў Лоеў не змаглі і сталі дзейнічаць супраць казакаў у ваколіцах мястэчка. Аблогу прыпыніў толькі універсал гетмана Хмельніцкага аб заключэнні Белацаркоўскага міру.

7 кастрычніка 1651 г. Падабайла прыбыў у Лоеў, правёў перамовы з ротмістрам Ябланоўскім, а 8 кастрычніка вывеў сваё войска з казацкага табара і накіраваў яго на гетманскую Украіну.[125] (*Іл-я 22. Наказны гетман Левабярэжжа, чарнігаўскі палкоўнік Сцяпан Падабайла. Мастак Даніла Нарбут.*)

І ў далейшым сяляне і мяшчане Лоеўшчыны неаднойчы ўздымаліся на барацьбу супраць феадальнага прыгнечання, часта гэтая барацьба вялася пры падтрымцы жыхароў суседніх рэгіёнаў Беларусі і украінскіх казакаў. Нярэдка такія паўстанні падтрымліваліся і царскімі ўладамі Расіі. Вядома, што ў пачатку сакавіка 1684 г. ў раёне Лоева вакол будучага старадубскага палкоўніка Якава Самайловіча разам з месцічамі сабраліся сяляне і гараджане з усходняй часткі Беларусі, а таксама ўкраінскія казакі. Выкарыстаўшы пасіўнасць мясцовых улад, атрад Самайловіча выступіў з Лоева і захапіў значную частку Мсціслаўскага ваяводства з валасцямі Гомельскай, Чачэрскай і Прапойскай, аж да вытокаў Сожа. Кіраўнікі паўстання мелі на мэце далучыць міжрэчча Сожа і Дняпра да Левабярэжнай Украіны, якая на той час знаходзілася пад аўтаномным гетманскім кіраваннем у складзе Расійскай дзяржавы. На занятай тэрыторыі, яны ўвялі казацкія парадкі, а пражываючай тут шляхце пад пагрозай пакарання было прапанавана пакінуць сваё месца жыхарства.

Улады Рэчы Паспалітай кваліфікавалі гэтае паўстанне як парушэнне Андрусаўскага перамір'я 1667 г. З Варшавы ў Маскву былі адпраўлены спецыяльныя пасланцы з пратэстам. У сувязі з гэтым, рускі ўрад быў вымушаны распарадзіцца вывесці казакаў

125 Мицик Ю. Лоів у роки Національно-визвольноі війни українського народу 1648-1658 рр.// о. Юрій Міцік. Albaruthenika. Студіі з історіі Білорусі. Киів. 2009. С. 149.





князя, у XVI – XVII стст. – памочнікаў ваяводы або старасты.) Ваяводства ў сваю чаргу падзялялася на Кіеўскі, Канеўскі, Чаркаскі, Пуціўльскі, Астрожскі, Жытомірскі, Оўруцкі, Чарнобыльскі, Мозырскі і Любечскі паветы. З утварэннем ваяводства ўся паўната ўлады на Кіеўшчыне належала ваяводзе: ён збіраў апалчэнне, яму непасрэдна падпарадкоўвалася ўся мясцовая шлята. Гісторык М. Доўнар-Запольскі засведчыў, што ў 1471 г. вялікі князь Казімір пакінуў усе "городки киевские"пад сваім кіраўніцтвам, але абяцаў надзяляць імі толькі кіяўлян.[18] У склад паветаў уваходзілі воласці, якія раздаваліся набліжаным да вялікага князя людзям па так называемым пажыццёвым ("довичным") праве. У ВКЛ да XVI ст. у гістарычных дакументах паняцці "павет" і "воласць" (як адміністрацыйныя адзінкі) нярэдка супадаюць. Гэта мы можам патлумачыць тым, што павятовыя цэнтры адначасова з'яўляліся і аднаіменнымі цэнтрамі валасцей. Толькі з утварэннем Рэчы Паспалітай "павет" стаў азначаць шляхецкую акругу, але і тады, калі нікалі "паветам" працягвалі называць і сельскія воласці і наадварот: воласці-паветамі. Паветы і воласці ўзначальвалі намеснікі-дзяржаўцы вялікага князя, якія атрымлівалі гэтыя пасады звычайна па, так званым пажыццёвым ("довичным") праве, як узнагароду за паслугі вялікаму князю ці дзяржаве (пачынаючы з XVI ст. гэтая пасада ў ВКЛ трывала набывае назву "староста").

У 1477-1483 гг. намеснікам Любеча быў віленскі пісар Васько (Васілец) Любіч. З утварэннем Любечскага павета паскараецца працэс надзялення мясцовага баярства зямельнымі валоданнямі, і аднaчасова ўзнікненне новых населеных пунктаў. Як адзначаў польскі гісторык А. Яблаоўскі, у 1471-1480 гг. мясцовае баярства атрымлівала ў аколіцах Любеча шматлікія землі-"грунты" і сёлы -"острови" ( ад літоўскага sala –востраў). Землі баярству надаваліся на "военному прави" з умовою нясення вайсковай службы. За даннымі даследніка, менавіта Мартын Гаштольд надаў у Любечскім павеце шмат зямель вайсковаслужылай шляхце, але большасць землеўладальнікаў валодала тут сваімі зямлямі яшчэ

18 Довнар-Запольский М.В. Украинские староства в первой половине XVI в. Киев.1908. С.10;:Кондратьев Ігор. Любецьке староство (XV-середина XVII ст.) Чернігів. 2014. С.38.; У выданні "Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя…. Т.2. С.90.", верагодна дапушчана тэхнічная памылка, бо ў пераліку паветаў адсутнічае Канеўсеі павет.

да 1471 г. Вёска Бывалькі і Бывалькаўшчына былі да пачатку XVI ст. родавай уласнасцю шляхцічаў Бывалькевічаў, якія выкарыстоўвалі герб Далега, а шляхцічы Зарэцкія герба Слепаўрон валодалі возерам Глушэц каля аднаіменнай замкавай вёскі.

Пасля смерці "безпотомно"намесніка Васько Любіча, Любеч 2 кастрычніка 1483 г. быў нададзены Казімірам Ягелонам "у вотчыну" маскоўскаму эмігранту , князю Васілю Міхайлавічу Вярэйскаму. Падчас цяжкай літоўска-маскоўскай вайны 1487-1494 гг Любечская валасць значна пацярпела і апынулася на памежжы з Маскоўскай дзяржавай. Да таго ж, у гэты час рэгіён не менш чым тройчы (1489, 1493, 1497 гг.) патрапіў пад набегі крымскіх татар.[19]

У 1499 г. В.Вярэйскі атрымаў пацверджанне на Любецкую валасць ад Александра Ягелона, але ўжо ў 1500 г. памёр. На кароткі час валадаркай Любеча стала жонка князя Марыя Вярэйская (Палеолаг) разам з дачкою Соф'яй, якая затым адружылася з сынам Мартына Гаштольда Альбрэхтам. У 1500-1503 гг. успыхнула вайна паміж ВКЛ і Маскоўскім княствам, якой скарыстаўся стародубскі князь Іван Мажайскі, які перайшоў на службу да маскоўскага князя Івана III і захапіў Любеч. Па мірнай дамове ад 28 сакавіка 1503 г. паміж ВКЛ і Маскоўскаю дзяржаваю Любеч і Лоева гара адыйшлі да Масквы, а Брагін і Рэчыца засталіся ў ВКЛ.[20]

## Замак на Лоевай гары

У гэты час паселішча на Лоевай гары і замак адыгрываюць значную ролю ў абароне важнейшай пераправы на Дняпры, так званага "Татарскага брода", бо пераправа праз яго адкрывала крымскім татарам шлях у глыб беларускіх зямель. Паселішча зведала тады некалькі татарскіх спусташальных набегаў. Летам 1505 г., менавіта ў сувязі з паходам войск Перакопскай Арды Махмет Гірэя "на Лоеву гару, … замак Менск, … і пад Слуцак" Лоеў

19 Яблоновский А. Левобережная Украина в XV-XVII стст. Очерк колонизации.// Киевская старина, № LIII.1896.С.93; Кондратьев Ігор. Любецьке староство (XV-середина XVII ст.). С.48,300,306.

20 Кром. М.М. Меж Русью и Литвой. Пограничные земли в системе русско-литовских отношений конца XV-первой трети XVI в. 2-е изд., испр. и доп. М., 2010. С.77, 114; Яковенко Н.М. Українська шляхта з кінця XIV до середини XVII ст…С.344





ценным месцам Брагінскага палка. Ёсць звесткі, што Лоеўская сотня прымала ўдзел у складзе казацкага загона Філона Гаркушы у паспяховым паходзе на Бабруйск, Беразіно і Быхаў. У лістападзе 1648 г. сотнік Фясько (Трэска) "з Лоева родам" узначаліў аддзел дабраахвотнікаў лікам 1000 чалавек і каб здабыць порах выправіўся пад Мінск, дзе 29 лістапада захапіў горад Ігумен (зараз Чэрвень Мінскай вобласці). На шляху да Ігумена казакі "нападалі на шляхецкія дамы і гарады, не толкі забіралі маёмасць, але таксама хапалі саміх гаспадароў, катавалі і забівалі, страляючы ў іх з самапалаў."[122]

Вядома таксама, што ў маі 1649 г. войска гетмана польнага ВКЛ Януша Радзівіла штурмам узяло Лоеў, а казакаў і падтрымаўшых іх мяшчан, "и их жон и детей порубили всех".[123] Як сведчыць у пісьме да вялікага гетмана Я.Кішкі удзельнік тых падзей шляхціч А.Даўгяла, падчас штурму Лоева патрапіў "живцем" у палон і быў прывезены ў Рэчыцу сотнік Фясько (Трэска). З пісьма вынікае, што сотнік здрадзіў казакам і выдаў месцазнаходжанне 80-ці сваіх падначаленых, чым скарысталася ліцвінскае войска.[124] Калі ж у чэрвені 1649 г. да Лоева падышоў казацкі чарнігаўскі полк Сцяпана Падабайлы, то гарнізон Лоеўскага замка аказаў яму адчайнае супраціўленне, замак быў захоплены казакамі. Але і падчас Лоеўскай бітвы 31 ліпеня 1649 г. некаторыя мясцовыя жыхары аказвалі падтрымку казацкаму войску Міхаіла Крычэўскага ў якасці не толькі воінаў, але і праваднікоў. Інакш ніяк нельга растлумачыць, якім чынам казацкае войска Крычэўскага ў ходзе бітвы здолела за чвэрць гадзіны так размясціцца і ўмацавацца на мясцовасці, што было недаступным для атакі цяжкай конніцы Януша Радзівіла.

Украінскія гістарычныя крыніцы сведчаць таксама, што пасля Лоеўскага прарыву 6 ліпеня 1651 г. войск ВКЛ Януша Радзівіла праз Дняпро на Украіну і паходу яго на Кіеў, баявыя дзеянні пад

122 Документы об освободительной войне украинского народа 1948-1954 гг. Киев, 1965. С. 161-162.

123 Памятники, изданные Киевской временной комиссией для разбора древних актов. Т.1. Изд.2. Отдел III. Материалы для истории Малороссии. Киев, 1848. С.390-391.; Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Рэчыцкага раёна ў 2 кн. / Уклад. П.П. Рабянок. Кн.1. Мінск, 1998. С.42.

124 Воссоединение Украины с Россией: Документы и материалы в трёх томах./ Сост. Н. М. Апанович, Е. И. Луговая и др. //Освободительная война.украинского народа и борьба за воссоединение с Россией (1648-1651гг.).Том 2.Москва: Изд-во АН СССР, 1953.С.214.

## З гісторыі сацыяльных і этнаканфесійных дачыненняў на Лоеўшчыне ў Новы час

Лоеўшчына размешчаецца ў паўднёва-усходняй часцы Беларусі і мае тую геаграфічную адметнасць, што мяжуе з Украінай, а на працягу першага перыяду новага часу знаходзілася і на памежжы з Расійскай дзяржавай. Памежнае становішча рэгіёна наклала пэўны адбітак на сацыяльныя і этнаканфесійныя дачыненні беларускага насельніцтва. У дадзеным артыкуле маецца на мэце даследавць прычыны і ход сацыяльнага і этнаканфесійнага руху ў Новы час на Лоеўшчыне, праанілізаваць яго сувязі з палітычнымі і сацыяльна-эканамічнымі працэсамі на Украіне і Расійскай дзяржаве. Безумоўна, барацьба жыхароў гэтага рэгіёна супраць сацыяльнага і нацыянальна-рэлігійнага прыгнечання мела больш разнастайныя, чым разглядаецца ў артыкуле, формы і насычаную падзеямі гісторыю, але гістарычныя дакументы даюць магчымасць прасачыць толькі найбольш вострыя і значныя падзеі з гісторыі грамадскага руху ў рэгіёне, пачынаючы з сярэдзіны XVII ст.

### У складзе Рэчы Паспалітай

Вядома, што падчас антыфеадальнай казацка-сялянскай вайны 1648-1651 гг. мяшчане і сяляне Лоева і навакольных вёсак актыўна падтрымалі паўстанне ўкраінскіх казакаў. У канцы мая 1648 г. жыхары Лоева дабравольна адкрылі паўстанцам гарадскія браму перад казацкім загонам чарнігаўскага палкоўніка Мартына Нябабы.[120] Шмат сялян і мяшчан тады ўліліся ў рады паўстанцаў, а з жыхароў Лоева была сфарміравана казацкая сотня на чале з сотнікам якога украінская гісторыяграфія называе Фясько, а польская –Трэска.[121] Тады ў казацкай адміністрацыі Лоеў стаў со-

120 Живописная Россия. Т.3. Мн., 1993. С.308.
121 Мицик Ю. Лоїв у роки Національно-визвольної війни українського народу 1648-1658 рр.// о. Юрій Міцік. Albaruthenika. Студії з історії Білорусі. Київ. 2009. С. 148. Бярнацкі В. Паўстанне Хмяльніцкага. Ваенныя дзеянні ў Літве ў 1648-1649 гг. // ARCHE. № 1-2. 2008. С.65.





упершыню згадваецца ў “Хроніцы Быхаўца”. Падчас гэтага пахода 5-тысячнага татарскага загона, былі зруйнованы не толькі Лоеўскі замак, але і суседняя в. Мохаў. Менавіта з гэтай падзеі, якая адбылася 510 гадоў назад, пачынаецца пісьмовая гісторыя Лоева і Лоеўшчыны. У канцы мая 1506 г., спустошыўшы суседнія землі Маскоўскага княства, праз Лоеву гару ў ВКЛ зноў уварвалася войска крымскага хана, якое затым было ўшчэнт разбіта літвінамі 5 жніўня 1506 г. у бітве пад Клецкам.[21] (*Іл-я 3. Памятны знак “ Татарскі брод”, усталяваны ў 2008 г.на адлегласці 1,5 км ніжэй Лоева па Дняпру. Від на Татарскі брод з беларускага боку. Здымак Сямашка Ксеніі.2015 г.*)

У 1506 г., не зважаючы на маскоўскую прыналежнасць Любеча, вялікі князь літоўскі Аляксандр зацвердзіў за Саф’яй Вярэйскай і яе мужам падчашым ВКЛ Альбрэхтам Гаштольдам права збіраць падаткі ў Любечскай воласці. Можна меркаваць, што гэта падараванне мела тады толькі сімвалічны характар. Калі ў 1507-1508 гг. запалыхала новая вайна паміж ВКЛ і Масковіяй, Любечская зямля была адваявана, бо ў “перемирному листе” 1508 г. маскоўскага князя Васіля III і караля Жыгімонта I Старога Любеч “з волостьми” названы літоўскім, а суседнія -Чарнігаў, Старадуб і Гомель-маскоўскімі. З 1508 па 1537 г. землі Любечскага павета знаходзіліся на памежжы з Маскоўскім княствам.

Падчас чарговай літоўска-маскоўскай вайны 1512 -1522 гг., Любеч у 1516 г быў канчаткова перададзены ў “вичность” Альбрэхту Гаштольду, а ў 1522 г. Жыгімонт I Стары пацвердзіў права збіраць падаткі з Любечскай воласці С.Вярэйскай і А.Гаштольду.

Альбрыхт Гаштольд унёс значны ўклад у развіццё дзяржаўнасці ВКЛ. На працягу жыцця ён займаў значныя дзяржаўныя пасады: навагрудскага намесніка (1503-1506 гг.), падчашага ВКЛ (1505-1509 гг.), старосты бельскага (1513 г.), мазырскага (да 1514г.), гарадзельскага (да 1533г.), ваяводы навагрудскага (1513-1519гг.), полацкага (1519-1522гг.), з 1522 г. быў ваяводам віленскім і канцлерам ВКЛ. Меў таксама вялікія вайсковыя заслугі: у

21 Хроніка Быхаўца.//Старажытная беларуская літаратура.Мн.,1996. С.196.; Центральний Державний Історичний Архів України у м. Києві (надалей ЦДІАК України). Ф.1235.Оп.1.Спр. 1240. Грушевський О.С. Статті до історико-географічного словника Україні по Чернігівському повіту Чернігoвської губернії (1930-і рр.). Арк.18

1503г. разбіў каля р. Прыпяць саюзнае Маскве татарскае войска; у 1507 г. кіраваў абаронай Смаленска ад маскоўскага войска; у 1508 г. узначальваў войска ВКЛ ў баях пад Оршай; у 1518 г. разбіў маскоўскіх ваявод пад Полацкам. Пад яго кіраўніцтвам у 1529 г. стварауся І Статут ВКЛ. Вядома, што ў 1522 г. А. Гаштольд, як адзін з найзаможнейшых магнатаў ВКЛ, выстаўляў у войска 466 конных воінаў.[22]

На рубяжы 20-30-гг. працягваліся прыкардонныя канфлікты паміж ВКЛ і маскоўскай дзяржавай, нягледзечы на заключаную ў 1522 г. дамову аб перамір'і, па якому Кіеў, Чаркасы, Жытомір, Оўруч і Любеч "з волостьми" засталіся ў ВКЛ. Не абышлі межы Любецкай павета і падзеі Старадубскай вайны (1534-1537 гг.). Ужо восенню 1534 г. войска ВКЛ на чале з Неміровічам рушыла праз Любецкую воласць да Чарнігава, дзе 11-12 верасня адбылася бітва з маскоўскім войскам. У 1535 г. маскоўцамі быў спалены Брагін. У ліпені 1536 г. маскоўскі ваявода князь Іван Гарэнскі здзейсніў паход са Старадуба на Любеч, дзе"острог взяли и посад пожгли", спалілі суседнія вёскі і захапілілі палонных . Колькасць палонных была настолькі значнай, што гэта ўскладніла далейшы паход, таму "под иные города не пошли"[23]

Працягваліся і татарскія набегі. Вядома, што татарскія загоны прайшлі ў 1536 і 1538 гг. паміж балот Замглай і Парысце на Каменецкую гару ў Левабярэжжы, а адтуль праз Татарскі брод на Лоеў. У 1539 г.Жыгімонт І канстатаваў, што з 1537 г. "люди великии поганство Татарове идуть уверх Днепра… мимо Чернигова и на Лоеву гору… в великое княжество Литовское, сказу и плен подданным нашим чинити." Пастаянныя напады ворагаў прымушалі вялікіх князёў літоўскіх развіваць сістэму прыкардонных замкаў. У гэты перыяд быў адноўлены Любечскі замак. Пэўныя захады ў 1538 г. былі зроблены і па ўмацаванню замка ў Лоеве, які ўжо менавіта тады ўпершыню згадваецца як мястэчка Любецкай

22 Кром. М.М. Меж Русью и Литвой. Пограничные земли в системе русско-литовских отношений конца XV-первой трети XVI в. С.200, 212,225; Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя… Т.1. С.517.
23 Кром М.М. Стародубская война (1534-1537). Из истории русско-литовских отношений. М. 2008. С.87-88.




рублёў у год.[117]

У канцы XIX стагоддзя да сям'і Эдмунда Лашча перайшла сядзіба Нарушэвічаў. Напэўна, яна была выкуплена Лашчамі. Эдмунд Лашч ад шлюба з Сафіяй Юдзіцкай меў трох сыноў: **Станіслава, Яна (Аляксандра)** і **Генрыха (Германа),** і двух дачок: **Уладзіславу і Ядзвігу**. Яго дочкі выйшлі замуж за прадпрымальнікаў-братоў Мольскіх.[118] Вядома таксама, што Генрых Лашч у 1903 г. ажаніўся ў Мінску на Алене Сакульскай.[119]

Пасля смерці Эдмунда Лашча Лоеўскае памесце было ў сумесным валоданні яго дзяцей, але галавой роду быў старшы сын Станіслаў, які стала жыў у Лоеве. Толькі ў чэрвені 1920 г., перад адступленнем польскіх войск з Лоева падчас савецка-польскай вайны 1919-1920 гг., Станіслаў Лашч з сям'ёй і пажыткамі, якія можна было вывезці на падводах, пакінуў Лоеў і выехаў у Польшчу.

Вядома, што Лоеўскі сядзібны дом Юдзіцкіх-Лашчаў згарэў у лістападзе 1943 г. падчас пажару, які ўзнік ужо пасля вызвалення Лоева ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Амаль 100 гадоў назад апошнія спадкаемцы рода Юдзіцкіх Лашчы назаўжды вымушаны былі пакінуць Лоеў. Аб тым, што гэты знакаміты шляхецкі род некалі ўладарыў тут, мясцовым жыхарам калі-нікалі нагадваюць амаль ужо забытыя паданні і тапанімічныя назвы, а таксама прыгожы палац, які размяшчаецца на маляўнічым узвышаным беразе Дняпра паміж вёскамі Суткоў і Пярэдзелка – старэйшы на Лоеўшчыне помнік класічнай архітэктуры.

Гэты палац і вёска Юдзічы ў Рагачоўскім раёне застаюцца, напэўна, адзіным напамінкам аб тым, што некалі заможны і ўплывовы ў Рэчыцкім павеце шляхецкі род Юдзіцкіх зрабіў значны унёсак у развіццё рэгіёна.

117 Jelski A. Lojow.// Slownik geograficzny. T.Y. Warszawa. 1884. S.687.
118 Памяць:Гісторыка-дакументальная хроніка Лоеўскага раёна. С.583.
119 Herbarz polski. T.XY. Warszawa. 1912. S.222.

свіран, вазоўню і лодачную. Паводле даных інвентара 1846 года, у склад Лоеўскага маёнтка, апрача Лоева, ўваходзіла 18 вёсак, налічвалася 2645 душ мужчынскага полу і 3163 душы жаночага полу.[113] (*Іл-я 21.Сядзібны дом Юдзіцкіх-Лашчоў у Лоеве. Малюнак па памяці, зроблены ў 2007 г. К.М. Шарэпам (1935-2007г.) – ураджэнцам Лоева, доктарам медыцынскіх навук.* )

Адносна даты смерці Юзафа Юзавіча Юдзіцкага існуюць таксама супярэчлівыя звесткі. Польскі гісторык Эмануэль Раствароўскі сцвярджае, што ён памёр у 1648 г.[114] Але гэтая дата абвяргаецца беларускімі архіўнымі крыніцамі, якія сведчаць, што Юзаф Юдзіцкі памёр 27.11. 1841 г. Вядома, што ўжо з пачатку 1842 г. фальваркі маёнтка Лоеў здаваліся ў часовую арэнду ў сувязі з малалецтвам Ідаліі і Сафіі Юдзіцкіх. Арандатары мала турбаваліся аб даходнасці гаспадаркі маёнтка. У гэты час затраты на вядзенне паншчыннай гаспадаркі павялічваліся, а прыбыткі змяншаліся. Фальваркі Лоеўскага ключа патрапілі ў глыбокі крызіс, які суправаджаўся павелічэннем эксплуатацыі сялян, іх скаргамі губернскім уладам, хваляваннямі, паступовай стратай зямельных уладанняў. Вядома, што ў 1848 г. фальварак Бывалькі разам з 2709 дзесяцінамі зямлі і вёскай быў прададзены за даўгі з таргоў у Мінскім губернскім праўленні былой жонцы Ю.Ю.Юдзіцкага княгіні Ю.М.Любамірскай (народжаная Радзівіл) за 37500 рублёў серабром.[115]

У сярэдзіне XIX ст. Ідалія Юдзіцкая выйшла замуж за Адама Максіміліяна Нарушэвіча, 1829 года нараджэння, сям'я якога мела радавы герб Вадвіч і валодала землямі на Піншчыне ў Беларусі, а таксама ў Літве і Польшы, а на малодшай з сясцёр – Сафіі - ажаніўся Эдмунд (Эдвард) Лашч, прадстаўнік польскага шляхецкага рода, які выйшаў у XV ст. з Мазовіі і меў герб Праўдзіч.[116]
Пасля адмены прыгоннага права і пераводу сялян на выкуп уладары Лоеўскага памесця захавалі 915 валок ( 19 554 гектараў) зямлі пад лясамі, лугамі і ворывам, а таксама млыны, прадпрыемствы і рыбныя промыслы, здольныя даваць прыбытак да 2 тысяч

113 НГАБ. Ф.142, воп.1, спр.1442, арк. 2-7.
114 Rostworowski E. Judycki Jozef // Polski Slownik Biograficzny. T. XI. S..314.
115 НА РБ. Ф.319, воп.5, спр. 52, арк.11-18; Ф.167, воп. 1, спр. 1594, арк. 19-20.; Белоруссия в эпоху феодализма. Т.6. Мн., 1979. С. 265-266.
116 Aftanazy R. Dzieje rezydencji ... T. 1. S. 157.





валасці.[24]

Цікава, што права надзяляць зямлёй вайсковаслужбоўцаў належала як ваяводам, так і павятовым наместнікам. Як наместнік любечскі, А. Гаштольд спрыяў набыццю павятовай служылай шляхтай зямлёй і вескамі, у тым ліку і на правабярэжжы Дняпра. Ад яго атрымалі веску Савічы - баярска-шляхецкі род Савічаў. Вядома, што ў 1526 г. прывілей на валоданне вёскай Калодчычы на Лоеўшчыне атрымаў "жоне і детемъ его"князь Іван Рыгоравіч Сенскі, які быў жанаты на Фене Сямёнаўне Полазавай, дачцэ рэчыцкага дзяржаўцы (не пазней 1519-1532 гг.) Сямёна Полазавіча (Сенькі Полаза). Відавочна, што гэтая вёска з даўніх часоў была ў сумесным трыманні любечскіх і рэчыцкіх урадоўцаў (т.н " старасцінская" зямля- М.А..), бо калі пасля смерці князя І. Сенскага, яго жонка адружылася з любецкім урадоўцам князем Дзмітрыем Раманавічам Відніцкім, гэта выклікала вострыы канфлікт паміж Рэчыцай і Любечам наконт прыналежнасці Калодчыч. Вядома, што спрэчка вырашылася 29 студзеня 1541 г. на карысць князя Д. Відніцкага і яго прыёмных дзяцей. Доўгі час навукоўцам не ўдавалася дакладна лакалізаваць в. Калодчычы на правабярэжжы Дняпра. Толькі з увядзеннем украінскім вучоным І. Кандрацьевым у навуковае выкарыстанне прывілея Жыгімонта ІІ Вазы (датаванага 1595 г.) аб наданні ў валоданне лоеўскага шляхціча Рыгора Сіліча в. Каўпынічы (Каўпені), у якім сцвярджаецца, што каля в. Калодчычы "проживали люди прозываемые Ковпыничи", стала зразумела, што сярэднявечная в. Калодчычы, гэта сучасная в.Сінск. (Вёска Сінск Лоеўскага р-на размешчаецца каля Дняпра ў 5 км на поўдзень ад в. Каўпень, яшчэ ў XIX ст. мела назву Сенская).[25]

Пасля смерці Альбрэхта Гаштольда ў 1542 г. валадаркаю Любе-

24 Акты об украинной администрации. // Архив Юго-Западной Росии.( далее АЮЗР) Ч. VIII. Киев. 1907. T.V.C.17-18.; Мальченко О.С. Укріплені поселення Брацловського, Київського і Подільського воеводств XV – середина XVII століть. Київ., 2001.С.188.; Кондратьев Ігор. Любецьке староство (XV-середина XVII ст.). С.292.
25 Литовская метрика. [10-я книга судных дел] (1540-1541). Вильнюс, 2003. С.120-122; Темушев В. Н. Гомельская земля в конце XV – первой половине XVI в.Территориальные трансформации в пограничном регионе. М., 2009. С. 85.; ЦДІАК Україні. КМФ. 36.Оп.1.Спр. 200. Волинська метрика. Кніга РМ 11 (1588-1589, 1591-1597 рр.) Арк.134-134 зв.; Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Лоеўскага раёна./ Пад рэд. Г.П.Пашкова (гал.рэд.) і інш., Мінск, 2000. С.44, 49, 565.

ча стала Соф'я Гаштольд-Вярэйская, якая на сем гадоў перажыла свайго мужа.

Апасля 1549 г. Любеч як "вымарачнае" месца перайшоў да вялікага князя і стаў цэнтрам староства.- дзяржаўнага зямельнага ўладання (звычайна мястэчка і валасці), якое вялікі князь даваў у часовае карыстанне феадалам і якое з'яўлялася кармленнем дзяржаўных службовых асоб. У Вялікім Княстве Літоўскім староста быў службоваю асобаю, намеснікам вялікага князя, трымальнікам дзяржаўных маёнткаў. Як правіла староста прызначаўся пажыццёва (здаралася, што гэтая пасада давалася за асаблівыя заслугі перад дзяржавай), ён карыстаўся даходамі з маёнткаў, збіраў у дзяржаўную казну "кварту"- падатак на ўтрыманне войска.

На працягу 1550-х гадоў старостамі ў Любечы не працяглы час былі Мацвей Кміта (1551г.), Іван Служка (1552-1553гг.), сын Мацвея Кміты Рыгор (1553-1559гг.), кіраванне якіх не пакінула тут глыбокага следу.[26]

Значны ўклад у развіццё Любечскага староства ўнёс адзін з выбітных прадстаўнікоў рода Сапегаў герба "Ліс" Павел Іванавіч Сапега каля (1490-1580 гг.). У пісьмовых крыніцах ён упершыню згадваецца як любечскі староста пад 1560 г. Ёсць звесткі, што пасаду старасты Павел Сапега атрымаў за 5060 коп літоўскіх грошаў, якія ён унёс у скарбонку ВКЛ. Вядома таксама, што ён атрымаў адукацыю ў Кракаўскім універсітэце, быў дзяржаўцам браслаўскім (1517-1547 гг), маршалкам гаспадарскім (1519-1557 гг.), паяводам падляшскім (1556-1558 гг.) і навагрудскім (з 1558 г.). Кіраваў ліцвінскім войскам у вайне з Масковіяй у 1534-1535 гг., і ў час Лівонскай вайны ў 1561 г. Быў праціўнікам Люблінскай уніі 1569 г, але падпісаў яе заключны акт. Першы раз быў жанаты на Алене Гальшанскай, а пасля яе смерці, адружыўся (падчас любечскага старастравання) ў другі раз, на Ганне Хадкевіч.[27] (*Іл-я 4.*

26 Кондратьев Ігор. Любецьке староство (XV-середина XVII ст.). С.81-83.

27 Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя. У 2(3) т… .Т.2. С.547.; Пашкевіч У. Да пытання аб уладальніках Лоеўскай зямлі ў XVI -XVIII ст. // Гісторыя Лоеўской зямлі. Факты.Каментарыі… С.58.





Катарыне Юдзіцкай у пасаг былі аддадзены бацькам маёнтак і мястэчка Журавічы, бо ў 1799 г. мястэчка Журавічы Быхаўскага павета Магілёўскай губерні таксама ўжо згадваецца як ўладанне Дорыя-Дзерналовічаў.[112]

Сядзібны дом - рэзідэнцыя графаў Юдзіцкіх – стаяў на высокім мураваным падмурку, меў некалькі гаспадарчых пабудоў. Ад дома да Дняпра распасціраўся прыгожы ліпавы парк з сажалкай і каштанавай алеяй каля ракі. Далей на поўнач, уздоўж Дняпра, быў пасаджаны вялікі пладовы сад, які цягнуўся больш кіламетра да былога маёнтка Сапегаў, так што вясной і летам Лоева гара літаральна патанала ў зяляніне і квецені сада і парка.

Сам сядзібны дом быў пабудаваны з цясанага дрэва, з паўднёвага боку ён меў парадны ганак, на які абапіраліся 4 калоны. З паўночнага боку быў атынкаваны і меў такі ж ганак з пафарбаванымі калонамі, які выводзіў у сад. Парадны ганак вёў у прыхожую, паабапал якой размяшчаліся ў рад па чатыры пакоі. Сцены і калоны пакояў з правага боку былі пакрыты пафарбаванай тканінай. Трое дзвярэй у пакоях былі падвойныя, тонкай сталярнай работы з унутранымі замкамі, упрыгожаныя пафарбаванымі налічнікамі і акаваныя жалезам. Пакоі мелі 3 пафарбаваныя і упрыгожаныя бляшкамі і ажурнымі дзверцамі кафельныя печы.

З правага боку 4 пакоі мелі сцены пакрытыя нефарбаванай тканінай, кафельныя печы і чэцвяра дзвярэй, акаваных жалезам, з унутранымі замкамі.

Прыхожая выходзіла да вялікай залы і двух малых гардэробаў, якія мелі сцены пакрытыя нефарбаваным палатном, і 4 шэрыя кафельныя печы з бляшкамі і жалезнымі дзверцамі. Унутраныя дзверы ў залу мелі унутраныя замкі і былі акаваныя жалезам. Дзверы, што вялі з зала ў сад, былі падвойныя і напалову зашклёныя. Усе печы выходзілі на даху ў 4 каміны. Дом меў 25 акон зашклёных празрыстым шклом, з пафарбаванымі і акаванымі жалезам рамамі і форткамі. Дах быў пакрыты пафарбаваным жалезам. Сядзібны дом меў некалькі гаспадарчых пабудоў: дзве гасцінныя, адну непасрэдна каля палаца, другую на паўночнай ускраіне Лоева (былы маёнтак Сапегаў), кухню, сталовую, канюшню і стайню,

112 Гарады і вёскі Беларусі. Гомельская вобласць. Кн. II. Мн. 2005. С. 246.

спадчына перайшла менавіта да малалетніх дочак апошняга ўладальніка Лоеўскага маёнтка. Да таго ж, адсутнасць у Станіслава Юдзіцкага спадчынніка-сына ўскосна пацвярджае і той факт, што Юлія (Ідалія) Юдзіцкая пасля смерці бацькі ў 1828 г. перадала Суткоўскае памесце ў спадчыну свайго мужа.[110]

Пасля смерці Юліі(Ідаліі) Юдзіцкай ў 1839 г. яе сын, **Генрых Рудзіеўскі,** па невядомых прычынах прадаў Суткоўскае памесце ў 1870 г. Чайкоўскай, ад якой яго ў 1882 г. выкупіў міравы суддзя Аляксандр Іванавіч Бараноўскі, сям'я якога да снежня 1918 г. валодала гэтым памесцем.[111] (*Іл-я 20. Сядзібны дом Юдзіцкіх-Рудзіеўскіх-Бараноўскіх у вёсцы Суткоў. Помнік архітэктуры позняга класіцызму пачатку XIX стагоддзя. Здымак 2005 г.*)

Зараз ёсць падставы меркаваць, што ўжо на пачатку XIX ст. зямельныя ўладанні Юдзіцкіх значна паменшыліся. Род страціў сваю былую палітычную вагу на Беларусі. Лоеўскае памесце атрымаў у спадчыну малодшы сын Юзафа Юдзіцкага, **Юзаф** (1777-1841), бо яго старшы сын, **Ян**, які памёр у 1831 г., быў недзеездольны і не меў дзяцей. Юзаф Юзафавіч Юдзіцкі быў жанаты тройчы і меў некалькі дачок ад розных шлюбаў. Па звестках другой па ліку жонкай Юзафа была Юлія, дачка князя Мікалая Радзівіла і Францішкі Бутлер, з якой ён абраў шлюб у 1804 г. і разышоўся ў 1814 г. Трэцяй жонкай Ю.Юдзіцкага была шляхцянка Паўліна Вальтэр (1815-1856). У іх нарадзіліся дзве дачкі: Сафія (Софія-Францішка-Антаніна) (10.10. 1834 г ) і Ідалія (Валерыя-Ідалія-Антаніна) (01. 11. 1841 г.).

Старшая дачка **Катарына** ад невядомага нам першага шлюбу Юзафа Юдзіцкага выйшла замуж за Севярына Міхала Дорыя-Дзерналовіча (?-1833) герба "Любіч" - рэчыцкага земскага пісара з 1787 г. У канцы XVIII-першай палове XIX стагоддзяў Дорыя-Дзергаловічы валодалі мястэчкам Шарсцін у Гомельскім старастве, вёскамі Ліпа, Рагінь, Струкі, Шарыбаўка, Роўкавічы ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губерні, а таксама вёскамі Вынашаўка і Сырск у Рэчыцкім павеце Мінскай губерні. Верагодна,

110 Нацыянальны Архіў Рэспублікі Беларусь ( далей НА РБ), ф.242, воп.2, спр. 854, арк. 9-10.; Aftanazy R. Dzieje rezydencji ... T. 1. S. 156.

111 Сабашников М. Воспоминания. Москва. 1983. С. 68, 135, 450.




*Сапега Павел Іванавіч –стараста Любечскі 1560-1580 гг*)

У часы стараставання П.Сапегі Брагінская воласць у 1564 г. адышла да Мозырскага павета, але ўжо праз пяць гадоў была павернута Любечскаму павету. У той час павет складаўся з трох воласцяў: Любечскай, Лоеўскай (Лоегорскай) і Брагінскай. Тады ў Любечскае стараства ўваходзілі Любечская і Лоеўская воласці, а таксама паўночна-усходняя частка Брагінскай воласці, правабярэжныя ж землі па р. Брагінка, разам з Брагінам і вёскамі, належалі магнатам Вішнявецкім.

У 1566 г. П.Сапега атрымаў пасаду кіеўскага кашталяна. Кашталян у ваяводскай службовай іерархіі займаў месца адразу пасля ваяводы, уваходзіў у склад Рады ВКЛ, а з 1569 г. – да Сената Рэчы Паспалітай. Галоўнай функцыяй кашталяна быў збор павятовай шляхты ў войска падчас паспалітага рушання і перадача яго пад кіраўніцтва ваяводы.

Вядома, што падчас Люблінскай уніі 1569 г. украінскія землі, патрапілі да Польшчы. Такім чынам Любечскае стараства, а разам з ім Лоеўская і Брагінская воласці, апынуліся ў складзе Кароны. У новай дзяржаве – Рэчы Паспалітай – унутраная мяжа паміж Каронай Польскай і ВКЛ прайшла якраз па паўночнай частцы мяжы Любечскага старасства. Люблінскі акт абумовіў неабходнасць люстрацый ( рэвізій) далучаных да Польшчы зямель ВКЛ. Першая люстрацыя Любецкага старасства прыпадае на 1571 г., але арыгінал рэвізіі ў архівах не выяўлены і яго матэрыялы дайшлі да нас у артыкулах польскага даследчыка А.Ябланоўскага толькі часткова. Любечская старасства складалася з мястэчка і 15 падпарадкаваных старасце паселішчаў, дзе жылі сяляне, слугі і баяры, абавязаныя "службамі" на замак. ( *Табліца 1. "Замкавыя вёскі Любецкага і Лоеўскага старастваў па матэрыялах люстрацый" складзеная ўкраінскім навукоўцам І.Кандрацьевым з удакладненямі аўтара артыкула.*)

**Табліца 1. Замкавыя вёскі Любечскага і Лоеўскава старастваў (па матэрыялах каралеўскіх люстрацый):**

| **Любечскае староства** | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Сучасная назва** | **1571г.** | **1615-1616 гг.** | **1622 г.** | **1628 -1929гг.** | **1636** |
| **Старая Ёлча** Брагінскі р-н Беларусь | Lewcza (1*) | - | - | - | - |
| **Грабаў** Рэпкінскі р-н Украіна | - | Grabów (1) | Grabow (1) | - | Grabowa (1) |
| **Лапатні** Рэпкінскі р-н Украіна | Łopiany (6) | Łopainie (13) | Łopatnie (2) | - | Łopatnie (13) |
| **Бельджычы** (існавала ў XVI-XVII стст. каля Любеча на Левабярэжжы Дняпра) | Bedziwln (5) | Bieldziu-chy (4) | Bieldziu-chy (3) | Bełdniki (9) | Biełdzuch (4) |
| **Губічы** Рэпкінскі р-н Украіна | - | Hubiczę (17) | Hubicze (4) | Hubicze (4) | Ubicz (16) |
| **Вялле** Брагінскі р-н Беларусь | - | Wiale (5) | Wiałe (5) | - | Wiał (5) |
| **Асарэвічы** Брагінскі р-н Беларусь | Esurzyo-wicze (11) | Osoręjo-wicze (7) | Osoryjo-ioicze (6) | - | Oszewro-wice (7) |
| **Піркі **** Брагінскі р-н Беларусь | Pierka (9) | Pierka (16) | Pirka (7) | - | Pirk (16) |
| **Крукі **** Брагінскі р-н Беларусь | - | Kruki (9) | Kruki (8) | - | Kruk (9) |
| **Савічы **** Брагінскі р-н Беларусь | Sowiczy (15) | Sowiczy (14) | Sowiczy (9) | Sonicze (2) | Sowiczy (14) |
| **Грушнае** Брагінскі р-н Беларусь | - | Chruszno (11) | Hruszno (10) | - | Hruszno (11) |
| **Старыя Хракавічы** Брагінскі р-н Беларусь | Chreko-wicze (3) | Cheko-wicze (10) | Hreko-wice (11) | Hreho-wicze (3) | Hekowice (10) |
| **Крастоўскае** (не лакалі-зуецца) | - | - | Chresto-wskie (12) | - | - |
| **Жылічы** Брагінскі р-н Беларусь | Żylicze (8) | Zylicze (12) | Żylicze (13) | - | Żylice (12) |
| **Малажын** Брагінскі р-н Беларусь | - | Malezin (15) | Malczyn (14) | - | Skłalezyi (15) |
| **Глушэц** Лоеўскі р-н Беларусь | Hłuszecz (7) | Hlusiec (8) | Hlusiec (15) | Hłuszec (11) | Chluscz (8) |





Пасля смерці Марыі ён ажаніўся ў 1767 г. на Элаізіі, дачцы рэчыцкага старасты Альбрыхта Радзівіла (1717-1790гг.), вядомага дзяржаўнага дзеяча ВКЛ і аднаго з кіраўнікоў Барскай канфедэрацыі. Ёсць звесткі, што ў Юзафа Юдзіцкага было тры сыны. Яго сярэдні сын, **Станіслаў Юдзіцкі** (1775-1837)., прымаў актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчай барацьбе супраць царызму і быў асуджаны ў канцы 1797 г. да канфіскацыі маёмасці і сямігадовай катаргі ў Сібіры, але быў памілаваны пасля адбыцця 4 гадоў катаргі новым царом Аляксандрам І пасля яго ўзыходжання на трон. Пагэтаму спачатку Юзаф перадаў паўночную частку Лоеўскага ключа з фальваркам у вёсцы Суткоў сям'і сына Станіслава. Тады Суткоўскае памесце мела 9515 дзесяцін (10371 гектараў) зямлі, ў тым ліку 1221 дзесяціну ворыва, 170 дзесяцін сенажацяў, 5653 дзесяціны пад лесам. Да яго належалі прыгонныя сяляне вёсак Ісакавічы, Казіміраўка, Суткоў, Пярэдзелка, Міхалёўка - усяго 145 двароў і 908 жыхароў.[109]

Адзіная дачка Станіслава Юдзіцкага, **Юлія (Ідалія),** выйшла замуж за шляхціча Івана Казіміравіча Рудзіеўскага(каля1798-каля 1872) – старшыні мозырьскага дваранства, род якога меў герб "Равіч". Вядома, што Рудзіеўскія на пачатку XIX ст. валодалі вёскамі Махнавічы і Нахаў у Мазырскім павеце Мінскай губерні. Рудзіеўскі на пачатку XIX ст. завяршыў будаўніцтва ў весцы Суткоў цаглянай сядзібы. Адначасова быў закладзены парк і пладовы сад. Сядзібны дом з чатырохкалоннымі дарычнымі порцікамі на франтальных фасадах стаў цэнтрам усёй кампазіцыі. Яго Г-падобна выгнутыя галерэі-пераходы злучаюць цэнтральную частку двухпавярховага дома з невялікімі, выступаючымі наперад, сіметрычна размешчанымі аднапавярховымі флігелямі. Ён захаваўся да нашага часу і з'яўляецца помнікам архітэктуры позняга класіцызму.

Ва ўкраінскіх гістарычных крыніцах сцвярджаецца, што С. Юдзіцкі меў таксама і сына Станіслава (Юзафа), дочкі якога ў далейшым сталі апошнімі спадчынніцамі маёмасці Юдзіцкіх. Але гэтая версія не пацвяржаецца іншымі даследчыкамі гісторыі роду і беларускімі архіўнымі крыніцамі, якія сведчаць, што лоеўская

109 Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Лоеўскага раёна. Мн., 2000. С.584.

Рэчы Паспалітай. Напрыканцы 1783 г. за 12000 злотых ён адкупіў у Міхала Грабоўскага ранг генерал-лейтэнанта і камандуючага І-ай дывізіі арміі літоўскай, якая на мяжы з Расійскай дзяржавай несла пагранічную службу і стрымлівала сялянскія паўстанні. Адначасова ён з'яўляўся шэфам 4-га палка булавы польнай. Быў актыўным прыхільнікам Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 мая 1791 г. У крытычны перыяд вайны Расіі і Рэчы Паспалітай 1 чэрвеня 1792 г. Юзаф Юдзіцкі быў прызначаны галоўнакамандуючым войскамі ВКЛ. Як галоўнакамандуючы зрабіў спробу спыніць наступленне расійскай арміі. Каб не дапусціць злучэнне расійскіх карпусоў І.Я.Ферзена і Б.П. Меліна, ён 10-11 чэрвеня 1792 г. атакаваў корпус Меліна пад мястэчкам Мір. У гэтай бітве страціў 100 чалавек забітымі, але, маючы толькі 8000 ліцвінскага войска супраць 9600 расіян, і іх значнай перавазе ў артылерыі, адвёў свае галоўныя сілы ў Гародню на злучэнне з каронным войскам, а ўжо 20 чэрвеня 1892 г. быў заменены на пасадзе галоўнакамандуючага Міхалам Забелам.[106]

На пачатку 1790-х гадоў Юзаф Юдзіцкі распачаў будаўніцтва на адлегласці 12 км на поўнач ад Лоева на маляўнічым прыдняпроўскім узвышшы ў вёсцы Суткоў вялікага цаглянага сядзібнага дома. Для гэтага давялося перасяліць частку сялянскіх сямей з Сутковай гары ва ўрочышчы Збынь і Міхалёўка, дзе ўзніклі новыя вёскі Пярэдзелка і Міхалёўка. Пасля таго, як у 1793 г. Лоеўшчына ў выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай апынулася ў складзе Расійскай імперыі, а Лоеў стаў валасным цэнтрам Рэчыцкага павета Чарнігаўскага намесніцтва ( з 1796 г.- Мінскай губерні), Юзаф Юдзіцкі прынес прысягу расійскай імператрыцы Кацярыне ІІ. Вядома таксама, што з 1793 г. ён служыў у расійскім войску, а ў 1797 г. прымаў удзел у ліку 7 прадстаўнікоў дваранства ад Мінскай губерні ў свяце каранацыі Паўла І на расійскі трон.[107] Юзаф Юдзіцкі быў жанаты ў першы раз у 1744 г. на Марыі Агінскай, дачцы віцебскага ваяводы Марцыяна Міхала Агінскага (1672-1750гг.), прадзеда Міхала Клеафаса Агінскага (1765-1833гг.).[108]

106 Анішчанка Я. Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай. // Вялікае Княства Літоўскае. Т.І. Мн., 2005. С.376.

107 Rostworowski E. Judycki Jozef // Polski Slownik Biograficzny. T. XI. S.311-314.

108 Кляшчонак Т. Міхал Клеафас Агінскі і Беларусь.// Беларускі гістарычны часопіс. №2. 2000. С.80.





| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Дзяражычы** Лоеўскі р-н Беларусь | Dziera-szicze (2) | Dera-zicze (2) | Dera-zyce (16) | Dera-życze (1) | Dera-zyce (2) |
| **Рэдзькаўка** Чарнігаўскі р-н Украіна*** | Koszony ? (13) | - | - | - | - |
| **Клікавічы** (не лакалі-зуецца) | - | - | Klikowice (17) | - | - |
| **Навасёлкі** Рэпкінскі р-н Украіна | - | Nowo-siolka (6) | Nowo-siołka (18) | - | Nowo-siółki(6) |
| **Сялец** Брагінскі р-н Беларусь | - | - | Sielce (19) | - | - |
| **Бывалькі** Лоеўскі р-н Беларусь | - | Bywałki (3) | Bywalki (20) | - | Bywalki (3) |
| ***Г.п Лоеў*** Беларусь | Łoiow (10) | **Лоеўскае староства (m. Łojow)** | | | |
| **Пярэдзелка** Лоеўскі р-н Беларусь**** | - | **Izbin (2)** | **Izbin (1)** | **Izbińce (6)** | **Izbina (1)** |
| **Мохаў** Лоеўскі р-н Беларусь | Mochowo (4) | **Mochow (1)** | **Mochow (2)** | **Mochow (10)** | - |
| **Стары Лоеў** (частка суча-снага Лоева) | - | **Łojów stary (8)** | **Stary Łojow (3)** | - | **Łojów stary (7)** |
| **Ісакавічы** Лоеўскі р-н Беларусь | Sakowicze (12) | **Isako-wicze (3)** | **Isakow (4)** | - | **Izako-wiec (2)** |
| **Першамайск** Лоеўскі р-н Беларусь***** | - | **Popowczy (4)** | **Popowe (5)** | **Popowce (8)** | **Popowice (3)** |
| **Абакумы** Лоеўскі р-н Беларусь | - | **Abakumy (5)** | **Abakumy (6)** | - | **Abakuni (4)** |
| **Пазнапалы** Рэпкінскі р-н Украіна | Poznikow-icze (14) | **Pozno-chowicze (6)** | **Poznopaly (7)** | **Pozno-chowicze (5)** | **Pozno-howiec (5)** |
| **Каменка** Рэпкінскі р-н Украіна | - | **Kamiens-kich (7)** | **Kamien-skie (8)** | **Kamień-ska (7)** | **Kamień-sko (6)** |

Заўвагі:

*- нумар азначае чаргу згадвання вёскі ў матэрыялах люстрацый;

**- вёскі Піркі, Крукі і Савічы Брагінскага раёна адселены пасля аварыі на ЧАЭС;

***- пасля перасялення жыхароў в Рэдзькаўка з зоны радыцыйнага забруджвання ў в. Кашоўка, апошняя з 1993 г. атрымала назву Рэдзькаўка;

**** - пасля перасялення ў канцы XYIIIст.у сувязі з будаўніцтвам палаца графам Ю. Юдзіцкім часткі жыхароў в. Суткоў у в. Ізбін, апошняя стала называцца Пярэдзелка;

*****-вёска Папоўка (Паповічы) у 1938 г.атрымала назву Першамайск.

У Любечы налічвалася 166 дымоў, з іх 79 –дымоў мяшчан, 87 – баяр-слуг і зямян. 8 чалавек займалася рамесніцтвам: 3 пушкары, лучнік, сядзельнік, скарняк, коваль і чабатар. Любеч не меў магдэбурскага права, але меў мясцовае самакіраванне на чале з войтам і ратушу. 10 замкавых вёсак Любечскага староства знаходзіліся на правым, 5 – на левым беразе Дняпра, з іх збіраліся падаткі ( па 10 грошаў з вёскі). (Грош складаў 10 пенязяў). Відавочна, што на Правабярэжжы было ўдвая больш замкавых вёсак, 5 з якіх ( Ісакавічы, Мохаў, Дзяражычы, Глушэц, а таксама Лоеў) выконвалі функцыю старажавых пастоў на Дняпры. У той жа час большасць вёсак і зямель у левабярэжжы Дняпра знаходзілася ў валоданні любечскай шляхты на спадчынным і ленным праве.[28]

Пасля Люблінскай уніі, не зважаючы на змену дзяржаўнай юрысдыкцыі рэгіёна, П. Сапега захаваў пасаду кіеўскага кашталяна і любечскага старасты. Як кашталян і стараста ён надаваў значную ўвагу ўмацаванню абароназдольнасці краю. Разумеючы стратэгічную ролю Лоевай гары, як шчыта, што закрываў шлях у межы ВКЛ для ворагаў з паўднёву-усходняга накірунку, любечскі стараста галоўнай сваёй справай лічыў будаўніцтва Лоеўскага замка, якое ён ажыццявіў за ўласныя сродкі. Аб гэым сведчыць яго тастамент ад 1580 г., у якім П.Сапега сцвярджаў, што" властным накладом своим замок и место на Лоевой горе на шляху татарским заложил." Безумоўна, гэта было аднаўленне замка і мястэчка, якія існавалі раней. Апісанне тагачасных умацаванняў Лоева не захавалася. Толькі на карце, створанай у 1578 г. картографам Мацеем Струбічам, пазначана высокая абарончая вежа.[29] Відавочна, што ўмацаванні былі традыцыйныя: абарончыя валы і равы, драўляныя сцены і вежы. Можна канстатаваць, што Лоеўская фартэцыя была пабудавана вельмі своечасова, бо ўжо ў

28 Яблоновский А. Левобережная Украина в XV-XVII стст. Очерк колонизации. // Киевская старина, № LIII. 1896. С.93; Кондратьев Ігор. Любецьке староство (XV-середина XVII ст.) С.197-199.

29 Sapiehowie. Materialy historiczno-genealogicznie i vajqtkowe. T.1. Pb., 1890. S.286.; Buczek K. Dzieje kartografii poskiej od XV do XVII w. Wroclaw- Warszawa- Krakow, 1963. Мара 20.; Беларускі гісторык Міхась Ткачоў памылкова лічыў, што замак на Лоевай гары адбудаваў у канцы XVI ст. канцлер ВКЛ Леў Іванавіч Сапега (1557-1633гг.), які даводзіцца пляменнікам кіеўскаму кашталяну Паўлу Іванавічу Сапегу. (Гл: Ткачоў М. Лоеўскі замак.// Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя. У 2(3) т… Т.2. С.217.)





сялянамі Лоева і вёсак Бывалькі, Дзяражычы, Мохаў, Ісакавічы, Казіміраўка, Казярогі, Карчомка, Каўпень, Крупейкі, Лутава, Сінск, Сутркоў, Сяўкі, Цясны, Шчытцы, Ястрабка (зараз вёскі Лоеўскага раёна), а таксама Берасьнёўка, Малажын, Просмыч, Хракавічы, Чамярысы (зараз вёскі Брагінскага раёна Гомельскай вобласці).

Афіцыйныя дакументы Ю.М.Юдзіцкі звычайна падпісваў тытулам "граф на Лоеве", але жыў пераважна ў дзедзічным маёнтку Дзераўна Навагародскага павета, або ў атрыманым у залог да 1786 г., а затым выкупленным у Радзівілаў памесці Камень, адкуль кіраваў сваімі маёнткамі і справамі старастваў з дапамогай карэспандэнцыі да аканомаў, а таксама перыядычна наведваючы свае вотчыны, прыязжаючы на соймікі. Граф Юдзіцкі ў сваіх вотчынах развіваў мануфактурную вытворчасць, у прыватнасці, паташныя заводы, прадукцыя якіх прадавалася як на ўнутраным рынку, так і на рынках Краляўца (Кёнігсберга). Яго гаспадарка мела значныя даходы не толькі ад вядзення ўласнай вытворчасці, але і ад арэнды гандлёвых радоў на лоеўскіх кірмашах, прывілеі на правядзенне якіх мелі Юдзіцкія.[105]

У 1777-78 гг. Ю. Юдзіцкі выконваў абавязкі маршалка Трыбунала літоўскага і стараннямі яго дзядзькі Яна быў узнагароджаны ордэнам Святога Станіслава. Здавалася, яго чакае яшчэ больш высокая кар'ера, аднак ён заблытаўся ў афёры, калі насуперак волі сваёй сястры Барбары, удавы К. Тызенгаўза, выдаў яе адзіную дачку Соф'ю замуж за яе дзядзьку Антонія Тызенгаўза, каб захаваць за ім спадчыну Тызенгаўзаў. Вынікам гэтай авантуры стала пакрыўджаная сястра і кінутая цень на кар'еру Ю. Юдзіцкага. Хутка сястра Барбара выйшла замуж за жамойцкага кашталяна Антонія Гельгуда, а яе дачка Соф'я была разведзена з А. Тызенгаўзам і выйшла замуж за мсціслаўскага ваяводу Францыска Хамінскага. Але судовая справа аб спадчыне К. Тызенгаўза завяршылася толькі ў 1791 г..

Юзаф Юдзіцкі неаднаразова абіраўся дэпутатам сойма і быў актыўным удзельнікам барацьбы за захаванне незалежнасці

105 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ( далей НГА Б). Ф. 694, воп. 7, спр. 523, арк.37; Козловский П. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XYIII в. Мн., 1974. С.133.

Яго старшы сын, **Антоні Юдзіцкі**, ажаніўся ў 1760 г. з Сафіей Уніхоўскай і меў толькі аднаго сына **Вінцэнція**, які быў жанаты на Элеаноры Казлоўскай. Вядома што Антоній Юдзіцкі валодаў маёнткам Сваротва ў Навагародскім павеце і ў 1765 г. па невядомых прычынах перадаў яго сваёй сястры Барбары, якая тады была замужам за Казімірам Тызенгаўзам.[104] Ёсць звесткі, што адзін з сыноў Вінцэнція Юдзіцкага, **Ян**, служыў настаўнікам у мястэчку Замбруў Ломжынскага ваяводства Царства Польскага і ў 1850 г. атрымаў пацверджанне свайго шляхецтва. Другі яго сын, **Віктар Юдзіцкі,** быў жанаты на Феліцыі Лапацінскай і меў ад гэтага шлюбу дачку Алену і сына **Казіміра,** які стаў доктарам медыцыны. Па звестках КЮ Ян Юдзіцкі меў сына Віктара, які ажаніўся на Мадлене Мрачкоўскай, якая нарадзіла яму сыноў: Віктара, Казіміра Яна і Валенціна, якія і прадоўжылі гэтую галіну роду.

Пасля смерці Міхала Юдзіцкага 5 снежня 1758 г. землі Лоеўскага ключа перайшлі да яго малодшага сына Юзафа (1725 г.- не раней 1797 г.). З маладых гадоў ён выхоўваўся ў атмасферы вернасці свайму роду. **Юзаф Юдзіцкі** спачатку вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Вільні, а затым у 1764 г. працягваў вучобу ў піярскім калегіуме ў Варшаве. У жыцці імкнуўся спалучаць вайсковую і цывільную кар'еры. Значную падтрымку тады яму аказваў дзядзька Ян, які з'яўляўся з 1758 па 1777 г. кашталянам мінскім. У 1767 г. Юзаф быў прызначаны маршалкам канфедэрацыі Лідскага павета, з'яўляўся боханьскім і стрэлічаўскім старастам. Але ўжо ў верасні 1771 г. згадваецца як маршалак Мазырскага павета, а з 1773 г. - рэчыцкім старастам. У часы першага падзелу Рэчы Паспалітай Ю. Юдзіцкі меў чын палкоўніка пяцігорскага і быў актыўным староннікам Тызенгаўзаў. У 1774 г. пры іх падтрымцы стаў абозным вялікім ВКЛ, а з ліпеня 1776 і да 1789 г. з'яўляўся стражнікам войска літоўскага. Ю.М.Юдзіцкі значна пашырыў межы сваіх уладанняў – набыў вёскі Бабічы, Васілевічы, Кабылёва, Лісава, Перадзеліна ў Рэчыцкім павеце. У другой палове XVIII ст. ён набыў у Сапегаў іх лоеўскі маёнтак і землі. Тады Лоеўскі ключ Юдзіцкіх стаў вялізным па памерах уладаннем. Дастаткова сказаць, што ў яго ўваходзіла большасць зямель і лясоў Лоеўшчыны з прыгоннымі

104 Федорук А. Старинные усадьбы Берестейщины. Мн., 2004. С.341-342.





1581 г. яе сцены выпрабавалі на трываласць белгарадскія татары, якія рухаліся праз Лоеўскую браму ў Вялікае княства Літоўскае.[30]

"Татарскі брод" патрабаваў пастаяннай пільнай увагі і варта яго была ўскладзена на ваяроў і жыхароў мясцовага замка, для якога гэтая служба без дадатковай падтрымкі была непасільнай. У сувязі з гэтым, стараннямі П.Сапегі ўтрыманне замкавай абароны на Лоевай гары было пакладзена на плечы і жыхароў суседняй Рэчыцкай воласці. Як сведчыць тэкст Уставы г. Рэчыцы, які выдалі каралеўскія рэвізоры Рыгор Валовіч і Мікалай Нарушэвіч, падчас "померы і установления платов" у 1561 г. у абявязак рэчыцкіх улад уваходзіла выстаўляць старажавы пост у Лоевай гары "для небеспечности от неприятеля земского… и на тую сторожу складатися повинны яко мещане , так и волощане десять коп грошей". (Капа - грашовая адзінка, роўная 60 грошам.) Цікава, што рэчыцкія мяшчане ў 1596 г. самі звярталіся непасрэдна да караля і вялікага князя Жыгімонта III Вазы з просьбай аб пацверджанні Уставы 1561 г., па якой яны павінны былі несці "сторожу " ў Лоеве " от поганцов татар для беспеченства там тыхъ краев руских панства нашого Великого князства Литовского". За ўтрыманне старожы рэчычане вызваляліся ад выплаты мытных падаткаў на "ваявод, старост и державец" і прыватных асоб (шляхты і духавенства), і нават ад мыт на тавары, якія перавозіліся рэчкай або па сушы. Не сплачвалі яны падаткі і падчас правядзення двух рэчыцкіх кірмашоў. У 1603 г. рэчыцкія мяшчане зноў звярталіся да Жыгімонта III з просьбай аб пацверджанні Уставы 1561 г.[31]

З часам частка павіннасцяў на ўтрыманне замка лягла і на плечы лоеўскага мяшчанства, бо яго колькасць паступова ўзрастала. Калі ў 1571 г. у Лоеве налічвалася толькі 3 мяшчанскіх дымы, то ў 1579 г. – ужо 20. Вядома таксама, што ў 1609 г. у Лоеве асела група сялян – уцекачоў ад маскоўскага баярына Сцяпана Ложка.[32]

30 Лепявка С. Українське козацтво у міжнародних відносинах (1561-1591). Чернігів, 1999. С.124.
31 Акты, относящиеся к истории Западной России, собраные и изданные Археографической комиссией. В 5 т.: Т. 4. 1588-1632. СПб., 1851. С. 128.; Кондратьев Ігор. Любецьке староство (XV-середина XVII ст.). С.117.
32 Jablonowski A.Polska XYI wieky pod wzyledem Geograficzno-statystycznym // Tom IX. Ziemie Ruskie. Ukraina (Kijow-Braclaw)Dlas I-szy / Zrodla dziejowe. Warszawa. 1894. T.XXII. S. 521.; У тэксце: Stepfan Lozka Jurowice (Bobinski W. Wojewodztwo kijowskie w czasach Zygmunta III Wazy:stadium osadnictwa i stosunkow wlasnosci ziemskej. Warszawa, 2000.S.229.

Ёсць звесткі, што з ініцыятывы Паўла Сапегі 3 жніўня 1576 г. Стэфан Баторы выдаў прывілей на лакацыю Лоева і наданню яму магдэбурскага права. Гэта значыла, што паселішча пераводзілася на нямецкае права, рэарганізоўвалася сістэма мясцовага кіравання, пры якім гарадской адміністрацыі надавалася права прымаць унутраныя адміністрацыйныя, судовыя і эканамічныя рашэнні. Верагодна, у рэчышчы новага статуса паселішча, каралеўскім прывілеям ад 25 лістапада 1582 г. пасаду войта ў Лоевай гарэ (фактычна мястэчка складалася з двух частак –Лоевай гары і пасада-Лоева) атрымаў Фёдар Васільевіч Вовк. Да гэтага ён быў зямянінам Мінскага павета і паручэнцам берасцейскага ваяводы Гаўрылы Гарнастая. Месцячковы войт непасрэдна падпарадкоўваўся старасту і меў поўную юрысдыкцыю над мяшчанствам. Галоўным яго абавязкам было збіранне падаткаў. Ён вырашаў таксама зямельныя, маёмасныя і прававыя праблемы мяшчанства. У абавязкі войта ўваходзілі не толькі фіскальныя, але і паліцэйскія функцыі. З часам ( не пазней1587 г.) Ф.Воўк стаў войтам Кіева.[33] Але зараз ёсць падставы меркаваць, што рашэнне аб пераходзе Лоева на магдэбургскае права не было да канца рэалізавана і аб яго наданні Лоеву пасля смерці Паўла Сапегі хутка забыліся.

Пасля смерці П.Сапегі ў 1580 г.Любецкім старастам стаў Андрэй Іванавіч Вішнявецкі, прадстаўнік уплывовага княжацкага роду Карыбут-Вішнявецкіх, які выводзіў свой радавод ад Карыбута, сына вялікага князя Альгерда. А. Вішнявецкі займаў пасады старасты браслаўскага (1572-1576 гг.) і луцкага (з 1580г.) кашталяна валынскага (1568-1572 гг.) і валынскага ваяводы (1576-1583 гг.). Дакументы Валынскай (Рускай) метрыкі, як часткі Кароннай метрыкі, абсалютна дакладна сведчаць, што каралеўскі прывілей аб наданні пасады ў Любечы А.Вішнявецкі атрымаў 16 лістапада 1580 г., а ў наступны дзень было падпісана пісьмо караля "до всех обивателей староства Любецкого…аби мели князя Андрея Вишневецкого за правдивого старосту Любецкого."

Па звестках жа беларускага гісторыка В.Пашкевіча, пасля

33 ЦДІАК України. КМФ-36.Оп.1.Спр. 261, Волинська метрика. Книга РМ (1576-1586, 1588 рр.). Арк. 260зв.-261.; Пашкевіч У. Да пытання аб уладальніках Лоеўскай зямлі ў XVI -XVIII ст. // Гісторыя Лоевской землі Факты.Каментарыі… С.58.; Кондратьев Ігор. Любецьке староство (XV-середина XVII ст.) С.119.





гг.) паручнік войска ВКЛ з 1688 г., рэчыцкі войскі, затым харужы з 1690 г., падкаморы з 1699 г. , а пасля смерці бацькі ў 1701 г. - маршалак рэчыцкі. Ён распачаў сваю грамадскую дзейнасць у літоўскім войску і служыў пад камандаваннем Сапегаў, шматгадовым прыхільнікам якіх быў. Абіраўся дэпутатам соймаў Рэчы Паспалітай ад Рэчыцкага або Мазырскага павета ў 1690, 1695, 1718, 1720, 1722, 1729 гг., удзельнічаў у канвакацыйным 1696 г. сойме. Летам-восенню 1690 г. быў віленскім гараднічым. Акрамя Лоеўскага ключа, ён быў уладальнікам маёнткаў Асмолавічы, Бохань, Кулікоўка, Юдзічы, Ямнае ў Рэчыцкім павеце, а таксама Моўчадзь у Слонімскім, і Сваротва ў Навагародскім павеце. Антоні па адных звестках быў жанаты на Марыяне Ухлікоўскай па іншых на княгіні Вішнявецкай і меў двух сыноў – Міхала (Дзмітрыя) і Яна – і дачку Крысціну, якая выйшла замуж за трабскага старасту Стэфана Франскевіча-Радзімінскага.[102]

Пасля смерці Антонія Юдзіцкага ў 1729 г. Лоеўскі ключ перайшоў да яго старшага сына **Міхала (Дзмітрыя) Юдзіцкага** (1700-5.12. 1758 гг.), які быў рэчыцкім харужым з 1715 па 1729 г., маршалкам рэчыцкім з 1729 г. , маршалкам Трыбунала літоўскага ў 1740 г., кашталянам мінскім з 21мая 1742 г. Ён абіраўся на соймы ў 1718, 1722, 1724, 1726, 1729 гг.. У палітычным жыцці Рэчы Паспалітай разам з братам быў прыхільнікам партыі Чартарыйскіх. Яго брат, **Ян Юдзіцкі** (каля 1705-1780 гг.), стаў апошнім рэчыцкім харужым у 1729 годзе, з 1755 г. займаў пасаду вялікага пісара ВКЛ, таксама неаднаразова станавіўся сенатарам, быў узнагароджаны ордэнам Белага Арла. У 1753 г. з'яўляўся фундатарам манастырскага брацтва Святой Ганны ў Мінску. Ён быў жанаты на Элеаноры Рудоміна-Дусяцкай, але памёр бяздзетным ў 1780 годзе.

Міхал Юдзіцкі меў двух сыноў, Антонія і Юзафа, а таксама пяць дачок: Мар'яну, якая выйшла замуж за князя Крыштафа Дамініка Пузыну, Ганну, якая стала манашкай, Барбару, якая спачатку выйшла замуж за Казіміра Тызенгаўза, а пасля яго смерці – за Антонія Гельгуда, Элеанору і Тэафілу, якая выйшла замуж за Эразма Радавіцкага.[103]

102 Gierowski J. Judycki Antoni // Polski Slownik Biograficzny. T. XI. S.309-310
103 Wereszycka H. Judycki Michal // Polski Slownik Biograficzny. T. XI. S.314.

г. рэчыцкім пісарам, (па звестках КЮ меў жонку з рода Копцаў?) меў сына Міхала і памёр у 1713 г. Міхал Пятровіч Юдзіцкі з 1738 г. займаў пасаду рэчыцкага пісара, потым земскага суддзі. Ён быў у першым шлюбе з Тэрэзай Броель-Плятэр і ад якога нарадзіўся сын Тадэвуш. У другім шлюбе быў з Рахель Галінскай і меў з ёю чатырох сыноў: Юзэфа, Іахіма, Марціна і Мацвея.

Пра старшага сына Міхала, **Тадэвуш Юдзіцкі** вядома толькі, што ён быў у 1758 г. дэпутатам Трыбунала ВКЛ ад Рэчыцкага павета.

Старшы сын ад другога шлюба, рэчыцкі суддзя **Юзаф Юдзіцкі,** быў прыхільнікам партыі Чартарыйскіх, потым стаў падтрымліваць Караля Радзівіла. Вёў узброеную барацьбу супраць Міхала Чартарыйскага, які звярнуўся за падтрымкай да расійскіх войск. Юзаф быў арыштаваны рускімі войскамі ў Журавічах і растраляны ў Рагачове.

Яшчэ адзін сын Міхала, **Іахім Юдзіцкі,** жыў з братамі ў Журавічах. Абіраўся ў 1762 г. дэпутатам Трыбунала ВКЛ. З'яўляўся прыхільнікам партыі Чартарыйскіх, затым – Радзівілаў. Быў удзельнікам шматліх палітычных і маёмасных канфліктаў у ВКЛ. Вядома, што ён у 1754 г. разам з братамі сілай захапіў Рагачоў, але пасля паражэння партыі Радзівілаў у 1758 г. правёў два гады ў вязніцы. Пасля ўтварэння Радомскай канфедэрацыі быў прызначаны падстарастам Рэчыцкага павета. У 1769 г. прызначаўся загаранскім старастам. Летам 1771 г. канфліктаваў з Халецкімі, разам з братам **Марцінам** узначальваў мясцовую канфедэрацыю, якая падтрымала войска Барскай канфедэрацыі польнага гетмана Шымона Касакоўскага. Пад Мозырам правёў паспяховы бой супраць расійскіх войск, пасля вярнуўся ў Рэчыцкі павет, дзе аднавіў канфедэрацыю і падтрымаў выступленне вялікага гетмана ВКЛ Міхала Казіміра Агінскага. Пасля паражэння М.Агінскага ў верасні 1771 г. ў Сталавіцкай бітве адыйшоў ад актыўнага палітычнага жыцця і ў 1778 г. служыў паручнікам ковенскай гусарскай брыгады.[101]

Пасля смерці С.М.Юдзіцкага ў 1701 г. Лоеўскае памесце атрымаў у спадчыну яго старшы сын **Антоні Юдзіцкі** (каля 1670-1729

101 Rostworowski E. Judycki Joachim // Polski Slownik Biograficzny. T. XI. S.310-311.





смерці П.Сапегі Любечскае стараста перайшло да яго ўдавы – Ганны Хадкевіч. У 1581 г. яна нават атрымала на Любеч прывілей Стэфана Баторыя.

Украінскі гісторык І.Кандрацьеў мяркуе, што гэтыя супярэчлівыя звесткі, атрыманымі з розных пісьмовых крыніц, сведчаць, што паміж А.Вішнявецкім і Г.Хадкевіч вялася вострая барацьба за Любечскае стараства. Магчыма, менавіта гэты канфлікт абумовіў паяву каралеўскага пісьма "до всех обивататей староства Любецкого." Толькі калі ў 1585 г. Г.Хадкевіч выйшла ў другі раз замуж за мсціслаўскага ваяводу Паўла Паца, яна канчаткова страціла свае права на Любечскае стараства.[34]

У 1584 г. Любецкае стараства " по смерти вельможного князя Андрея Вишневецкого" было перадана яго стрыечнаму брату, кіеўскаму кашталяну Міхайлу Аляксандравічу Вішнявецкаму. Але ўжо 11 лютага 1585 г., пасля смерці князя Міхайлы, любецкім і лоеўскім старастам быў прызначаны "до живота" яго сын Аляксандр Міхайлавіч Вішнявецкі.

Князь А Вішнявецкі ў розныя часы займаў пасады старасты канеўскага, корсунскага, чаркаскага, кіеўскага кашталяна, быў старшым казацкага рэестру 1578-1581 гг. Ён стаў першым, хто адначасова ўзначальваў і Любечскае, і новае "Лоегорскае" стараствы. Такім чынам, у 1585 г., 430 гадоў назад, з Любецкага было выдзелена Лоеўскае стараства, хаця, як правіла, любечскія стараста і падстараства займалі адначасова такія ж пасады і ў Лоеве. Новае стараства размяшчалася выключна ў межах Лоеўскай воласці. З 1578 па 1594 гг. любецкім і лоеўскім наместнікам-падстарастам быў Васіль Стружыцкі. Вядома, што пасля смерці свайго родзіча ( па звестках І.Кандрацьева- старэйшага брата- М.А.) Фёдара Вішнявецкага, Аляксандр Вішнявецкі далучыў да сваіх асабістых уладанняў Брагін. Наогул жа, роду Вішнявецкіх у тыя часы толькі на Кіеўшчыне належала 70 паселішчаў, у якіх налічвалася 11245 дымоў.[35]

34 Білоус Н. Київ наприкінці XV – у першій половині XVII ст. Міська влада і самоврядування. Київ., 2008. С.105.; Bełous, N. Wprowadzanie prawa magdeburskiego w miastach województwa Kijowskiego pod koniec XV – w pierwszej połowie XVII w. // Krzysztofory. – Krakow: Muzeum Historyczne miasta Krakowa, 2009. T. 26. S. 131-142.
35 ЦДІАК України. КМФ-36,Оп.1.Спр.197, Волинська метрика. Книга РМ 8 (1583-1585, 1588-

А. Вішнявецкі займаў старасцінскія пасады да сваёй смерці ў 1594 г. Затым прывілеем Жыгімонта III Вазы датаваным 10 ліпеня 1594 г. Любецкае і Лоеўскае стараста " зо всими их пожитками и доходами" атрымаў за заслугі перад Каронаю Война Хацімерскі Старасцінскі ўрад В. Хацімерскі займаў да 1611 г. Вядома, што яго падстарастам з 1603 г. быў Томаш Цэброўскі.

У часы стараставання В.Хацімерскага каралеўскія рэвізоры ў 1606 г. ўдакладнілі інвентары Любечскага і Лоеўскага замкаў. У гэты час у Любечы налічвалася 2 царквы, 300 будынкаў, у тым ліку ў замку – 28 будынкаў мяшчанскіх, 60 – шляхецкіх, баярскіх, папоўскіх, а таксама замковых слуг. На пасадзе жылі мяшчане (202 будынкі) і баяры (8 будынкаў).

Да замка непасрэдна належалі 15 вёсак (31служба). У мястэчку пражывала 1800 чалавек, з іх 570 чалавек шляхецкага стану. У Лоеве тады налічвалася 186 будынкаў, трэцяя частка іх належала баярам, а замку належалі 8 вёсак (12 службаў). [36]

У гэты перыяд канчаткова афармляецца сістэма землеўладання і рассялення насельніцтва, так як большасць населеных пунктаў рэгіёна ўтварылася да канца XVI ст. Вядома, што 2 жніўня 1578 г. каралеўскі універсал на валоданне вёскамі Савічы і Хракавічы атрымаў баярын Станіслаў Клапоцкі. У 1590 г. А.Вішнявецкі перадаў Заастроўскія землі каля в.Асарэвічы зямяніну Лукашу Мануйлавічу Балатовічу. Яго дачка Рэгіна выйшла замуж за Арэфа Зарэцкага, да якога і перайшлі гэтыя землі. У гэтыя ж часы прывілей на вёску Малажын атрымаў Поцій Сурынаў. У 1595 г. каралеўскі прывілей з зацверджаннем шляхетства і ўладанняў "уступлених" кіеўскім кашталянам А. Вішнявецкім - вёску Каўпынічы (Каўпень) каля урочышча Салёныя ямы, сенажаці над Дняпром кала в. Калодчычы і Пушкароўскі "плац" ў Лоеве – атрымаў лоеўскі шляхціч Рыгор Сіліч. Каралеўскі "дэкрэт" аб захаванні праў на "служби" каля вёсак Ёлча і Бярозкі атрымаў 7 кастрычніка 1596

---

1593, 1595-1598,1600-1603 рр.). Арк. 4-5.; Зимницька С.П. Родові володіння Вишневецьких на територіі Волині, Браславщини і Киівщини в рецепціі украінських і польских істориків.// Гуманітарнйй журнал. 2005. № 1-2.С.130.

36 АЮЗР. Ч. VIII. T.V. Киев, 1907. С. 266-267.; Jablonowski A.Polska XVI wieky pod wzyledem Geograficzno-statystycznym // Tom IX. Ziemie Ruskie. Ukraina (Kijow-Braclaw)Dlas III / Zrodla dziejowe… TXXII. S. 521.





вяшчаў усе лоеўскія ўладанні свайму стрыечнаму брату лоўчаму ВКЛ Міхаілу Антонію Сапегу. Той у 1740 г. дамовіўся з нашчадкамі Крыштафа Паца наконт Лоеўскага маёнтка. За 40 тыс. злотых Пацы адмовіліся ад сваіх правоў на гэты маёнтак і вярнулі М.А. Сапегу ўсе даўгавыя абавязацельствы яго дзядзькі Е.С.Сапегі. У далейшым М.А. Сапега таксама вымушаны быў здаваць Лоеўскі маёнтак у арэнду, каб паправіць маёмасныя справы сваёй сям'і. Яго арандатарамі паслядоўна былі ашмянскі ротмістр Францішак Антоні Ракіцкі, Гжымка Косаўскі з Даманава і кімбараўскі кляштар цыстэрыянак, які размяшчаўся ў Мазыры.[99]

**Графы на Лоеве**

Вядома, што С.М. Юдзіцкі ў цэнтры замчышча на Лоевай гары адбудаваў драўляны сядзібны дом. У 1677 г. ён атрымаў ад сойма яшчэ і вёску Плёсавічы ў Рагачоўскім старастве. Тады ж, як соймавы камісар, устанавіў дакладныя межы Лоеўскага старастава.
Валадар Лоеўскага ключа быў жанаты на Соф'і, дачцы полацкага ваяводы і берасцейскага старасты Яна Караля Копца (?–1681г.) ( па звестках КЮ на Соф'і Сапега-Карчуўскай?) і меў з ёю дачку Юсціну, якая выйшла замуж за старадубскага падкаморыя Міхала Лявона Солтана (па звестках КЮ за Гераніма Уладзіслава Солтана?) і чатырох сыноў.[100] Вядома, што другі сын Станіслава Міхала, Казімір Юдзіцкі (1674-1713гг.?), займаў пасаду рэчыцкага падкаморыя, быў жанаты на Ганне з невядомага нам роду, з якой меў дзве дачкі: Соф'ю і Фларыяну. Ёсць звесткі, што ён заснаваў вёску Казімірава ў Рэчыцкім павеце, дзе стварыў мужчынскі кляштар. Вядома таксама, што Казімір Юдзіцкі заснаваў у Журавічах рэзідэнцыю ордэна канонікаў рэгулярных латэранскіх. Памёр ён у 1713 г.. Трэці сын Станіслава Міхала, Ян Юдзіцкі, звязаў свой лёс з каталіцкай царквой і быў у 1713 г. смаленскім канонікам і ражанскім пробашчам. Пра малодшага сына Станіслава Міхала, Пятра Юдзіцкага, таксама вядома няшмат. Быў ён з 1711

99 Пашкевіч У. Да пытання аб уладальніках Лоева ў XYI-XYIII ст. // Гісторыя Лоеўскай зямлі. Факты. Каментарыі. Гомель 2006. С.59-60.

100 Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. Wojewodstwa minskie, mscislawskie, polockie, witebskie. T. 1. Wroclaw, 1991. S. 156

камандаваннем І.Хаванскага і прычыніўся да іх разгрома сіламі П. Сапегі і С.Чарнецкага. У гэтых вайсковых змаганнях быў паранены ў твар. У 1661 г. сойм Рэчы Паспалітай пастанавіў кампенсаваць яму выдаткі на вайну (21400 злотых), вызваліў яго дзедзічныя маёнткі Гальдовічы і Дзянісаўшчына ў Новагародскім ваяводстве на 30 гадоў ад падаткаў і перадаў ва ўласнасць вёску Каменку (верагодна ў Рэчыцкім павеце). У 1676 г. сойм за асабістыя заслугі перад дзяржавай выдзеліў С.М.Юдзіцкаму ў спадчыннае ўладанне Лоеўскі ключ разам з Верхнім (Старым) Лоевам. [98]

Раней у беларускай гістарыяграфіі лічылася, што С.М. Юдзіцкі атрымаў у валоданне ўсё Лоеўскае староства. Але апошнія даследаванні беларускіх гісторыкаў польскіх крыніц дазволілі высветліць, што ў 1677 г. паўночную частку Лоеўскага староства разам з Ніжнім Лоевам атрымаў па рашэнні сойма маршалак ВКЛ князь Аляксандр Гілярый Палубінскі, род якога меў уласны герб. Тады на паўночнай ускраіне Лоева А. Палубінскі пабудаваў невялікі драўляны палац.Пасля смерці ў 1679 г. А.Палубінскага яго лоеўскія ўладанні адышлі ў якасці спадчыны дачцэ Ізабеле, якая ў 1686 г. выйшла замуж за стольніка ВКЛ Ежы Станіслава Сапегу. сына вялікага гетмана літоўскага Казіміра Яна Сапегі. З гэтага часу і на працягу 25 гадоў Е.С. Сапега валодаў маёнткам. Ён першым пачаў карыстацца тытулам "граф на Лоеве". Пастаянны недахоп сродкаў вымушаў Е.С.Сапегу здаваць у арэнду лоеўскі маёнтак. Напрыклад, у 1696 г. ён здаў яго на ўтрыманне на 4 гады віцебскаму падстолію Юзафу Глябіцкаму, атрымаўшы ад апошняга 54 тыс. злотых. У наступныя гады арандатарам маёнтка Сапегаў згадваецца трокскі стольнік Лявон Богуш. У 1711 г. сын Е.С.Сапегі – Антоні Казімір, які быў тады мерацкім старастам, адсудзіў у бацькі Лоеўскі маёнтак сваёй маці – Ізабелы з Палубінскіх. Прычынай гэтаму было дрэннае кіраванне маёнткам бацькам, у выніку чаго ўзніклі вялікія даўгі. Але ўжо ў 1712 г. А. К. Сапега вымушаны быў сам здаць маёнтак у арэнду сваёй сястры Тэрэзе і яе мужу пісару ВКЛ Крыштафу Пацу. У 1739 г. Антоні Казімір Сапега (кашталян трокскі з 1937 г.), які не меў сваіх дзяцей, за-

98 Мицик Ю. Юдицькі – провідний шляхетський рід Речицького краю XYII-середини XIX ст.// Мицик Ю.Albaruthenica. Студії з історії Білорусі. Київ.2009. С.245.





г. баярын Войцех Сасніцкі.У 1603 г. зямельныя ўладанні атрымалі баяры Гутары, якім належала частка брагінскай вёскі Лісцвен, а баярын Апанас Дземітровіч атрымаў ад старасты В.Хацімерскага "службы" на ленным праве ў вёсках Лежычы і Хракавічы.[37]

## У крывавае стагоддзе

Такім чынам можна канстатаваць, што калі ў другой палове XVI ст. з ініцыятывы кіеўскага кашталяна і любецкага старасты Паўла Сапегі быў адбудаваны Лоеўскі замак, паселішчу Лоева Гара (Лоеў) нададзена магдэбурскае права, а пазней утворана Лоеўскае староства, тады адкрыліся перспектывы для развіцця Лоева ў больш значны рэгіянальны цэнтр краіны. Але гэтыя магчымасці не былі выкарыстаны па прычыне войн і разбурэнняў XVII ст.

У 1612 г. пасады любечскага і лоеўскага старасты атрымаў уладальнік герба "Корчак" Мікола Струсь з Камарова (1570-1627 гг.) , які быў яшчэ старастам галіцкім, снятынскім і хмяльніцкім Вядома, што Мікола Струсь быў удзельнікам вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскім царствам ( 1609-1618 гг.), у якой кіраваў палком. Удзельнічаў у 1609-1610 гг. у паходзе польска-літвінскіх войскаў на Маскву, прызначаўся камендантам Маскоўскага крамля зімой 1612 г., але быў узяты ў палон апалчэнцамі Д. Пажарскага, у якім прабыў сем гадоў.

Падчас гэтай вайны ў 1612 г. быў захоплены і спалены Любеч, а затым у 1613 г. маскоўскае войска спаліла Лоеў і паграбавала яго жыхароў. У гэты час функцыі старасты выконваў падстараста. За яго кіраваннем у 1616 г. быў зноў адбудаваны Любечскі замак, але ўжо вясной і летам 1617 г. новае маскоўска-татарскае войска ўварвалася ў межы Любечскага і Лоеўскага старастваў, дзе папаліла пасады і вёскі, забіла многіх людзей і ўзяла палонных.

Толькі 15 лютага 1619 г. , па Дэулінскаму замірэнню, М.Струсь быў вызвалены з палону, але не надоўга, бо падчас вайны з тата-

37 ЦДІАК України. КМФ-36, Оп.1.Спр. 201, Волинська метрика. Книга РМ 13 (1595-1598 рр.). Арк. 105-106; Там само. -Спр. 200, Волинська метрика. Книга РМ 11 (1588-1589,1591-1599 рр.). Арк. 134-134зв.

рамі зноў патрапіў у двухгадовую няволю. Урэшці-рэшт ён быў выкуплены соймам Рэчы Паспалітай з турэцкага палону за 40 тысяч талераў. Ёсць звесткі, што ў 1622-1628 гг любецкім і лоеўскім падстарастам быў Андрэй Злачэўскі. [38]

Падчас стараставання М. Струся былі праведзены дзве люстрацыі Любечскага і Лоеўскага старастваў у 1615-1616 гг. і 1622 г. Па інвентару 1615-1616 гг ў Любечы налічвалася 276 мяшчансціх дымоў, у Лоеве – 229 дымы. Матэрыялы люстрацыі налічваюць 17 замкавых вёсак Любечскага староства і 8 – Лоеўскага: Стары Лоеў, Мохаў, Ізбін, Ісакавічы, Папоўка, Абакумы, Пазнапалы і Каменка. Як бачна, першыя чатыры з іх знаходзіліся на Правабярэжжы, астатнія –на левым беразе Дняпра. Гэтая рэвізія утрымлівае найбольш рэальную інфармацыю аб зямельных уласніках у старастве. У 1616 г. было апісана 37 шляхецкіх зямельных уладанняў, якімі валодаў 51 род дробнай шляхты ( у тым ліку і на правах сумеснай уласнасці). 30 землеўладальнікаў атрымалі землі па каралеўскіх прывілеях, 7 – атрымалі ад стараст або падстараст. 22 шляхцічы валодалі землямі па спадчынным праве, усе іншыя землі выкарыстоўваліся шляхтай на ленным праве.

Люстрацыя 1622 г. налічыла 20 “замкових” населеных пунктаў у Любецкам старастве (з іх 5 –на левым беразе Дняпра, 15 – на правым), Лоеўскае староства складалася з тых жа, што і пры папярэдняй люстрацыі, 8 замкавых вёсак. У 1622 г.Любецкае і Лоеўскае старастве давалі 2924 злотых гадавога прыбытку.[39]

На працягу 1629-1633 гг. старастам любечскім і лоеўскім быў кіеўскі стольнік Станіслаў Рэй з Наглавіч, род якога валодаў гербам “Окша”. Яго падстарастам у Любечы і Лоеве быў Павел Друцкі. Менавіта падчас старастванне С. Рэя адбывалася чарговая люстрацыя любечскіх і лоеўскіх уладанняў. У 1628 г. ў Любечы налічвалася 286 дымоў ( з іх 40 “убогих”, 2 святароў), у Лоеве – 114 ( з іх 10 “убогих”, 1 дым належаў святару). У Любечы рамесніцтвам займаліся каваль, слесар, па два шаўцы і кушняры, у Лоеве – шавец, кушнер і рыбак. Падчас правядзення рэвізіі люстратары

38 Bobinski W. Wojewodztwo kijowskie w czasach Zygmunta III Wazy … S.229-231,579.
39 Jablonowski A. Lustracye Krolewszczyzn ziem Ruskich: Wolynia, Podola i Ukrainy z pierwszej polowy XVII wieku./ Zrodla dziejowe. T.Y. Warszawa.,1877. S.639.




Аб заснавальніку роду Юдзіцкіх у ВКЛ – Дэметру Юдзіцкім (1475- ?), які быў жанаты на Маргарыце Гагенцолерн і меў двух сыноў Базыля і Яна, нядаўна з’явіліся звесткі ў Інтэрнэце, змешчаныя так называемай Канцылярыяй Юдзіцкіх (далей КЮ). Калі гэтыя звесткі дакладныя, то ёсць падставы сцвярджаць, што ён у канцы XV ст. ўжо валодаў землямі на Навагародчыне. Аб Яне Юдзіцкім ( 1530-?) вядома толькі, што той меў сына Матэуша 1570 года нараджэння.

Каралеўскі дваранін Базыль Юдзіцкі (каля 1520 – канец XVI ст.) у 1551 г. атрымаў за вайсковыя заслугі ў барацьбе з крымскімі татарамі ад караля і вялікага князя Жыгімонта Аўгуста маёнткі Балотня, Журавічы і Свержань у Рэчыцкім павеце. Ён ажаніўся са шляхцянкаю Брудаўскай і меў з ёю сыноў – Аляксандра, Мікалая і Піліпа.

Старшы сын Васіля Дзмітрыевіча, Аляксандр Юдзіцкі (1551-?), быў рэчыцкім падсудкам, а з 1589 г. паборцам, за актыўны ўдзел у Лівонскай вайне атрымаў ад Стэфана Баторыя новыя падараванні ў Рэчыцкім павеце, у якіх заклаў маёнткі Юдзічы і Крыўка. Ён быў жанаты на шляхцянцы Качынскай. Яны выхавалі 13 сыноў.[96] Усяго аднаго сына, Станіслава Міхала, меў Адам, адзін з 13-ці сыноў Аляксандра Васільевіча Юдзіцкага, але ён стаў заснавальнікам, напэўна, самай знакамітай галіны гэтага роду, прадстаўнікі якой карысталіся тытулам “графы на Лоеве”.

Сам **Адам Юдзіцкі** (1585- пасля 1629г.) вядомы на пачатку 1617 г. як вількамірскі староста, у 1627-29 гг. - капітан пяхоты ў польска-шведскай вайне, камандуючы артылерыяй у бітве пад Бродніцай у 1628 г. Ён быў жанаты на Ганне Камаеўскай.[97]

Яго сын, **Станіслаў Міхал Юдзіцкі** (пасля 1630- 1701г.), паслядоўна быў з 22 лютага 1656 г. рэчыцкім войскім, затым з 1669 г – харужым, з 1688 г.– падкаморым, а з 1699 г. рэчыцкім маршалкам. Як харужы, браў удзел у элекцыі караля Яна III Сабескага, а як падкаморы – Аўгуста II. У 1659-61 гг. вызначыўся як камендант гарнізона Ляхавіцкага замка ў час яго аблогі рускімі войскамі пад

96 Мицик Ю. Юдицькі – провідний шляхетськїй рід Речицького краю XYII-середини XIX ст.// Мицик Ю.Albaruthenica. Студії з історії Білорусі. Київ.2009. С.243.
97 Там само. С.244

ць на гарызантальна пакладзенай на карону страле, звернутую направа, і трымае ў дзюбе кальцо. (*Іл-я 19. Радавы герб Юдзіцкіх «Радван»*)

Што датычыць паходжання прозвішча Юдзіцкіх, то найбольш верагодна, яно паходзіць ад назвы польскага паселішча Юдзікі, размешчанага ў раёне Олеска на паўднёвы ўсход ад Кракава, якім яны валодалі. На працягу новага часу ў гісторыі род Юдзіцкіх займеў шлюбныя сувязі з многімі знакамітымі магнацкімі родамі ВКЛ і Кароны: Агінскімі, Дусяцкімі, Гельгудамі, КахаНоўскімі, Копцямі, Лукомскімі, Нарушэвічамі, Пузынамі, Радзівіламі, Рагозамі, Сакалінскімі, Сапегамі, Солтанамі, Тызенгаўзамі, Тышкевічамі, Халецкімі, Эсьманамі і іншымі. Такім чынам, Юдзіцкія займелі шматлікіх і ўплывовых родзічаў у Рэчы Паспалітай і нават за яе межамі.

У гістарычных дакументах згадваюцца зямельныя ўладанні Юдзіцкіх Гальдовічы, Дзераўня, Дзянісаўшчына на Навагародчыне, якімі яны валодалі, верагодна, яшчэ ў пачатку XVI ст., бо тыя называюцца дзедзічнымі. З цягам часу Юдзіцкія атрымалі або набылі новыя землі ва Упіцкім, Росенскім і Панеўскім паветах Жамойціі (сучасная Літва), а таксама ў Віленскім, Мінскім, Ашмянскім, Полацкім і Слонімскім паветах ВКЛ.[95]

Асабліва хутка род Юдзіцкіх пачаў узмацняцца з сярэдзіны XVI ст., калі яго першыя прадстаўнікі атрымалі зямельныя ўладанні і дзяржаўныя пасады ў паўднёва-усходняй Беларусі. З цягам часу гэты род стаў самым заможным і ўплывовым у Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства і разам з родам Халецкіх займаў тут дамінуючае становішча на працягу XVII-XVIII стст. Юдзіцкія, захаваўшы свае дзедзічныя ўладанні на Навагародчыне, займалі галоўныя пасады (урады) ў Рэчыцкім павеце, пастаянна бралі ўдзел у паседжаннях мясцовых соймікаў, якія звычайна дэлегавалі іх сваімі прадстаўнікамі на соймы ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Неабходна адзначыць, што Рэчыцкі павет у тыя часы ўключаў у сябе землі не толькі цяперашняга Рэчыцкага раёна, але і значную частку тэрыторыі сучаснай Гомельскай вобласці разам з Гомелем.

95 Мицик Ю. Юдицькі – провідний шляхетськй рід Речицького краю XYII-середини XIX ст.// Мицик Ю.Albaruthenica. Студії з історії Білорусі. Київ.2009. С.241.





зазначылі, што Лоева гара мела на ўзбраенні адну гармату і 4 гакаўніцы. Лоеўскія мяшчане сплачвалі чынш, а карчма ў мястэчку і млыны знаходзіліся ў арэндзе за 600 злотых. Падымны тарыф Кіеўскага ваяводства 1628-1629 гг. згадвае толькі 11 замкавых вёсак, з іх 6 належыць да Любеча і 5 –да Лоева: Пазнапалы, Ізбін, Каменка, Папоўка, Мохаў. Агульны даход з двух старастваў павялічыўся да 4100 злотых у год[40]

У першай трэці XVI ст.працягвалася практыка надання каралём новых зямельных уладанняў служылай шляхце і пацверджання ўжо існуючых.. Ёсць звесткі, што вёску Асейкі (Сяўкі) 29 сакавіка 1615 г.набыў шляхціч Разсудзеўскі, а ў 1636 г. гэтай вёскай валодала Ядзьвіга Сулімірская (Разсудзеўская). Уладальнікам зямель каля в.Дзяражычы быў Кіева-Пячэрскі манастыр. У 1615 г. в. Каўпынічы (Каўпень) валодалі муж і жонка Рыгор і Таміла Сілічы, але вядома, што 8 сакавіка 1633 г. лоеўскі стараста А.Калiноўскі забраў Каўпынічы ў Сілічаў у асабістую ўласнасць. Баяры Чамярысы ў 1616 г. прывілеям караля Жыгімонта III Вазы атрымалі ў валоданне Мохаўшчыну. У 1634 г. Мохаўшчынай супольна валодалі шляхцічы Казанскія-Чамярысы і Янічэнкі, але ўжо ў 1636 г. Мохаў і навакольныя землі быў ва ўласнасці толькі Казанскіх-Чамярысаў.[41]

З 1633 г. урады Любецкага і Лоеўскага старастваў перайшлі да магнацкага рода Каліноўскіх герба "Калінова", які быў адным з самых заможных і ўплывовых у Рэчы Паспалітай. Польскія гісторыкі ставяць Каліноўскіх у адзін рад з буйнейшымі польскімі магнатамі Вішнявецкімі, Канецпольскімі і Патоцкімі. Першым прадстаўніком гэтага роду, атрымаўшым старасты ў Любечы і Лоеве, быў Адам Каліноўскі (1602-1638 гг.), удзельнік Хоцінскай бітвы 1621 г., які з 1623-1638 гг. быў таксама старастам вінніцкім і браслаўскім. Яго стараставанне доўжылася да 1638 г. У гэты час пасаду падстарасты ўтрымліваў Ян Кучкоўскі.

Права збіраць падаткі з Любеча і Лоева кароль зацвердзіў за А.Каліноўскім толькі 30 студзеня 1635 г. У той жа дзень той пера-

40 Bobinski W. Wojewodztwo kijowskie w czasach Zygmunta III Wazy… S.579.; Мицик Ю. Малознана люстрація українських зямель 1628-1634 рр.// Киевская сторина. №1. 2010. С.122.
41 Кондратьев Ігор. Любецьке староство (XV-середина XVII ст.)Чернігів. 2014. С.308, 312, 321, 324.

даў права на збор падаткаў у Любечскім старастве сваёй жонцы Хрысціне Струсь, дачцы былога старасты Міколы Струся з Камарова.

У 1636 г. была праведзена чарговая люстрацыя Любечскага і Лоеўскага староствў. У Любечскім старастве налічвалася 17 замкавых вёсак, у Лоеўскім – 7 вёсак. Тады Лоеву непасрэдна належалі тыя ж вёскі, што і пры папярэдніх люстрацыях 1615-1616гг. і 1622 г., за выключэннем вёскі Мохаў, якая ў гэты час стала прыватнаўласніцкай.[42]

Люстрацыі Лоеўскага старαства ў сукупнасці з іншымі гістарычнымі крыніцамі дазваляюць сёння вызначыць межы Лоеўскай воласці да сярэдзіны XVII стагоддзя. Звернем увагу, што ў інвентарах дзве украінскія вёскі на левабярэжжы Дняпра Каменка і Пазнапалы аднесены да замкавых вёсах Лоеўскага староства. Менавіта на ўсход ад Пазнапалаў пачыналася ўсходняя мяжа Лоеўскай воласці з Гомельскай зямлёй-воласцю. Гэтую частку мяжы лакалізаваў, даследуючы Любечскія рэестры 1523-1527 гг. і абапіраючыся на шырокае кола гістарычных крыніц, беларускі гісторык В. Цёмушаў, які вызначыў, што яшчэ ў пачатку XVI ст.мяжа Гомельскай і Лоеўскай воласцяў за Пазнапаламі праходзіла па р. Сухі Вір да Дняпра і вусця Сажа. А далей лоеўска-гомельская мяжа ( у Цёмушава В. “любечска-гомельская мяжа” –М. А.) ішла паралельна Сажу, пакідаючы прырэчныя землі Лоеву, на поўночны ўсход па яго прытоках Нямыльню і Церуху да “любечскай” вёскі Ярыловічы (зараз в. Старыя Ярылавічы Рэпкінскага р-на Украіны) і далей да ракі Вуць. Па Вуці мяжа вяла ў Сож, далей спускалася ўздоўж Сажа ўніз на правабярэжжы да Сакалінага гнязда і тут прамавала на захад “поперекъ три мили”( прыкладна 22-25 км) да Серабронскага езу на Дняпры. В. Цёмушаў не лакалізаваў на карце ўрочышчы Сакалінае гняздо і Серабронскі ез, але меркаваў, што лоеўска-гомельская мяжа выходзіла на правабярэжжы Дняпра аж да сучаснай вёскі Калочын Рэчыцкага раёна.[43]

42 ЦДІАК України. КМФ-36,Оп.1.Спр. 214, Волинська метрика. Книга РМ 26 (1633-1635, 1643,1645,1647 рр.). Арк. 33зв-34.; Там само. Арк. 95-95зв.
43 Темушев В. Н. Гомельская земля в конце XV – первой половине XVI в… С.84-85.





Паводле радавога падання, Юдзіцкія выводзілі сваю радзінную традыцыю з Германіі, дзе іх далёкія продкі валодалі адметным гербам “Вальдорф”, на белым полі шчыта ў цэнтральнай частцы тры чорныя паласы, а над імі зверху страла, астрыём уверх. Назва герба, верагодна, паходзіць ад замка Вальдорф, пабудаванага каля берагоў Рэйна.[93] У сваім пошуку каранёў роду Юдзіцкіх прафесар Міцык Ю.А. спасылаецца на польскага храніста XYII ст. Шымона Акольскага, які выводзіць гэты род з Польшчы, з роду герба “Корвін”.[94] Калі ж улічваць тыя абставіны, што многія знакамітыя роды ў ВКЛ імкнуліся вывесці сваю радавую лінію ад “гедымінава калена”, а Княства ад пачатку ўтварэння варагавала з нямецкімі рыцарамі-крыжакамі, але Юдзіцкія ўсё ж настойліва прытрымліваліся сваіх нямецкіх каранёў, то ёсць усе падставы меркаваць, што германская версія паходжання гэтага роду мае пад сабой рэальную аснову. Продкі Юдзіцкіх, напэўна, спачатку паступілі на службу пры двары караля Польскай Кароны і вялікага князя ВКЛ і ад яго займелі землі спачатку ў Польшчы, а затым і на Навагародчыне.

Да таго ж, неабходна адзначыць, што Юдзіцкія, асеўшы ў ВКЛ, выкарыстоўвалі спецыфічна адметны герб "Радван". На традыцыйным гербе “Радван” на чырвоным полі шчыта адлюстравана залатая царкоўная трохкутная харугва, апушчаная палатном уніз, а на ёй залаты кавалерскі крыж, а таксама клейнот – над прылбіцай карона з 5 страўсінымі пер'ямі. Такі герб выкарыстоўвалі больш за 150 шляхецкіх родаў, у тым ліку, Дастаеўскія, Глінскія, Кавалеўскія, Крачынскія, Ляшчынскія, Паскевічы, Станіслаўскія, Юзэфовічы і іншыя. “Радван” Юдзіцкіх меў пэўныя адрозненні – не меў крыжа і страусіных пер'яў. На чырвоным полі шчыта герба змяшчалася страла, павернутая вастрыём уверх і раздвоеная ўнізе, а на яе фоне – двухкутная харугва, апушчаная палатном уніз, клейнот меў прылбіцу з каронай, а паверх яе – варону, якая стаі-

93 Красноў М. Юдзіцкія. // Вялікае Княства Літоўскае. Энцыклапедыя ў 2-х т-ах. Т2. Мн. 2006. С.770.; Вальдорф - замак у прырэйнскай зоне Германіі, па радавой легендзе прарадзіма роду Юдзіцкіх (зараз, верагонда, горад Walldorf размешчаны ў зямлі Бадэн-Вюртэмберг, адміністрацыйнай акрузе Карлсруэ, раёне Рэйн-Нэккар ).
94 Мицик Ю. Юдицькі – провідний шляхетській рід Речицького краю XYII-середини XIX ст.// Мицик Ю.Albaruthenica. Студії з історії Білорусі. Київ.2009. С.241.

## Юдзіцкія – валадары Лоеўскага ключа

### Ад вытокаў роду

Кожны больш менш значны шляхецкі род у Вялікім Княстве Літоўскім меў адметны радавод і радавую легенду свайго паходжання. Не з'яўляецца выключэннем і знакаміты шляхецкі род Юдзіцкіх, які на працягу XVI - XVIII стст. валодаў шматлікімі зямельнымі ўладаннямі ў ВКЛ, у лік якіх уваходзілі і землі Лоеўскага ключа. (Ключ-адміністрацыйна-гаспадарчы комплекс з некалькіх вёсак з фальваркамі ці без іх у XVI-XVIII стст. у Рэчы Паспалітай. Часам ключ называлі староствам. У адміністрацыйна - гаспадарчых адносінах ключ быў падобны і да войтаўства.) Юдзіцкія практычна ніколі не займалі вядучае становішча ў Княстве, але сярод іх было нямала дзяржаўных, рэлігійных і культурных дзеячаў, якія пакінулі свой адметны след у гісторыі. Да таго ж, Юдзіцкія аказвалі значны ўплыў на палітычныя стасункі ў дзяржаве, бо яго прадстаўнікі на працягу XVI - XVIII стст. уваходзілі ў склад першых кліентаў магнацкіх радоў Радзівілаў, Сапегаў, Тызенгаўзаў, Чартарыйскіх, Агінскіх, якія ў розныя часы вялі барацьбу за сваё верхавенства ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Звесткі пра гэты ўплывовы род можна сустрэць у знакамітых гербоўніках і радаводах XVI - XIX стст., а таксама ў польскіх, украінскіх і беларускіх энцыклапедычных выданнях XX ст..[92] У гістарыяграфіі гісторыя роду Юдзіцкіх пэўным чынам адлюстравана ў працах польскіх навукоўцаў Афтаназы Р., Васілеўскага Т., Верашыцька Г., Героўскага Ю., Раствароўскага Е., Цэхановіча Я., беларускага даследчыка Краснова М. і іншых. Найбольш грунтоўна гісторыя гэтага роду даследавана вядомым украінскім гісторыкам, прафесарам Кіева-Магілянскай акадэміі Юрыем Міцыкам, але пакуль што не створана абагульняючай працы па гісторыі роду Юдзіцкіх. Да таго ж, у працах розных даследчыкаў існуе шмат супярэчлівых звестак.

92 Poprocki B. Herbarz rycerstwa polskiego. T.4.Warszawa.1578; Niesiecki K. Herbarz polski. T.4. Lipsk. 1839; Boniecki A. Poczer rodow w Wielkim Ksiestwe Litewskim w XY i XYI wieku. Warszawa. 1887.





Матэрыялы інвентароў Лоеўскага і Любечскага староства першай паловы XVII ст. дазваляюць зрабіць выснову, што за прайшоўшы час мяжа паміж Гомельскай і Лоеўскай валасцямі калі і змянілася, то не вельмі значна. Ва ўсякім разе інвентары сведчаць, што ў беларускім міжрэччы Сажа і Дняпра мяжа знаходзілася на паўночным усходзе ад замкавай вёскі Абакумы і на поўнач ад вёскі Папоўка (зараз Першамайск Лоеўскага р-на). Недзе на поўнач ад лоеўскай замкавай вёскі Ісакавічы, каля мястэчка Холмеч, праходзіла ўжо мяжа Лоеўшчыны з Рэчыцкай валасцю. Напэўна, яна была паміж вёскамі Чаплін (Лоеўскі р-н) і Завужаль (Рэчыцкі р-н), дзе, як вядома, пасля Люблінскай уніі ўсталявалася ўнутраная мяжа ВКЛ з Польскай Каронай. Дарэчы, на гэтым месцы зараз праходзіць і сучасная мяжа Лоеўскага і Рэчыцкага раёнаў, што можа сведчыць або аб традыцыі, або аб выкарыстанні пры раянаванні меж пасля скасавання у жніўні 1927 г.Холмечскага раёна карт канца XVI – пачатку XVII ст.

Ад Дняпра мяжа вяла на паўднёвы захад да вытокаў рэчкі Пясачанкі і меж Брагінскай валасці. Гэтую мяжу дапамагае вызначыць апісанне меж Брагінскай валасці, складзенае дзякам Іванам Кніцічавым па загаду караля і вялікага князя Жыгімонта II Аўгуста ў сярэдзіне XVI ст. З апісання вынікае, што паўднёвая мяжа Брагінскай валасці праходзіла ад вусця ракі Брагінкі, па Дняпры "…до села брагинского Галэк", паўночная – па рацэ Пясчанка, заходняя - "Хвойничак (Хойнікі), Дроньки, Кожушки … брагинское село Листвин".[44]

Дакумент дазваляе канстатаваць, што заходняя мяжа Лоеўскай валасці праходзіла па Пясачанцы, але нам вядома, што ў ніжнім яе цячэнні размяшчаліся землі і вёскі Любечскай валасці. Такім чынам, можна сцвярджаць, што ў сярэднім цячэнні Пясачанкі мяжа выходзіла да Любечскай валасці і павярнуўшы на ўсход, ішла паралельна Дняпра, пакідаючы прыдняпроўскія землі і вёскі Глушэц, Дзяражычы і Бывалькі ў складзе Любечскай валасці. Паміж вёскамі Шчытцы і Бывалькі мяжа выходзіла праз Дняпро на левабярэжжа, дзе, абмінаючы з поўдня ўкраінскія вёскі Камен-

44 Дзяржаўны гістарычны архіў у г.Гродна. Ф.1308. Воп.1. Арк.1049-1050. ; Памяць.Гісторыка-дакументальная хроніка Брагінскага раёна. Мн., 2003. С.38.

ка і Пазнапалы, скіроўвалася да Сухога Віра.

Гістарычныя крыніцы сёння дазваляюць вызначыць некаторыя дэмаграфічныя звесткі з гісторыі рэгіёна: колькасць населеных пунктаў і насельніцтва, яго склад. Па разліках А.Ябланоўскага, у першай палове XVII ст. агульная колькасць насельніцтва Любецкага і Лоеўскага старастваў складала 9340 чалавек. Па яго звестках колькасць гаспадарскіх і шляхецкіх уладанняў была прыкладна аднолькавай- адпаведна 47% (40) і 52% (45 вёсак).

Аднак вядома, што навуковец у сваіх даследаваннях выкарыстоўваў не ўсе неабходныя для гэтага гістарычныя крыніцы. Не можна цалкам пагадзіцца і з ацэнкай колькасці шляхецкіх вёсак Любецкага і Лоеўскага старастваў, польскага гісторыка В Бабінскага. За падлікамі даследчыка, зробленых толькі на аснове каралеўскіх люстрацый, плошча старастваў складала 3350 кв.км ( любецкага- 1960, лоеўскага-1390 кв.км). У 1622 г. у абодвух стараствах налічвалася 37 вёсак- шляхетскіх валоданняў. Адпаведна адна вёска прыпадала на 53 кв.км.

За больш дакладнымі падлікамі І. Кандрацьева, у 1571 г. пры плошчы Любецкага староства 4576 кв.км (Любечская воласць і паўночна-ўсходняя частка Брагінскай воласці -3960 кв.км, Лоеўская воласць - 616 кв.км.) і наяўнасці 76 населеных пунктаў ( мястэчка Любеч,15 замкавых вёсак і 60 шляхецкіх асад), 1 вёска прыходзілася на 60 кв.км.

Ва ўмовах адсутнасці ў рэгіёне буйных магнацкіх латыфундый, агульная колькасць паселішчаў у межах старастваў да сярэдзіны XVII ст. вырасла да 150 ( з іх на Лоеўшчыне да 30 – М.А.), пры шчыльнасці 1 вёска на 30 кв.км. (Даследчык лічыць вёску універсальнай катэгорыяй, пад якую падпадаюць усе паселішчы рэгіёна – ад хутароў да буйных вёсак – М.А.). Колькасць дымоў складала каля 2250 (з разліку 15 дымоў на адну вёску), адпаведна, агульная колькасць насельніцтва (разам з Любечам і Лоевам) складала 14100 чалавек.[45]

Пасля смерці Адама Каліноўскага любечскім і лоеўскім стара-

45 Jablonowski A.Polska XVI wieky pod wzyledem Geograficzno-statystycznym // Tom IX. Ziemie Ruskie. Ukraina (Kijow-Braclaw)Dlas I-szy / Zrodla dziejowe… T.XXII. S. 508-509; Bobinski W. Wojewodztwo kijowskie w czasach Zygmunta III Wazy … S.227, 230-231.; Кондратьев Ігор. Любецьке староство (XV-середина XVII ст.)Чернігів. 2014. С.308,




пра.[88] (*Іл-я 18. Копія малюнка А. ван Вестэрфельда. Лоеўскі прарыў 6 ліпеня 1651г. ( Знаходзіцца ў Музеі войска польскага ў Варшаве (ін.№ 16614 А),папера, аловак: 20,2х33см*)

Аб прарыве Радзівіла цераз Дняпро Нябаба даведаўся ў Чарнігаве і адразу кінуўся выпраўляць становішча. Апоўдні каля украінскага мястэчка Рэпкі аддзел у 15 тысяч коннікаў Нябабы сходу атакаваў харугвы стражніка Мірскага, але патрапіў пад флангавую атаку асноўных сіл Радзівіла і пацярпеў поўнае паражэнне. Амаль уся казацкая старшына і некалькі тысяч казакаў былі забіты, многія патрапілі ў палон. Сам Нябаба быў паранены ў руку, а затым засечаны. Пераможцам дасталіся каля 20 баявых казацкіх сцягоў. Толькі рэшткі казацкага войска разам з палкоўнікамі Падабайлам, Літвіненкам і Шумейкам змаглі адступіць да Чарнігава.[89]

Пахаваўшы забітых, войска гетмана рушыла ўздоўж Дняпра і заняло Любеч, а праз некалькі дзён зноў перапраўілася на правы бераг Дняпра і каля Чарнобыля разграміла 6-тысячны загон палкоўніка Філона Гаркушы,[90] што зняла пагрозу флангавага ўдару па ліцвінскаму войску. Шлях на Кіеў Радзівілу быў адкрыты.

Лоеўскім прарывам распачаўся завяршальны этап казацка-сялянскай вайны 1648-1651 гг. на Беларусі, галоўным зместам якога стаў удзел войск ВКЛ у падаўленні казацкага паўстання на Украіне. 4 жніўня 1651 г. войска гетмана польнага ВКЛ Януша Радзівіла ўвайшло ў пакінуты паўстанцамі Кіеў. У гонар яго перамог у вайсковай кампаніі лета 1651 г. быў адчаканены памятны медаль,[91] прыдворным мастаком гетмана галандцам А.ван Вэстэрфэльдам намалявана некалькі батальных сцэн.

88 Drescik Jan Jakub. Kampanie wojsk Wielkiego ksiestwa Litewskiego przeciw powstaniu Chmielnickiego w rysunkach Abrahama van Westervelt. S.406
89 Wisner Henrvk. Dzialalnosc wojskowa Janusza Radziwilla. 1648-1654. S.86.
90 Летопись Самовидца по новооткрытым спискам, изданным Киевской временной комиссией для разбора древних актов. Киев, 1878.С.27.
91 Slownik geograficzny. T.5. Warszawa, 1884. S.686.

ВКЛ Януш Радзівіл 29 чэрвеня 1651 г. зноў выправіўся з Рэчыцы са сваім войскам у 12 800 чалавек і рушыў уздоўж Дняпра да Лоеўскай Брамы, як тады называлі пераправу цераз Дняпро каля Лоева.[85] Па Дняпры пяхота за байдакамі сплаўляла гуляй-гарадкі, за якія можна было схавацца ад непрыяцельскага агню падчас уласнай абароны і штурма гарадоў. Пераправы ад Лоева да Бабіч па Дняпры і Прыпяці трымалі казацкія аддзелы на чале з чарнігаўскім палкоўнікам Мартынам Нябабай і іх саюзнікі – крымскія татары – агульнай колькасцю каля 50 тысяч чалавек.[86] (*Іл-я 17. Чарнігаўскі палкоўнік Мартын Нябаба. Малюнак з пражскага каралеўскага архіва. Ін. № DB V 68.*)

Пад Лоевам Януш Радзівіл сустрэўся з пасламі Хмяльніцкага. Сцяпан Падабайла перадаў гетману ліст ад Хмяльніцкага, у якім казацкі правадыр прапаноўваў не весці на Украіну войска, а ён загадае казакам пакінуць тэрыторыю ВКЛ. Радзівіл жа чакаў, чым закончыцца бітва казакаў з палякамі пад Берасцечкам. Калі ж справа павярнулася на карысць кароннага польскага войска, ён адказаў паслам, што Літва з Польшчай складаюць Рэч Паспалітую і павінны адна з адной мець дачыненне, але абяцаў не парушаць межы Украіны і на вачах паслоў накіраваў для абароны Смаленска аддзел у 2500 казакаў на чале са стражнікам Грэгарам Мірскім. Паслы паведамілі Нябабе, што Радзівіл падзяліў сваё войска і не плануе паход на Кіеў. Гэта заспакоіла чарнігаўскага палкоўніка і казацкую старшыну. Як сведчаць тагачасныя мемуары, на радасцях, што ўдалося дамовіцца з князем, моцна загулялі казакі. Ахоўваць пераправу насупраць Лоева засталіся толькі Чарнігаўскі і Нежынскі казацкія палкі ў складзе 3000 чалавек.[87]

Аддзел Мірскага каля Гомеля патаемна пераправіўся цераз Сож і выйшаў у тыл казакам да сутокі Сожа і Дняпра. У выніку раптоўны нападу на досвітку 6 ліпеня 1651 г. і паўтарагадзіннай бітвы пераправа была вызвалена ад непрыяцеля. Радзівіл хутка пераправіў сваё войска цераз Татарскі брод на левы бераг Дня-

85 Чаропка Вітаўт. Уладары вялікага Княства. Мн., 1996. С.486-487.
86 Грыцкевіч А. Каля Лоеўскіх пераправаў. Лоеўская бітва 1651 г. // Памяць: Гіст.-дакументальная хроніка Лоеўскага раёна. Мн., 2000. С.40
87 Энцыклапедыя гісторыі Беларусі.Т.5. Мн., 1999. С.339.




стам у 1638-1648 гг. стаў яго брат Марцін Каліноўскі (1605-1652 гг.). Яго намеснікам у абодвух стараствах быў К.Кацюшынскі. На працягу свайго жыцця М.Каліноўскі займаў важныя пасады: камянецкага падкаморыя (1628-1633 гг.), чарнігаўскага старасты (1633-1648гг.), чарнігаўскага ваяводы (1635-1652гг.), старасты вінніцкага (1633-1643гг.) і браслаўскага (1638-1643гг.), польнага кароннага гетмана (1646-1651гг.), вялікага кароннага гетмана з 1651г. Доўгі час (1635-1652 гг.) быў сенатарам Рэчы Паспалітай. Ёсць меркаванне, што яго кар'еры шмат паспрыяў сват – каронны канцлер Е.Асалінскі.

Падчас стараставання М.Каліноўскага Любечскае і Лоеўскае старасты здаваліся з 3 чэрвеня 1643 г. па 1646 г. у арэнду за 24 тысячы злотых кіеўскаму падстолію Максіміліяну Бжазтоўскаму. Тады 1 красавіка 1644 г. у Лоеве быў створаны мытны пункт для збора мытных падаткаў на імпарт тавара ў ВКЛ. Гэтымі абставінамі паспрабаваў скарыстацца арандатар М. Бжастоўскі ад чаго цярпелі казна, лоеўскія мяшчане і гандляры. 17 ліпеня 1654 г. мытніцай былі затрыманы кіеўскія і лоеўскія гандляры, якія рухаліся Днепром з таварам – 117 байдакоў з пшаніцай, жытам, пшаном, соллю і інш. Гандлярам прапанавалі сплаціць мыта. Але ўжо праз тры дні М. Бжастоўскі(верагодна атрымаўшы хабар) загадаў лоеўскаму падстарасту К. Кацюшынскаму выпусціць усіх купцоў без выплаты мыта, што прывяло да страт дзяржаўнай казны на суму 8 тыс. злотых. У сувязі з гэтым мытнік каралеўскіх мытніц Ян Задзікевіч вымушаны быў звяртацца са скаргаю ў суд, каб павярнуць мыта ў казну. Да таго ж, у маі 1646 г. Я. Задзікевічу скардзіліся лоеўскія мяшчане Сцяпан Галабаяранка і Ціхан Вайцяшэнка, якія сцвярджалі, што сплочанае імі мыта было прыўласнена М. Бжастоўскім і К.Кацюшынскім. Магчыма, гэтыя абставіны і паслужылі прычынай адмовы М.Бжастоўскаму ў далейшай арэндзе старастваў.[46]

Вядома, што ў 1646 г. на галоўным сойме Рэчы Паспалітай Любечскае і Лоеўскае старасты былі далучаны да Старадубскага

46 Кулаковський П. Земські урядники Чернігово-Сіверщини у 1621-1648 роках. Київ., 2006. С.188; Воссоединение Украины с Россией:Документы и материалыв трёх томах.-Т.1.1620-1647 гг. –М,1953. С.407-409.

павета Смаленскага ваяводства ВКЛ за вернуты Расіі Трубчэўск. Гэтае кампраміснае рашэнне абавязвала збіраць падаткі –паборы, чапавое і падымнае – у скарбонку ВКЛ, а кварту – у казну Кароны. Любецкая і лоеўская шляхта была прыпісана да Кароны, але у выпадку варожай пагрозы ВКЛ далучалася да ліцвінскага войска. Вядома, што ў 1646 г. Лоеўскае староства (верагодна, разам з Любецкім) павінны былі выставіць у войска 600 воінаў узброеных "па казацкі", з разліку па аднаму коннаму воіну ад 3-4 службаў.[47] (Службы – розныя па плошчы і складу зямельныя ўчасткі, якімі звычайна валодалі дзве-тры сялянскія гаспадаркі (дымы).

Ёсць звесткі, што на працягу 1648-1649 гг. пасаду любецкага і лоеўскага старасты займаў сын Марціна Каліноўскага Самуэль-Юрый, які быў таксама браслаўскім (1643-1652 гг.) і чарнігаўскім старастам (1648-1652гг.), каронным абозным ( з 1649 г.). Менавіта С.Ю. Каліноўскі быў адружаны з дачкой кароннага канцлера Е. Асалінскага.[48] Падчас яго старастtowania пачалася вялікая вайна, якую ў беларускай гістарыяграфіі прынята называць антыфеадальнай казацка-сялянскай вайной (1648-1651 гг.), да развязвання якой прычыніліся і магнаты Каліноўскія. Падчас гэтай вайны шляхецкія войскі і казацка-сялянскія атрады не аднойчы крывавым каткам праходзілі па Лоеўскай і Любечскай зямлі, пакідаючы пасля сябе шматлікія людскія ахвяры. Па сутнасці, грамадства тады падзялілася на два непрымірымых варагуючыя лагеры: тых, хто падтрымліваў ідэю стварэння новай казацкай дзяржавы, якая зарадзілася на Украіне і прыхільнікаў захавання Рэчы Паспалітай. Двойчы – у 1649 г. і ў 1651 г –
рэгіён апынуўся ў самым эпіцэнтры гэтай вайны на Беларусі, калі тут адбыліся дзве вядомыя ў гісторыі Лоеўскія бітвы, перамога ў якіх дапамагла захаваць цэласнасць княства. Абставіны і ход Лоеўскіх бітваў 31 ліпреня 1649 г. і 6 ліпеня 1551 г. падрабязна раскрыты ў асобным артыкуле аўтара.[49]

47 Кулаковський П. Земські урядники Чернігово-Сіверщини у 1621-1648 роках… С.115,119-120.; Галубовіч В. Спрэчкі пра далучэнне Лоева да Вялікага Княства Літоўскага на сойме 1646 г. // Міжнародныя доўнарскія чытанні (г.Рэчыца, 14-15 лістапада 2005 г.).Ч.2. Рэчыцкая зямля ў часе і прасторы./ Рэдкал.В.М.Лебедзева (адк.рэд.) {і інш.}-Гомель.2008.С.44.

48 Кулаковський П. Чернігово-Сіверщина у складі Речі Посполитої (1621-1648 рр). С.156-157, 421.

49 Анісавец М.І. Лоеўская бітва.// Беларускі гістарычны часопіс. №7. 2006. С.3-11




за ўсё не ад ран, а ад роспачы.[82]

Так закончылася Лоеўская бітва. Радзівіл прыказаў сабраць з усіх месцаў бітвы і звезці загінуўшых і выкапаць магілы. Накідалі 16 вялізных магіл. Толькі ў першыя два дні пасля бітвы ў чатырох магілах было пахавана 2,7 тыс загінуўшых. Крычэўскага пахавалі ў асобнай высокай магіле па старому казацкаму звычаю. Магіла наказнога казацкага гетмана пад Лоевам.[83] ( Існуе мясцовае паданне, што пахаванне загінуўшых адбылося на заходней ускраіне Троіцкіх могілак у Лоеве.)

Такім чынам Вялікае княства Літоўскае было выратавана ад чарговага крывавага бунту. Але на Кіеў, як таго патрабаваў кароль, Радзівіл не рушыў.У пісьме да караля пісаў, што толькі шляхты пад Лоевам загінула 1,7 тысячы чалавек, былі выстраляны ўсё боепрыпасы, а пораху засталася ўсяго тры дзежкі.[84]

Асцерагаючыся новага казацкага ўдара, 6 жніўня гетман адвёў свае войска пад абарону сцен Рэчыцкага замка. Казацка-сялянская вайна на памежжы ВКЛ з Украінай уступіла ў новую фазу і набыла пазіцыйны і лакальны характар.

Лоеўская бітва значна павялічыла аўтарытэт Януша Радзівіла і мела розгалас у Еўропе. На сойме, які адбыўся ў канцы 1649 года ў Варшаве, гетман з гонарам кінуў пад ногі караля Рэчы Паспалітай Яна Казіміра 50 казацкіх харугваў, узятых пад Лоевам. У гонар яго перамогі пад Лоевам былі намаляваны батальныя сцэны, па якіх у XVIII стагоддзі на радзівілаўскіх мануфактурах у Карэлічах была выраблена серыя габеленаў. (*Іл-я 16. Габелен. "Палон Міхайлы Крычэўскага" выраблены радзівілаўскай мануфактурай каля 1760г.: 330x349 см. Знаходзіцца ў Кракаўскім музеі*)

**Лоеўскі прарыў 6 ліпеня 1651 года**

Абвясціўшы паспалітае рушанне і добра падрыхтаваўшыся да пахода на Украіну для барацьбы з паўстанцамі, гетман польны

82 Kotlubaj E. Op.cit. S.419.

83 Степанков В. Станіслав-Михайло Кричевський. С.56.

84 Wisner Henrvk. Dzialalnosc wojskowa Janusza Radziwilla. 1648-1654.S.77.




*Іл-я 15. Схема Лоеўскай бітвы 4. Завяршэнне бітвы.*

параненага казацкага правадыра, прызначыў яму лекара.

Тры дні ляжаў Крычэўскі ў гарачцы, глуха стагнаў і трызніў, хапаўся за галаву, што раз паўтараючы: ” Якое ліха – 30 тысяч войска страціць!”. Калі ж, час ад часу, прыходзіў у прытомнасць, грузіў ліцвінам новым паходам казацкага войска ў 30 тысяч казакаў і 15 тысяч татараў. Стан яго, нягледзячы на намаганні лекара, увесь час пагаршаўся. Перад смерцю, калі напэўна сам Радзівіл са здзеўкай спытаў яго: “Перад папом ці ксянзом спавядацца будзеш?” – казацкі палкаводзец адказаў, – “Трэба тут 40 папоў. Дайце лепш вядро сцюдзёнай вады”.[80] Памёр Міхайла Станіслаў Крычэўскі 3 жніўня на руках пленного казацкага старшыны, пісара Оўруцкага палка Івана Неўмерыцкага.[81] Тагачасныя мемуарысты сцвярджаюць, што памёр наказны гетман казацкі хутчэй

80 Липинський В. Участь шляхти у великому українському повстанні під проводом гетьмана Богдана Хмельницького. Т.2. С.427.

81 Степанков В. Станіслав-Михайло Кричевський. С.56.








*Іл-я 5а. Схема Лоеўскай бітвы 31 ліпеня 1649 г.*

Шмат гадоў мінула з часоў ліхалецця казацка-сялянскай вайны, якая на Лоеўшчыне вылілася ў вялікія людскія ахвяры і разбурэнні. Напамінкам аб гэтай вайне і яе ахвярах сёння служаць тапанімічныя назвы ўрочышчаў “Ляхава гара”, “Казацкі пясок”, “Разгром” і памятныя знакі, усталяваныя краязнаўцамі каля Татарскага брода, на стане войска ВКЛ польнага гетмана Я. Радзівіла і на Гладкім полі, дзе 31 ліпеня 1649 г пачыналася Лоеўская бітва.

З падзеямі казацка-сялянскай вайны на Беларусі 1648-1651 гг. звязана і з’яўленне першых вядомых графічных і малюначных адлюстраваннеў Лоева і замка. Аб умацаваннях Лоева гэтага часу пэўныя звесткі дае гравюра Крыштафа Эйгірда “План бітвы каля Лоева. 31 ліпеня 1649 г.”. Замак дугападобнай формы (радыусам да 125 м) размяшчаўся на Лоевай гары на правым беразе Дняпра. З усходу замак абараняў Дняпро і яго высокі і

абрывісты бераг (вышынёй каля 20 м), з поўдня і захаду- глыбокі яр, утвораны невялікай рачулкай Лоеўкай, што ўпадала ў Дняпро каля падножжа ўзвышша, з поўначы быў пракапаны роў глыбінёй больш 2 м і шырынёй каля 8 м. З гравюры відаць, што замак быў акружаны горадам, таксама ўмацаваны дугападобным валам і ровам, якія ўпіраліся ў бераг Дняпра.




*Іл-я 6. Фрагмент гравюры К.Эйгірда“ План Лоеўскай бітвы 31 ліпеня 1649 г.” Умацаванні Лоева і замка: 1 – замак, 2 – пасад.*

Значна пашырае звесткі пра Лоеў і яго замак малюнак галандскага мастака А. ван Вестэрфельта “Лоеў. 1651г.”. Абрахам ван Вестэрфельт быў прыдворным мастаком польнага гетмана ВКЛ Януша Радзівіла ў1650-1653 гг. і знаходзіўся ў яго вайсковым абозе падчас казацка-сялянскай вайны 1648-1651 гг.

На малюнку Лоеў адлюстраваны з паўднёвага боку. Па перыметру мястэчка было ўмацавана палам - абарончай сцяной у выглядзе вертыкальна закапаных ў зямлю адзін каля аднаго невысокіх драўляных слупоў, што складаў першы перад замкам рубеж абароны. З поўдня, захаду і поўначы Лоеў меў вежы з уяз-





Больш чым дзве гадзіны на склоне гарачага ліпеньскага дня ліцвінскае войска штурмавала казацкі табар (літара N). Не сумняваючыся ў блізкай перамозе, Радзівіл кінуў у апошні бой не толькі артылерыю, пяхоту, драгунаў і рэйтараў, але і спешаныя казацкія і гусарскія харугвы і нават усіх пахолкаў і чэлядзь.[75] Тройчы літвіны ішлі на вырашальны штурм, але кожны раз іх сустракаў адчайны адпор і прымушаў адступіць. Ноч супыніла гэтую крывавую сечу. Значныя страты панесла войска ВКЛ, загінулі або былі паранены лепшыя афіцэры Радзівіла: Больт, Віхман, Катоўскі, Камароўскі, Пшыпкоўскі, Рап, Тызенгауз, Хадаркоўскі, Юшкевіч і іншыя.[76] Асцерагаючыся начной вылазкі казацкіх загонаў, князь адвёў сваё войска ў стан, асвятліўшы мясцовасць шматлікімі вогнішчамі (літара Е).

Не пра бой думалі і паўстанцы. Вялікія страты панесла ўсё казацка-сялянскае войска. Загінула больш за 10 тысяч казакаў і прымкнуўшых да іх сялян. Сам наказны гетман Міхайла Крычэўскі змагаўся ў шэрагах абаронцаў табара як просты воін і быў цяжка паранены. Адна куля трапіла яму пад правае вока і выйшла ў шыю, другая патрапіла ў бок ніжэй сэрца. Няўдачы аднялі ў паўстанцаў мужнасць і сілы. Казакі пад пакровам начной цемры кінуліся ратавацца за Дняпро і адступілі з палкоўнікам Яўстафам Печкам на Чарнігаў і Кіеў.[77]

На досвітку 1 жніўня ротмістр Смольскі, які выезжаў на віжаванне, паведаміў Радзівілу, што казацкі лагер апусцеў. Гетман накіраваў у варожы стан харугву на чале з Мірскім. Жаўнеры знайшлі непадалёк ад казацкага стана Крычэўскага, а каля яго смяротна параненага маладога сябра Шапка-Хатольскага, сына віцебскага вайскавога.[78] Палкаводзец марудна паміраў, пакінуты тымі, за каго ён змагаўся. “Полумёртвого Кречовского, лежавшего на возу, литовцы привезли в лагерь”.[79] Радзівіл з павагай сустрэў

75 Липинський В. Участь шляхти у великому українському повстанні під проводом гетьмана Богдана Хмельницького. Т.2. С.417.
76 Там сама. С.417.
77 Kubala L. Jerzy Ossolinski. Lwow. 1922. S.250.
78 Липинський В. Участь шляхти у великому українському повстанні під проводом гетьмана Богдана Хмельницького. Т.2. С.421.
79 Костомаров Н. Богдан Хмельницкий. Т.1. СПб., 1859. С.458




*Іл-я 14. Схема Лоеўскай бітвы 3. Разгром Падбайлы.*

Становішча казацка-сялянскага войска яшчэ больш пагоршылася, калі стражнік Мірскі са сваёй гусарскай харугвай, казацкімі харугвамі гетмана і Юрыя Южыца, татарскімі Раманоўскага і Карацэвіча, драгунскімі Нольда і Віхмана і палком рэйтараў Тызенгаўза перахапіў абоз і рассеяў пяхоту Крычэўскага, якія рухаліся брагінскім шляхам (літара L). Мілі не хапіла, каб падмога прыбыла да паўстанцаў.

Крычэўскі, скарыстаўшыся тым, што харугвы Мірскага адступілі ад казацкага стана, паспрабаваў перахапіць ініцыятыву і выправіць становішча. Казакі выступілі з засекаў. Але Радзівіл адразу рушыў у наступ пяхоту Юшкевіча і Падлецкага, драгунаў Данавая Шкота і некалькі сваіх спешаных гусарскіх харугваў пад камандай Крыштафа Катоўскага. Падышла і нямецкая пяхота Ацэнгаўза, якая перапраўілася з левага берага Дняпра. Гэтай атакі казакі не вытрымалі і павярнулі назад у табар.





нымі брамамі. Па перыметру мястэчка праз пэўныя прамежкі абарончай сцяны былі пабудаваны невысокія вартавыя вежы. На суседняй ад замка гары, якую лаяўчане называлі Гілевай гарой, пазначана Свята-Троіцкая царква.

На Лоевай гары паказаны замак з невысокімі драўлянымі сценамі і вежамі. У цэнтры замка адлюстравана вялікая пабудова –напэўна адміністрацыйны будынак старасства. Каля падножжа Лоевай гары знаходзілася ўмацаваная земляным валам ад нападаў з боку ракі ворагаў набярэжная, якая выконвала функцыю рынкавай плошчы.[50] Контуры абарoнных замкавых равоў яшчэ і зараз візуальна праглядаюцца на замчышчы, на якім размешчаны гарадскі парк і паўднёвая частка прылягаючай да яго вуліцы. (*Іл-я 7. ”Loiow oppidum” А. ван Вестэрфельд. ( Копія XVIII ст., папера, аловак, пам. 20,3х32,7 см). Малюнак знаходзіцца ў Музеі войска польскага ў Варшаве (ін. № 16607 А)*)

Ёсць звесткі, што на працягу 1651-1655 гг. лоеўскім і любечскім старастам быў выдатны дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, ваявода віленскі і вялікі гетман літоўскі Януш Радзівіл, які з’яўляўся адначасова і старастам любечскім. Падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654-1667 гг. Лоеў быў заняты і спустошаны ў 1654 г. войскам наказнога казацкага гетмана Івана Залатарэнкі. Тады ён быў уключаны гетманскай уладай у межы казацкай адміністрацыі і прыпісаны да канца вайны да Чарнігаскага палка – адміністрацыйнай адзінкі на гетманскай Украіне. Соценным месцам Чарнігаўскага палка стаў і Любеч. Пасля смерці Я.Радзівіла ў 1655 г. Лоеўскае і Любецкае старасты перайшлі да житомірскага старасты і чарнігаўскага ваяводы, падчашага ВКЛ Льва Крыштафа Тышкевіча, але гэтая пасада ў абставінах вайны, відавочна, была чыста фармальнай.

Пасля вайны паводле Андрусаўскага міра 1667 г. Лоеўскае старaства ўвайшло ў склад Рэчыцкага павета Мінскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. Вядома, што лоеўскім старастам у 1668-1675 гг. быў Казімір Халецкі, які адначасова з’уляўся і ста-

50 Drescik Jan Jakub. Kampanie wojsk Wielkiego ksiestwa Litewskiego przeciw powstaniu Chmielnickiego w rysunkach Abrahama van Westervelt. // Muzealnictwo wojskowe. Warszawa, 2000. T.7. S.417.

растам мазырскім. К. Халецкі вядомы тым, што дазволіў расійскім стараверам пасяліцца на сваіх вотчынных землях і заснаваць Веткаўскую слабаду. Нягледзячы на тое, што ў 1569 г. Любецкае староства у складзе Кіеўскага княства было павернута Рэчы Паспалітай, Любеч і Лоеў канчаткова перасталі існаваць як адзіны адміністрацыйны рэгіён.

У сувязі з тым, што дробнапамесная шляхта Лоеўскага староства ў сваёй большасці падтрымала паўстаўшых украінскіх казакаў і ўступіла ў іх лавы на баку Расіі ў вайне 1654-1667 гг., яна была пазбаўлена сваіх зямельных уладанняў на правабярэжжы Дняпра. Каралеўскім прывілеем ад 8 чэрвеня 1661 г. Лоеўскае староства было перададзена войску ВКЛ. У 1670 г. рашэннем сойма была створана спецыяльная камісія з 7 чалавек (2 сенатары і 5 соймавых дэпутатаў), якая павінна была ўрэгуляваць пытанні паступлення грашовых сродкаў з Лоева для аплаты арміі ВКЛ. Вядома што сярод членаў гэтай камісіі быў маршалак ВКЛ Аляксандр Палубінскі і рэчыцкі харунжы Міхайла Юдзіцкі.

У 1676 г., па прапанове соймавай камісіі, паўднёвая частка Лоеўшчыны разам з Верхнім (Старам) Лоевам была перададзена соймам Рэчы Паспалітай у спадчыннае ўладанне Міхалу Станіславу Юдзіцкаму, славутаму кіраўніку абароны Ляхавіч падчас іх аблогі расійскімі войскамі князя Івана Хаванскага ў 1660 г. Тады ж, як соймавы камісар, ён устанавіў дакладныя межы Лоеўскага староства. У гэты час у склад Лоеўскага староства ўвайшлі Бывалькі, Глушэц, Дзяражычы, Малажын, Хракавічы і іншыя вёскі, размешчаныя на правабярэжжы Дняпра, якія раней адносіліся да Любечскага староства, у сваю чаргу левабярэжныя землі і вёскі Абакумы, Каменка, Пазнапалы і Папоўка ўжо не згадваюцца ў складзе Лоеўскага староства.

Вядома таксама, што ў 1677 г. паўночную частку Лоеўскага староства разам з Ніжнім Лоевам і замкавымі вёскамі Мохаў, Ізбін, Ісакавічы атрымаў па рашэнні сойма ўдзельнік Лоеўскай бітвы 31 ліпеня 1649 г. маршалак ВКЛ Аляксандр Гілярый Палубінскі, менавіта гэтыя землі выкупіў Юзаф Юдзіцкі у спадчыннікаў Палубінскага ў другой палове XVIII ст.[51]

51 Пашкевіч У. Да пытання аб уладальніках Лоеўскай зямлі ў XVI -XVIII ст. // Гісторыя Лоевской




скім шляхам. За чвэрць гадзіны казакі пабудавалі ў дняпроўскіх тэрасах засеку з дрэва, хмызняку, трупаў забітых людзей і коней, недаступную для атакі конніцы ворага, і падрыхтаваліся змагацца да апошняга.[73]

Сцяпан Падабайла, атрымаўшы звесткі аб пачатку бітвы за Лоевам, падзяліў Чарнігаўскі полк. Сам з часткай загона застаўся ў стане на выпадак нападу нямецкай пяхоты Ацэнгаўза, што акапалася на правым беразе Сожа. Другая частка загона на чале з сотнікам Антонам Маркам і кіеўскім шляхцічам Гарнастаем пачала фарсіраванне Дняпра ніжэй Лоева, каб дапамагчы Крычэўскаму (літара К). Але падрыхтоўка і пераправа занялі шмат часу. Калі першыя казацкія аддзелы Падабайлы пачалі пераправўляцца праз Татарскі брод на Дняпры, Крычэўскі ўжо вымушаны быў адступіць пасля няўдалага для яго бою. Больш таго, Радзівіл накіраваў у наступ на Крычэўскага конныя харугвы на чале са стражнікам Мірскім, а сам з драгунамі, пяхотай і гарматамі паспеў да месца пераправы (літара О). Шмат лодак было патоплена, але частка загона Падабайла змагла высадзіцца на бераг і акапацца. Агонь гармат расчысціў шлях ліцвінскаму войску. Супраць казакаў гетман кінуў у бой пяхотныя і драгунскія аддзелы маёра Ясперса, капітанаў Пшыпкоўскага, Больта, Рапа, Мантгомеры, Фіберга, пад агульным кіраўніцтвам палкоўніка Гансгофа. Пачалася жорсткая сеча. Двойчы жаўнеры штурмавалі шанцы. Казакі адчайна супраціўляліся. Нарэшце сам Радзівіл з трымя казацкімі коннымі харугвамі ліцвінаў кінуўся ў бой. Атака пяхоты і конніцы адкінула казакаў Падбайлы за Дняпро. З трох тысяч да берага дабраліся ці не трыста казакаў.[74] Так Падабайла быў выведзены з бою. (Месца разгрома аддзела Падбайлы зараз называецца Казацкі пясок.)

73 Історія українського війска. Львів, 1992. С. 577.
74 Чаропка Вітаўт. Уладары вялікага Княства. Мн.,1996. С.480.

Краўчанка і іншых.[72] ( У ліпені 1997 года на ўскрайку Гладкага поля ўстаноўлены трохметровы шасціканцовы крыж у памяць аб загінуўшых у Лоеўскай бітве.)




*Іл-я 13. Схема Лоеўскай бітвы 2. Атака Паўловіча і Камароўскага. Адступленне Крычэўскага.*

Правае крыло Крычэўскага, на якім стаяў Кіеўскі полк разам са сваім палкаводцам, пад націскам праціўніка адступіла да лесу, спусцілася ў даліну Дняпра, дзе хутка атабарылася сярод балот і хмызнякоў ва ўрочышчы Градкі (літара N), недалёка ад Татарскага броду і адначасова ад брагінскага шляху. ( Гэтае ўрочышча зараз называецца Разгром.) Бо хаця Пабадайла і не паспеў да пачатку бітвы з дапамогай, але патрэбна было чакаць яго з хвіліны на хвіліну. Ды і абоз з пяхотаю павінен быў хутка падыйсці брагін-

72 Slownik geograficzny. T.5. Warszawa, 1884. S.686.




Такім чынам Лоеў і Лоеўшчына патрапілі ў вотчынную ўласнасць і да адмены прыгоннага права ў 1861 г. былі пераважна прыватным уладаннем шляхецкага роду Юдзіцкіх.[52] Але гэта ўжо іншая тэма і гістарычны кантэкст.

## Лоеўская бітва

У сярэдзіне XVII ст. беларускаму мястэчку Лоеў наканавана было стаць тым месцам, дзе двойчы сутыкнуліся варагуючыя сілы казацка-сялянскай вайны 1648-1651 гг. Адна з іх – шляхецкая, дзяржаўніцкая – абараняла існуючыя парадкі і дзяржаву – Вялікае княства Літоўскае, другая – казацка-сялянская, ахапіўшая Украіну, – імкнулася пашырыцца на беларуска-літвінскія землі. Менавіта тут, пад Лоевам, 31 ліпеня 1649 г. адбылася знакамітая бітва паміж войскам Вялікага княства Літоўскага пад началам гетмана польнага князя Януша Радзівіла і казацка-сялянскім войскам гетмана казацкага наказнога Міхайлы Крычэўскага. Гэта была буйнейшая бітва казацка-сялянскай вайны на тэрыторыі ВКЛ, у якой з абодвух бакоў удзельнічала больш за 40 тысяч ваяроў, і яна, безумоўна, наклала значны адбітак на далейшы гістарычны лёс беларускага і украінскага народаў. (*Іл-я 7а. Памятны знак на ўскрайку Гладкага поля на месцы пачатку Лоезскай бітвы 31 ліпеня 1649 г.*)

### Пралог

Распачатае ў 1648 г. на Украіне казацкае паўстанне пад кіраўніцтвам гетмана Багдана Хмяльніцкага хутка вылілася ў вялікую антыфеадальную казацка-сялянскую вайну. Падчас гэтай вайны ў украінскага гетмана і казацкай старшыны ўзнік план стварэння сваёй дзяржавы, у межы якой яны імкнуліся ўключыць і Бе-

землі Факты.Каментарыі… С.59.; Кондратьев Ігор. Любецьке староство (XV- середина XVII ст.) С.269,273,293,296.
52 Анісавец В., Анісавец М, Юдзіцкія -ураднікі рэчыцкія, "графы лоеўскія".// Беларускі гістарычны часопіс. №2. 2011. С.49-56.

ларусь. Яшчэ ў маі 1648 года Багдан Хмяльніцкі пачаў засылаць на Беларусь сваіх агітатараў. Сацыяльная глеба для паўстання тут была прыдатная, таму што большасць насельніцтва было вельмі незадаволена існуючымі дзяржаўнымі парадкамі. Вярхушка беларускага грамадства да гэтага часу амаль уся прыняла каталіцтва і апалячылася, пагэтаму антыфеадальны сялянскі рух прымае выразную антыпольскую, антыкаталіцкую скіраванасць.

У хуткім часе на Палессе пачынаюць прыбываць загоны украінскіх казакаў, якія распачынаюць шырокую ўзброеную барацьбу супраць шляхты і каталіцкага духавенства. Сялянства Палесся ў значнай ступені прыстае да казацкіх загонаў. Узброіўшыся, сяляне грамілі маёнткі сваіх паноў, знішчалі падатковыя дакументы і рэестры. Да казакаў і сялян актыўна далучаліся і гарадскія нізы. Да пачатку восені 1648 года жыхары Пінска, Бабруйска, Мазыра, Гомеля, Лоева, Рэчыцы, Турава “ўсе паказачыліся і пакляліся адзін другому стаяць да апошняга”.[53] Казацкія і сялянскія аддзелы дзейнічалі нават каля Менска і Навагрcraдка.

Перапалоханая шляхта ўцякала падалей ад сваіх сялян і звярталася за дапамогай да ўрада. Але з боку дзяржавы супраць паўстанцаў доўгі час не праводзілася актыўных ваенных акцый, таму паўстаўшым удалося захапіць асноўныя гарады беларускага Палесся. Толькі ў кастрычіку 1648 года супраць паўстаўшых было накіравана войска Вялікага княства Літоўскага пад кіраўніцтвам гетмана польнага князя Януша Радзівіла, постаці ў гісторыі яркай і самабытнай. (*Іл-я 8. Януш XI Радзівіл. Мастак Лейбовіч Гірш. (Малюнак 1758 г., папера, пам. 35,5х26,5 см). Знаходзіцца ў фота архіве Музея войска польскага ў Варшаве (ін. № 182428/54).*)

Прадстаўнік найбуйнейшага магнацкага роду, ён атрымаў выдатную адукацыю ва універсітэтах Германіі і Галандыі. Займаў важнейшыя пасады ў ВКЛ: падкаморнага, гетмана польнага, ваяводы віленскага, а ў апошнія гады свайго жыцця – вялікага гетмана літоўскага.

Патрыёт сваёй Радзімы –Вялікага княства Літоўскага – ён шукаў шляхі ўмацавання яе дзяржаўнасці і аднаўлення незалежнасці. Вядомы факт, калі Януш Радзівіл у час сваркі з польскай шляхтай

53 Дакументы об освободительной войне украинского народа 1648-1654 гг. Киев, 1965, С 104.








*Іл-я 12. Схема Лоеўскай бітвы 1. Атака Крычэўскага на стан.*

ВКЛ стрымлівала адвагу і запал паўстанцаў. Нямецкая харугва прыняла на сябе ўдар. Некалькі дзесяткаў жаўнераў заселі ў млыне і білі казакаў кулямі з тылу. Каля самага стана кіпеў бой.[70] У гэты час усё вырашыў выпадак.

Аддзелы Камароўскага і Паўловіча ў 1200 коннікаў, якія вярталіся з-пад Брагіна, з ходу ўдарылі з тылу (літара Н). Становішча рэзка змянілася. Казацкая армія апынулася між двух агнёў, яна была разарвана на дзве часткі. Левае крыло яе было рассеяна ліцвінскімі коннымі харугвамі Вінцэнта Гансеўскага, Гротуса, Курпскага, Мялешка, Нольда і іншых і “высечана ў пень.”[71] (Літары І і М) Падчас першага бою Крычэўскі страціў 12 харугваў, 3 тысячы людзей і здольных сваіх атаманаў Рыгора Галоту, Капусту,

70 Чаропка Вітаўт. Уладары вялікага княства. Мн.,1996. С.478.
71 Kotlubaj E. Zycie Janusza Radziwilla. Wilno, 1859. S. 369.

падзей войска ВКЛ не магло доўга пратрымацца за валамі палявога стана, бо не мела значных запасаў харчавання.

Раніцай 31 ліпеня Радзівіл у суправаджэнні стражніка Мірскага і палкоўніка Тызенгаўза аглядаў умацаванні стана. Падчас гэтага занятка прымчаў коннік з харугвы Бардзікоўскага. Паведаміў, што Крычэўскі ў паўтары мілі ад стана за полем, якое мясцовыя жыхары называлі Гладкім, рыхтуецца да атакі.

Радзівіл загадаў Мірскаму рыхтаваць конніцу да бою, а сам заняўся ўмацаваннем грэблі, дзе размясціў венгерскіх пехацінцаў капітана Яна Юшкевіча і польскую харугву Пятра Падлецкага (літара G). А 9-ай гадзіне, калі яшчэ пяхота не закончыла шыхавацца за грэблей, з лесу на Гладкае поле выскачылі першыя казацкія аддзелы (літара F). Іх сустрэла густым агнём ліцвінская пяхота. Зазнаўшы значныя страты, першыя казацкія харугвы спешыліся і акапаліся. Радзівіл накіраваў у бой кавалерыю паручніка Лукаша Хадаркоўскага, казакі разбілі гэту харугву. Тады гетман кінуў у атаку закаваныя ў браню гусарскуія харугвы стольніка Гансеўскага і паручніка Невяроўскага. Але казакі – майстры ў маланкавым пераходзе ад тактыкі коннай да пешай і наадварот, віталі гусараў, что лезлі навослеп, градам куль.[68] Пасля працяглага бою, не даўшага перавагі ніводнаму боку, Крычэўскі прыбег да падманнага манеўру. Яго правы фланг пачаў адступленне да лесу. Радзівіл, не разгадаўшы падману, скіраваў на гэты ўчастак усе свае рэзервы, разлічваючы развіць "поспех". Ён кінуў у бой венгерскую і польскую пяхоту, а затым і сам павёў у атаку цяжкіх нямецкіх рэйтараў палкоўніка Тызенгаўза і драгунаў курляндца маёра Нольда.

У гэты час левы фланг Крычэўскага імклівым разваротам выйшаў у тыл ліцвінскаму войску, а правы фланг, спыніўшы адступленне, зноў ударыў па ворагу. Заціснутае з двух бакоў, войска ВКЛ несла вялікія страты. Загінуў паручнік Ян Пракульбіцкі, пад паручнікам Невяроўскім і стольнікам Вінцэнтам Гансеўскім былі забіты коні, апошні атрымаў лёгкае раненне ў нагу.[69] Аж да брамы стану ліцвінаў прарваліся казакі. Але больш вывучанае войска

68 Липинський В. Участь шляхти у великому українському повстанні під проводом гетьмана Богдана Хмельницького. Т.2. Філядэльфія, 1980. С.411.

69 Липинський В. Участь шляхти у великому українському повстанні під проводом гетьмана Богдана Хмельницького. Т.2. Філядэльфія, 1980. С.411.




на паседжанні рады прыгразіў палякам: "Прыйдзе час, паны-палякі да дзвярэй не патрапяць: праз вокны іх выкідваць будзем ".[54] Больш таго, у 1655 г. ён разрывае Люблінскую унію з палякамі і заключае Кейданаўскае пагадненне са шведамі, каб скарыстацца іх падтрымкай і дамагчыся незалежнасці Вялікага княства. Але атручаны сваімі ворагамі, памірае. Вядома таксама, што падчас казацка-сялянскай вайны Багдан Хмяльніцкі быў у перапісцы з Радзівілам , прапаноўваў яму план сумесных дзеянняў супраць палякаў, але ж паразумення два палкаводцы і палітыкі тады не знайшлі.

Войска князя Радзівіла рухаецца ад Бярэсця на ўсход. Пачынаецца знішчэнне паўстанцкага руху, вызваленне Пінска, Турава, Мазыра, Бабруйска, Рэчыцы, Лоева і да сярэдзіны 1649 г. на Палессі ліквідуюцца ўсе асноўныя асяродкі хваляванняў.
Паражэнні казакаў на Беларусі ўстрывожыла Багдана Хмяльніцкага, бо шлях ліцвінскаму войску на Кіеў быў адкрыты. Хмяльніцкі тэрмінова прыслаў у канцы чэрвеня на Беларусь 6-тысячны Чарнігаўскі полк казакаў на чале з палкоўнікам Пабадайлам (Падабайлам). Чарнігаўскаму палку былі прыданы асобныя беларускія атрады і казацкія сотні кіеўскага шляхціча Гарнастая і палкоўніка Гаркушы і пастаўлена задача заняць пераправу праз Дняпро каля Лоева і не пускаць ліцвінаў на Украіну.

Хмяльніцкі баяўся ліцвінскага ўдару ад Лоева на Кіеў, ведаў моц радзівілаўскага войска, пагэтаму незабаве выправіў на дапамогу чарнігаўцам пад Лоеў Кіеўскі полк Міхайлы Крычэўскага (10 тысяч вершнікаў), да якога ў Чарнобылі прыядналіся Оўруцкі полк Івана Бруякі (3,5 тысячы), Чарнобыльскі полк Міхайлы Панкевіча (2 тысячы) і Брагінскі полк Рыгора Галоты (2 тысячы казакаў). Агульная колькасць казацкага войска складала 17500 чалавек.[55] Кіраванне ўсімі казацкімі палкамі украінскі гетман даручыў свайму куму палкоўніку Міхайлу ( у каталіцтве Станіславу) Крычэўскаму.[56] (*Іл-я 9. Невядомы ў беларускай гісторыяграфіі*

54 Чаропка Вітаўт. Уладары вялікага Княства. Мн.,1996. С.448.

55 Степанков В. Станіслав-Михайло Кричевський.// Історія України в особах: Козаччина. Київ, 2000. С.52.

56 Степанков В. Станіслав-Михайло Кричевський.// Історія України в особах: Козаччина. Київ, 2000. С.51.

*каляровы лубочны партрэт М. Крычэўскага, з архіва амерыканскай мастачкі украінскага паходжання К.В. Крычэўскай-Расандзіч.*)

Міхайла Крычэўскі нарадзіўся ў маёнтку Крычава Брэст-Літоўскага ваяводства ў небагатай шляхецкай сям'і[57], якая, аднак, мела свой радавы герб.[58] Шляхціч і слаўны рубака, ён удзельнічаў у многіх паходах і бітвах кароннага польскага войска. Быў час, калі Хмяльніцкі служыў сотнікам у Чыгірынскім палку, якім камандаваў з 1643 г. Крычэўскі. А ў 1647 г. ён ўратаваў "бацьку Хмеля" ад немінучай смерці, вызваліўшы будучага гетмана Украіны з вязніцы. Пасля бітвы пад Жоўтымі Водамі ў маі 1648 г. і татарскага палону перайшоў на бок паўстанцаў. Карыстаўся вялікім аўтарытэтам у Багдана Хмяльніцкага. Менавіта Крычэўскаму на пачатку 1649 года Хмяльніцкі даручыў кіраўніцтва Кіеўскім палком. А ў час, калі ўзнікла пагроза наступу войска ВКЛ з поўначы на Кіеў у тыл казакам, Хмяльніцкі надаў Крычэўскаму тытул гетмана наказнога і накіраваў на чале казацкага войска на беларускія землі, каб пашырыць тут полымя антыфеадальнай сялянскай вайны і не пусціць Радзівіла на Украіну. Да казакаў адразу далучылася звыш 15 тысяч беларускіх сялян. Разам з мясцовым сялянствам сілы Крычэўскага дасягалі больш 30 тысяч.[59]

Радзівіл пра выправу на Беларусь казацкага войска даведаўся ў Слуцку. Адтуль ён хутка накіраваўся да Рэчыцы, куды прыбыў 3 ліпеня. Стан уласнага войска не радаваў гетмана. Усяго 5965 жаўнераў.[60] Сіл не хапала, пагэтаму ён прымае меры па ўмацаванню харугваў, папаўненню запасаў зброі, пораху і куль.

Віжы данеслі, што Чарнігаўскі полк палкоўніка Падабайлы стаіць насупраць Лоева ў сутоцы Дняпра і Сожа. Рэкі надзейна ахоўвалі казацкае войска з трох бакоў. Свой стан казакі ўмацавалі валамі і адчувалі сябе ў бяспецы.

57 Беларуская энцыклапедыя. Т.8. Мн., 1999. С.527.
58 Степанков В. Станіслав-Михайло Кричевський. С.54.
59 Беларуская энцыклапедыя. Т.9. Мн., 1999. С.337.
60 Wisner Henrvk. Dzialalnosc wojskowa Janusza Radziwilla 1648-1654.// Rocznik Bialostocki. T.13. Warszawa, 1976. S.75.




даведаўся аб выступленні войска ВКЛ супраць загона Падабайлы. Штурмаваць Рэчыцу не было сэнсу: толькі час і людзей страціш. Крычэўскі павярнуў свaё войска да Лоева. У Холмечы, якую казакі ўзялі раніцай 29 ліпеня з дапамогай мяшчан і мясцовага святара, удалося захапіць вялікую колькасць пораху і прадуктаў харчавання. Некалькі дзесяткаў коннікаў, якія разам з ротмістрам Сакалоўскім абаранялі Холмеч, былі забіты. Толькі адзінкі змаглі ўцекці ў непралазныя прыдняпроўскія хмызнякі і дабрацца да вайсковага стана ВКЛ, каб папярэдзіць гетмана польнага аб небяспецы.

У Холмечы Крычэўскі даведаўся, дзе стаіць войска Радзівіла. Тут раніцай 30 ліпеня наказны гетман правёў вайсковую нараду з казацкай старшынай. Амаль уся старшына раіла яму не пачынаць наступленне да падыходу новых сіл з Украіны. Але пераканаўшы іх у неабходнасці наступу, Крычэўскі накіраваў сваё войска пад Лоеў.

Каб збіць ворага з панталыку, наказны гетман павёў сваю армію не прамым рэчыцкім шляхам па-над Дняпром, а з дапамогай мясцовых праваднікоў здзейсніў абходны манеўр і глыбокай ноччу выйшаў да стана Радзівіла з паўднёва-заходняга боку, ад Брагіна, адкуль яго не чакалі. Тады ж Крычэўскі памчаўся сярод ночы дакладна агледзець становішча непрыяцельскага стана. На шляху варожых пазіцый існавала адна істотная перашкода – багністая рэчка Вітач з грэбляй каля млына, якая была адзіным месцам пераходу на процілеглы бераг (літара Q). Ад авалодання грэбляй у значнай ступені залежала перамога. Дамовіўшыся з Падабайлам аб сумесных дзеяннях, наказны гетман на світанку вярнуўся да свайго войска.

Маючы больш чым трохкратную перавагу ў людзях, але горшую іх падрыхтоўку і ўзбраенне М.Крычэўскі вырашыў да падхода пяхоты і абоза сіламі сваёй кавалерыі распачаць наступленне. Раптоўны напад меў за мэту прымусіць Радзівіла, войска якога было раз'яднана на некалькі частак, адразу адступіць пад абарону валоў стана, а потым з падыходам пяхоты і палка Падабайлы ўзяць ліцвінскае войска ў шчыльную аблогу. Пры такім развіцці,

рухаюцца яму на дапамогу. 26 ліпеня гэтыя звесткі падцвердзіў і павярнуўшыся раз'езд Паўшы.[66]

Сапраўды, наказны гетман раніцай 24 ліпеня распачаў пераправу праз Прыпяць каля Бабічаў. Адразу ж на левым беразе рэчкі казакі сутыкнуліся з раз'ездам Лажэцкага і разграмілі яго. Ацалела толькі некалькі жаўнераў, якія спрамавалі да стана Радзівіла.[67]

Радзівіл адмяніў наступ на Падабайлу і адправіў з папярэджаннем да Рэчыцы восем соцень вершнікаў на чале з ротмістрам Адамам Паўловічам, а пад Брагін – конны аддзел паручніка Самуіла Камароўскага – цікаваць казакаў. У выпадку адсутнасці украінцаў каля Рэчыцы Паўловіч павінен быў далучыцца да Камароўскага і вяртацца брагінскім шляхам у Лоеў.

Тады ж было выбрана новае, больш зручнае, месца для стана ў трох мілях **на паўночны захад** ад Лоева каля млынка і грэблі цераз рэчку Вітач. ( На плане К.Эгірда рэчка Вітач памылкова названа Лоеўкай. Памылка верагодна ўзнікла таму, што акрамя Вітача ў XVII ст. існавала яшчэ адна рэчка-ручай Лоеўка, якая працякала непасрэдна праз Лоеў.) Кіраўніцтва будаўніцтвам стана князь усклаў на ротмістра польскай пяхоты Пятра Падлецкага. Паспешліва насыпаліся высокія валы вакол стана, які абараняні таксама чатыры рады звязаных ланцугамі вазоў, пастаўленых па кругу паміж валамі, расстаўляліся гарматы. 28 ліпеня Радзівіл увёў сваё войска ў стан. Гетман разумеў, што менавіта сюды прыйдзе Крычэўскі шукаць перамогу (літара Е). ( Зараз на мясцовасці захаваліся пляцоўка стана і валы – напэўна адзіная палявая фартыфікацыйная пабудова XVII ст. такога кшталту ў Еўропе.) *(Іл-я 11. Памятны знак на вайсковым стане ВКЛ пад Лоевам . Усталяваны мясцовымі краяведамі ў 2009 г. да 360-й гадавіны Лоеўскай бітвы 31 ліпеня 1649г. Здымак Анісаўца М. 11.* )

Ад Бабічаў Крычэўсі, захапіўшы 4 гарматы, накіраваўся да Рэчыцы. Наперадзе рухалася 10 тысяч лепшых коннікаў, астатнія спешыўшыся, ішлі з пяхотай, гарматамі і абозам. 27 ліпеня авангард украінцаў прыблізіўся да мястэчка. Тут наказны гетман

66 Wisner Henrvk. Dzialalnosc wojskowa Janusza Radziwilla. 1648-1654..S.76.
67 Степанков В. Станіслав-Михайло Кричевський. С.52.





**Бітва пад Лоевам 31 ліпеня 1649 года**

У Рэчыцы перад Радзівілам паўстала нялёгкае пытанне выбару далейшай стратэгіі дзеянняў. Кароль Ян Казімір раз за разам слаў гетману лісты, у якіх патрабаваў ударам на Кіеў прыйсці на дапамогу кароннаму польскаму войску. Але як выканаць гэтую задачу, калі сіл на вялікую наступальную кампанію не хапала? Удалося набраць толькі 8630 воінаў,[61] але нават для іх забяспячэння у казне бракавала грошай. Дый як пайсці на Украіну і пакінуць родны край без абароны, калі да яго межаў рухаецца шматтысячнае казацкае войска ? Але ж і пасіўна чакаць падыходу казакаў да Рэчыцы гетман не мог. Разумеў, бяздзейнасць у гэтай сітуацыі падобна самагубству. Гетман быў упэўнены, што неабходна ісці насустрач казацкім загонам і недзе там, у полі, у адкрытай бітве шукаць перамогу над "чэрню".

18 ліпеня Радзівіл выступіў з Рэчыцы, пакінуўшы невялікую “залогу” пад началам ротмістра Шварцгофа. Кавалерыя, атрылерыя і абоз павольна рухаліся ўздоўж берага. Пяхота пад началам Вінцэнта Гансеўскага на “байдаках” паплыла ўніз па Дняпры. За мястэчкам Холмеч гетманскае войска дагнаў вястун са звесткай, што казацкая армія ў Чарнобылі і рыхтуецца выправіцца да Прыпяці. Радзівіл скіраваў для абароны перапраў на Прыпяці казацкую харугву ротмістра Лажэцкага. Сам жа павярнуўся з пяхотай каля 1000 воінаў да Рэчыцы, каб умацаваць абарону мястэчка на выпадак прыходу сюды Крычэўскага. Але тут не абышлося без канфузу. Камендант Шварцгоф, заўважыў, што да Рэчыцы рухаецца войска, і палічыў, што гэта ўжо наступаюць казакі, загадаў падпаліць рэчыцкі пасад, а сам схаваўся за сценамі замка. Гетман пакінуў у Рэчыцы за каменданта ротмістра Фаленцкага, даў яму неабходныя даручэнні. Шварцгофа ж давялося забраць з сабой, бо надта ж незадаволенымі былі ім рэчыцкія мяшчане.[62]

Ліцвінскае войска чакала свайго палкаводца на ўзвышаным беразе Дняпра каля вёскі Ісакавачы ў 30 мілях ад Рэчыцы. ( Ляхава гара – так называюць зараз гэтае урочышча мясцовыя жыхары.) 20 ліпеня князь павярнуўся да войска і з аховай асабіста паехаў на

61 Wisner Henrvk. Dzialalnosc wojskowa Janusza Radziwilla 1648-1654. S.77.
62 Ibidem.S.76.

віжаванне, але вымушаны быў хутка вярнуцца назад, бо нечакана нарваўся на казацкі загон. Спасла толькі хуткасць конскіх ног.
21 ліпеня лёгкія харугвы ліцвінскага войска падступілі да Лоева. Галоўныя сілы падышлі толькі праз два дні.[63]

Агульная колькасць войска Радзівіла складала 7301 чалавек: 822 гусараў, 600 рэйтараў, 1660 драгунаў, 2009 казакаў, 1510 нямецкай, 700 польскай і угорскай пяхоты. 4088 жаўнераў, зведзеных у 4 палкі, былі добра ўзброеныя і падрыхтаваныя воіны з ліку беларуска-літоўскай шляхты і наёмнікаў, рэшту ж складалі пахолкі – простыя воіны.[64] У распараджэнні Радзівіла было таксама каля 40 гармат.[65]



*Іл-я 10. К.Эгірд. Гравюра " План бітвы пад Лоевам 31 ліпеня 1649г."*

Ход Лоеўскай бітвы на мясцовасці раскрывае гравюра выкананая па малюнку ўдзельніка гэтай бітвы, капітана радзівілаўскай арты-

63 Drescik Jan Jakub. Kampanie wojsk Wielkiego ksiestwa Litewskiego przeciw powstaniu Chmielnickiego w rysunkach Abrahama van Westervelt. // Muzealnictwo wojskowe. T.7. Warszawa, 2000. S.406
64 Wisner Henrvk. Dzialalnosc wojskowa Janusza Radziwilla. 1648-1654. S.77.
65 Степанков В. Станіслав-Михайло Кричевський. С.52.




лерыі Кшыштафа.Эгірда.

Літарамі пазначаны: A – умацаваны казацкі стан Падбайлы. B – стан пяхоты Ацэнгаўза. C –дзве харугвы ВКЛ. D – мястэчка Лоеў і замак. E – галоўны стан гетмана Радзівіла. F – пачатак бітвы. Наступ Крычэўскага на Гладкім полі. G – контрнаступ войска Радзівіла. H –удар паручніка Камароўскага у тыл казакам. I – бой на левым крыле казацкага войска. K – бой з казакамі Падбайлы каля Дняпра. L – захоп казацкага абоза. M –адступленне левага крыла казацкага войска. N – штурм казацкіх засекаў ва ўрочышчы Разгром. O – расстаноўка войск Радзівіла перад боем з Падбайлам. P – байдакі войска ВКЛ. Q – Рэчка Вітач (Лоеўка). R –дзве батарэі ВКЛ. S – вусце ракі Сож.

Новых звестак пра Крычэўскага не было. Гетман лічыў, што галоўныя украінскія сілы яшчэ далёка, але ўсё ж выслаў да Мазыра для выведкі конную харугву на чале з паручнікам Паўшам. Першапачаткова ж вырашыў даць бой Чарнігаўскаму палку Падабайлы (літара А на плане). Але пяхота спазнілася, прыплыла толькі пад вечар і адразу распачала бой (літара Р). Пешцы з байдакоў абстрэльвалі казацкі лагер. Казакі стралялі ў адказ і не дазвалялі прыблізіць байдакі да берага. Больш за гадзіну доўжылася перастрэлка, пакуль не надышла ноч. Урэшце рэшт нямецкая пяхота Ацэнгаўза высадзілася на левым беразе Дняпра і акапалася каля вусця Сожа (літара S), насупраць казацкага стана Падабайлы (літара В).

Апоўначы Радзівіл павёў войска ў Лоеў (літары С і D). З раніцы ўстанаўлівалі батарэі, капалі шанцы. З абодвух бакоў палілі гарматы (літара R). Яшчэ раз агледзеўшы мясцовасць, князь вырашыў адмовіцца ад прамой атакі на казакаў. Загадаў старанна рыхтавацца да рашаючай бітвы. Гетман планаваў ніжэй Лоева пераправіць пяхоту і некалькі конных харугваў, каб казакі падзялілі свае сілы, а пасля пад агнём гармат фарсіраваць на байдаках Дняпро і наўпрост ўдарыць па казацкім стане. Але раніцай 25 ліпеня прымчаўся на кані вястун і прывёз жахлівыя звесткі, што Крычэўскі з 40 коннымі харугвамі пераправіўся з-за Прыпяці і наступае, а другія 40 харугваў па той бок Прыпяці і Дняпра